—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
25
СНЕЖНЯ
1992 г.
№ 52 (3670)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 1 рубель. (Па падпісцы — 10 кап.)






Муры касцёла св. Тройцы на Залатой Горцы ў Мінску ўпрыгожылі 14 бронзавых рэльефаў-стацыяў Крыжовай Дарогі, створаныя скульптарам Валер'янам ЯНУШКЕВІЧАМ. Адліўка з бронзы была зроблена пры дапамозе мастацкай структуры Беларускай Каталіцкай Грамады за ахвяраванні парафіянаў касцёла.

АДКРЫТЫ ЛІСТ

# Патрэбна Акадэмія мастацтваў Беларусі

Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ШУШКЕВІЧУ С. С.,
Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь КЕБІЧУ В. Ф.

Кожная эпоха застаецца ў гісторыі народа перш за ўсё тым, што было створана ў яе час. Непарушную гісторыю нацыі, яе спадчыну стварае культура. Разам з навукаю грамадскую свядомасць фармуе мастацтва. І яго ролю ў гэтым працэсе ніякая другая сіла выканаць не можа. Мастацтва стварае традыцыйны светапогляд народа, яго духоўны вобраз і гістарычны твар. Толькі духоўная, гуманітарная культура і ў першую чаргу літаратура і мастацтва здольныя выхаваць у чалавека цэласнае светаўспрыманне, адносіны да жыцця, традыцыйнае разуменне сэнсу свайго існавання і сваёй працы. Мастацтва вучыць творчаму мысленню і ўводзіць чалавека ў свет нацыянальнай і сусветнай культурнай спадчыны. Выхоўвае самасвядомасць, мараль і сумленне. Іншымі словамі, мастацтва нясе чалавеку тое, што робіць яго чалавекам. Так склаўся гістарычны лёс нашай культуры, такая традыцыйная роля мастацтва ў жыцці.

Але ў стане эканамічнага заняпаду і разбурэння грамадскіх структур мастацтву пагражае вялікая небяспека. Яно можа панесці страты, якія немагчыма будзе аднавіць. Знікненне традыцый высокага мастацтва і літаратуры вядзе да знішчэння значнай часткі культуры ўвогуле. Класічнае мастацтва, таксама як і фундаментальная навука, акрэсліваюць узровень духоўнага жыцця народа, яго інтэлектуальную сталасць і самастойнасць. Гібель духоўнай культуры заканапаложна прывядзе да страты нацыянальнай самасвядомасці і духоўнага знікнення народа.

Каб культура магла процістаяць гэтаму працэсу, яна павінна мець пэўныя структуры, здольныя захаваць яе традыцыі і набыткі. Ва ўсім свеце каштоўнасці, традыцыі і метады стварэння класічнага мастацтва, фундаментальнай культуры захоўваліся і развіваліся ў сценах акадэмій.

Таму, у мэтах захавання і развіцця культурнай спадчыны, творчых традыцый і ўзроўню класічнага мастацтва, павінна быць створана Акадэмія мастацтваў Рэспублікі Беларусь. Дзяржаўная шматпрофільная структура, якая будзе здольна звесці ў адзіны цэнтр вопыт творчасці і мыслення, жывую творчасць пісьменнікаў, мастакоў, архітэктараў, музыкантаў, дзеячаў тэатра і кіно, тэарэтыкаў мастацтва. Толькі акадэмічная структура здольна развіваць фундаментальную культуру і традыцыі ў мастацтве, кіраваць працэсам мастацкай адукацыі. Дзяржаўная культурная палітыка, культурна-асветніцкая і навукова-даследчая дзейнасць будуць мець такім чынам грунтоўны навуковы ўзровень.

У гэтым — адна з гарантый будучыні нашай культуры, рэальная магчымасць захаваць для наступных пакаленняў творчыя традыцыі і ўвесці людзей у свет нацыянальнай спадчыны. Гэта ўмова, без якой немагчыма зберагчы на зямлі шмат непаўторных рысаў беларускай культуры і захоўваць духоўную самастойнасць народа.

П. ПАНЧАНКА, З. АЗГУР, В. БЫКАЎ, Я. ГЛЕБАЎ, А. КАШКУРЭВІЧ, Л. ШЧАМЯЛЁЎ, С. СТАНЮТА, М. САВІЦКІ, М. ТАНК, Я. БРЫЛЬ, Г. СЫСОЕЎ, В. ТУРАЎ, В. ЕЛІЗАР'ЕЎ, Г. ПАПЛАЎСКІ, Н. ГІЛЕВІЧ.

# Кола Дзён

21 снежня ў 16 гадзін 43 хвіліны пачалася... зіма. Зіма астранамічная. Сонца ў гэты момант дасягнула найбольшай аддаленасці ад нябеснага экватара — кропкі зімовага сонцастаяння. З пачаткам астранамічнай зімы дзень пачынае большаць, Сонца ідзе ўгару.

А сёння Еўропа і ўвесь каталіцкі свет святкуюць Нараджэнне Хрыстова — самае жаданае і самае ўзнёслае свята ў хрысціянскай традыцыі. Беларусь таксама Еўропа, але што да ментальнасці, дык яна яшчэ толькі ўбіраецца на еўрапейскі кшталт. Асабліва гэта тычыцца ментальнасці ўлад. Другі раз каталіцкія Каляды адзначаюцца ў рэспубліцы як дзяржаўнае свята, але ўчора, напрыклад, у менскім саборы св. Роха да позняга вечара ішоў філарманічны канцэрт, і толькі на 22-ю гадзіну была прызначана святочная імша — як Беларуская каталіцкая грамада не спрабавала вырашыць пытанне аб пераносе канцэрта на іншы дзень.

Еўропа, ментальнасць, Каляды...

**17 СНЕЖНЯ**

**У Кіеве адбыліся міжурадавыя перагаворы паміж Беларуссю і Украінай. Падчас іх падпісаны шэраг дакументаў аб эканамічным супрацоўніцтве дзвюх рэспублік. Прэзідэнт Украіны Л. Краўчук заявіў на сустрэчы з журналістамі, што эфектыўнасць СНД аказалася нізкай, і двухбаковыя адносіны выходзяць на першы план.**

**18 СНЕЖНЯ**

**У друку змешчаны ліст дзеячаў мастацтва і літаратуры Беларусі да Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі і Старшыні Савета Міністраў — аб неабходнасці адкрыцця Акадэміі мастацтваў Рэспублікі Беларусь. У лісце кажацца пра крызіс культуры, пра дзяржаўную шматпрофільную структуру як гарант зберажэння і развіцця культуры Беларусі. Падпісалі ліст П. Панчанка, З. Азгур, В. Быкаў, В. Тураў, А. Кашкурэвіч, М. Савіцкі і інш.**

**19 СНЕЖНЯ**

**У менскім Доме літаратара пачаў работу Першы сход беларусаў бліжняга замежжа, сабраны ініцыятывай Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

**Адбыліся два партыйныя з'езды — Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.**

**20 СНЕЖНЯ**

**У Малдову адбыла дэлегацыя Беларусі на чале з С. Шушкевічам. Падпісаны дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Малдова і Рэспублікай Беларусь.**

**Прайшлі першыя заняткі ва ўкраінскай нядзельнай школе, што арганізавана на базе СШ № 73 г. Мінска.**

**21 СНЕЖНЯ**

**У гарадскім пасёлку Мір адбылася сустрэча Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіча, кіраўнікоў некаторых міністэрстваў і ведамстваў, творчых саюзаў з дзеячамі мастацтва, пісьменнікамі. Сябрына агледзела адрэстаўраваную частку Мірскага замка і, спаміж іншага, абмеркавала праблемы культурнага адраджэння Бацькаўшчыны.**

**22 СНЕЖНЯ**

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Карэя ў Рэспубліцы Беларусь Хонг Сун Ёнг уручыў даверчыя лісты Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічу.**

**Згодна новаму Закону аб вайсковай прысязе, прыняць яе змогуць толькі грамадзяне Беларусі. Дата прыняцця — 31 снежня г. г.**

**23 СНЕЖНЯ**

**Кіраўніцтва Таджыкістана аб'явіла аб стварэнні ўласнай нацыянальнай арміі.**

**ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК**

# ПЕРАД ФІНІШАМ

**Заканчэнне мінулага рабочага тыдня на сесіі супала з візітам на Беларусь Старшыні Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі А. Бразаўскаса, які выконвае абавязкі прэзідэнта краіны. Дарэчы, гэта быў першы замежны візіт нядаўна выбранага літоўскага кіраўніка.**

**Магу засведчыць, што выступленне Бразаўскаса ў беларускім парламенце выклікала непадробную цікавасць ва ўсіх, хто прысутнічаў у зале. У сваёй кароткай, але энергічнай і змястоўнай прамове ён зрабіў акцэнт на тым, што народы дзвюх суседніх дзяржаў звязвае не толькі шматвяковая гісторыя, але і агульныя палітычныя і эканамічныя інтарэсы. Сёння як недарэчнасць успрымаецца той факт, што паміж Літвой і Беларуссю ўсё яшчэ няма афіцыйных дыпламатычных адносін. Няма, на жаль, і гандлёвых прадстаўніцтваў. Аднак, на думку літоўскага кіраўніка, паспяховыя перамовы з кіраўніцтвам Беларусі даюць падставы спадзявацца на хуткія змены да лепшага ў двухбаковым супрацоўніцтве.**

**Бразаўскас выказаў, між іншым, меркаванне, што Беларусь у эканамічным плане жыве за раз лепш, чым Літва. Але гэты камплімент, думаецца, не дае ніякіх падстаў беларускім дэпутатам для самазаспакаення.**

**Тое, што на працягу двух месяцаў Вярхоўны Савет двойчы разглядаў пытанне аб павышэнні мінімальнай зарплаты (з Новага года яна будзе складаць 3 тысячы рублёў у месяц), наўрад ці гаворыць аб стабілізацыі эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. І хаця прафсаюзы адмянілі акцыі пратэсту, прызначаныя на 22 снежня, гэта, хутчэй за ўсё — толькі перадышка. У дэпутатаў, якія раз'ехаліся на калядныя канікулы, будзе магчымасць яшчэ раз паразважаць над сітуацыяй і над законамі аб уласнасці на зямлю і аб прыватызацыі, што будуць разглядацца ў студзені.**

**Па настаянні ўрада парламент пад заслону перад канікуламі прыняў змены ў падаткавым заканадаўстве. Пры гэтым кожная папраўка прымалася з боем, і гэта зразумела, бо пытанне карэнным чынам закранае інтарэсы падаткаплацельшчыкаў...**

**У аўторак стала вядома, што сустрэча ў Мінску кіраўнікоў незалежных дзяржаў зноў пераносіцца. Паводле афіцыйнай версіі прычына — нездароўе прэзідэнтаў Расіі і Казахстана. Праўда, Н. Назарбаеў на наступны дзень гэту версію адхіліў. Відаць, размову трэба весці не аб прастудзе той ці іншай асобы, але аб хваробе самой СНД. Перспектывы Садружнасці праз год пасля Алма-Аты выглядаюць яшчэ больш праблематычнымі. Так ці інакш, пытанне аб статусе СНД, прапанаванае на разгляд сесіі, не выглядае самым актуальным на сённяшні дзень.**

**Не даводзіцца сумнявацца, што ў студзені мы станем сведкамі вельмі гарачых парламенцкіх дэбатаў. А вось якім атрымаецца фініш сесіі і хто будзе святкаваць перамогу — сёння не возьмецца прадказаць, бадай, ніхто.**

**Віталь ТАРАС.**

# КРОК НАСУСТРАЧ

## Заміж рэпартажу са Сходу беларусаў бліжняга замежжа

У гісторыі посткамуністычных краін мусяць быць падзеі, што павінны адбыцца абавязкова. Гэта падзеі, якія ў міжчассе па-новаму з'ядноўваюць народ, вызвалены з-пад улады таталітарнае ідэі — ці то імперскай, ці то камуністычнай. Без прыгоднага духоўнага апірышча, якое паўзнікае праз паслядоўнасць такога роду падзей,— народ ізноў зажадае вярнуцца назад, у звыклую клетку, дзе «было ўсё», але адсутнічала свабода. Вязень, які вырваўся з астрога з кайданамі на целе, не заўсёды здольвае іх разбіць...

Такі вобраз прывёў у выступленні на Першым сходзе беларусаў бліжняга замежжа Старшыня Сойму Беларускага народнага фронту «Адраджэнне», лідэр парламенцкай апазіцыі Зянон Пазняк. На яго думку, беларускае адраджэнне яшчэ наперадзе, у перспектыве, у будучыні, якая поўная шанцаў на адбудову беларускага дому. Але здзяйсняльнікі будучыні — мы, цяперашнія. Станіслаў Шушкевіч, які ад імя Вярхоўнага Савета рэспублікі прывеціў збор суайчыннікаў, акцэнт паставіў на сённяшніх, бягучых праблемах, сэнс якіх — паслядоўнае ўладкаванне суверэнітэту. Старшыня парламента ў чарговы раз паразважаў наконт дапушчальнага аб'ёму «беларускасці», тэмпах яе ўсталявання... Васіль Быкаў, вітаючы сход як прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», вызначыў цяперашні момант нацыянальнай гісторыі як момант сутыкнення нацыянальнай ідэі з імперскай. У прагнозе на будучае В. Быкаў вылучае на першае месца нацыянальную ідэю, як «апошнюю, што засталася для нас».

Такая ў абагуленым выглядзе ідэалогія сходу беларусаў бліжняга замежжа (прысутнічалі і прадстаўнікі з Канады, Якуціі, Казахстана — геаграфія сходу ўвогуле абшырная). Сход праходзіў вельмі насычана, дынамічна і, падаецца, стаўся якраз з'ядноўваючай падзеяй, плён якое выявіцца з цягам часу. Упершыню, бадай, за пасляслясавецкія часы ў адной зале, за адным сталом сабраліся б р а т ы — дзеці аднаго кораня, а ўжо затым — урадоўцы і нацыянальная інтэлігенцыя. Гэта быў крок насустрач адзін аднаму. Безумоўна, разглядалася шмат канкрэтных пытанняў, але, на маё меркаванне, галоўны плён сходу сканцэнтраваўся ў заяве Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіча да ўдзельнікаў сходу (яе зачытаў намеснік старшыні ўрада М. Дзямчук). УПЕРШЫНЮ ад імя кіраўніцтва рэспублікі была выказана гатоўнасць па меры магчымасцей дапамагаць суродзічам за мяжою, але таксама прагучаў заклік да дыяспары паспрыяць сваім інтэлектам, культурна-творчым патэнцыялам на карысць Бацькаўшчыны. Упершыню Бацькаўшчына выказала **патрэбу** ў паслугах сваіх сыноў і дачок па-за межамі.

У звязку з заявай Старшыні Савета Міністраў можна разглядаць праграму «Беларусы ў свеце», якую будзе рэалізоўваць выканаўчая ўлада (праграму абмяркоўвалі ўдзельнікі сходу). Трэба думаць, заява В. Кебіча і існаванне праграмы падводзяць вярхоўную ўладу рэспублікі да наступнага лагічнага кроку ў вызначэнні палітычнай пазіцыі адносна беларускай эміграцыі, менавіта: акту палітычнай рэабілітацыі (ці больш дакладна,— прымірэння) беларусаў-эмігрантаў, г. зн. размежавання такіх паняццяў, як палітычная эміграцыя і ваенныя злачынцы. Дасюль жа захоўваецца стэрэатып, паводле якога на эміграцыі ляжыць пячатка «здраднікаў Радзімы» (Радзіма і камуністычны лад у таталітарнай свядомасці атаясамляюцца) і ваенных злачынцаў. Але ж **злачынцы** ці не ўсе ўжо заарыштаваныя міжнароднай юстыцыяй... Што стэрэатып такі існуе, выявілася падчас прэс-канферэнцыі, калі сутыкнуліся ў палеміцы пісьменнік Барыс Сачанка і карэспандэнт радыё з Канады, удзельнік сходу.

Наспеў момант ад пераважна маральных (і небясспрэчных) ацэнак перайсці да канкрэтных, узаконеных фармулёвак палітыкі Беларускай дзяржавы адносна замежнай дыяспары і эміграцыі. Сход беларусаў бліжняга замежжа стаўся важкім, можна сказаць, ідэалагічным крокам у гэтым кірунку. Яго ўдзельнікі выказаліся за скліканне Сходу беларусаў свету ўлетку 1993 года.

**Ю. З.**



Перад пачаткам сходу (злева направа) Валянцін **Попель** (Казахстан), муж і жонка Аляксандр і Ніна **Баршчэўскія** (Польшча), Аляксей **Карпюк** (Польшча), Пятро **Прышчэпка** (Польшча), Валянціна **Ласкевіч** (Польшча), Аляксандр **Іванюк** (Польшча) і Мікалай **Васілёнак** (Мінск).

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ.

# «РОЎНАЕ БАГАЦЦЕ, А НЕ РОЎНАЯ БЕДНАСЦЬ»

## 2-гі з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады

**Пачаўся 2-гі з'езд БСДГ досыць нетрадыцыйна — прамовай-лекцыяй гісторыка і публіцыста Анатоля Сідарэвіча, прысвечанай 75 угодкам I Усебеларускага кангрэса, які праходзіў ў Менску ў снежні 1917 года. Сярод дэмакратычных партый, суполак, плыняў і рухаў, прадстаўнікі якіх прымалі у ім удзел, была і Беларуская сацыялістычная Грамада, жаданне пачынальнікаў якой бачыць у грамадстве «роўнае багацце, а не роўную беднасць» пераклікаецца сёння з клопатамі і спадзяваннямі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, якая ўзяла на ўзбраенне многія ідэі сваіх папярэднікаў.**

**Аб аднаўленні традыцый беларускай сацыял-дэмакратыі, практычным іх ажыццяўленні з улікам сучасных рэалій шмат гаварылася ў палітычным дакладзе выконваючага абавязкі старшыні Цэнтральнай рады Грамады, народнага дэпутата Беларусі А. Трусава. Кожны практычны крок партыі за паўтара года яе існавання, падкрэсліў дакладчык, быў накіраваны на паглыбленне дэмакратычных пераўтварэнняў на Беларусі, яе нацыянальнае адраджэнне.**

**З увагай дэлегаты з'езда выслухалі грунтоўны і аналітычны па змесце даклад намесніка старшыні Цэнтральнай рады БСДГ, народнага дэпутата рэспублікі М. Крыжаноўскага аб эканамічным становішчы Беларусі, шляхах пераадолення заняпаду, у якім яна апынулася.**

**Шмат цікавых фактаў утрымлівала паведамленне члена Цэнтральнай рады Грамады, народнага дэпутата Беларусі Я. Цумарава аб дзейнасці парламенцкай фракцыі БСДГ, у якую ўваходзіць адзінаццаць дэпутатаў. На яе рахунку нямала заканадаўчых ініцыятыў — удзел у распрацоўцы новай Канстытуцыі Беларусі, законаў аб працы, прафсаюзах, прыватызацыі жыллёвага фонду, адукацыі, культуры, мовы і г. д.**

**Пытанням, звязаным з практычнай дзейнасцю партыі, яе фінансавым становішчы быў прысвечаны даклад старшыні Кантрольна-рэвізійнай камісіі М. Чарняўскага.**

**З'езд абмеркаваў і прыняў Праграму і новую рэдакцыю Статута БСДГ, абраў Цэнтральную раду, яе старшыню і яго намеснікаў. Старшынёй Цэнтральнай рады стаў А. Трусаў.**

**Дэлегатаў з'езда віталі кіраўнікі Беларускага народнага фронту, Беларускай сялянскай партыі, Беларускай нацыянал-дэмакратычнай партыі, прадстаўнікі сацыял-дэмакратычных партый Германіі, Літвы, Эстоніі, Польшчы, Украіны.**

**М. З.**

**ЮБІЛЕІ**

# ПАЛЫМЯНСКАЯ ВЕЧАРЫНА

**17 снежня ў вялікай канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 70-годдзю часопіса «Полымя». Цёпла сустракалі гледачы выступленні старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнка — вядучага вечарыны, іншых вядомых беларускіх паэтаў і празаікаў, якія ў розныя гады працавалі ў «Полымі», друкавалі тут свае творы: Максіма Танка, Н. Гілевіча, М. Аўрамчыка, І. Шамякіна, І. Чыгрынава, А. Вярцінскага, а таксама міністра інфармацыі А. Бутэвіча, прадстаўнікоў Мядзельскага раённага ўпраўлення культуры, Р. Гарэцкага, Д. Міцкевіча. Былі зачытаны віншавальныя тэлеграмы Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіча, В. Быкава, рэдакцыяў часопісаў «Новый мир», «Вітчизна», Саюза пісьменнікаў Летувы, іншых калектываў і асобных чытачоў. У заключным слове галоўны рэдактар часопіса «Полымя» С. Законнікаў падзякаваў выступоўцам і гасцям. На заканчэнне адбыўся канцэрт Дзяржаўнага народнага хору імя Г. Цітовіча і Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча.**

**А. Ф.**

# «ЛЕПШАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЭПІЧНАЯ ОПЕРА...»

## 19 і 20 снежня у Вялікім тэатры Беларусі прайшла прэм'ера спектакля «Князь Наваградскі»



...А назаўтра ў цесным коле крытыкаў ды выканаўцаў адбылося першае абмеркаванне новай працы тэатра. Менавіта там і прагучала выснова: «Самая лепшая нацыянальная эпічная опера з усіх, што былі...» Тычылася гэтая выснова самой партытуры «Князя Наваградскага», першага опернага твора маладога гарадзенскага кампазітара Андрэя Бандарэнкі. Праўда, як усё першае, як усё новае, як, зрэшты, усялякі твор мастацтва, ягоная праца выклікала і палемічныя меркаванні, але й самыя заўзятыя палемісты пачціва схілілі галовы перад высокім прафесійным майстэрствам кампазітара, самабытнасцю ды стыльнасцю яго аўтарскай мовы...

Грунтоўная ды памяркоўная гаворка пра «Князя Наваградскага» (а мо і не адна) адбудзецца на старонках «ЛіМа» ўжо ў новым годзе. Пакуль жа зноў і зноў згадваюцца па-сапраўднаму прэм'ерныя, святочныя, шчырыя ды унікальныя імгненні таго вечара, калі адбылася самая першая сустрэча новай оперы з публікай.

Прэм'ера? Падзея. Такога не памятаюць заўзятыя прыхільнікі оперы. У зале — аншлаг. У зале сталічны «бомонд» і знаёмыя твары беларусаў з блізкага замежжа, што з'ехаліся на свой сход. У зале — сябры БНФ разам са сваім лідэрам, на рэдкасць усмешлівым у той вечар Зянонам Пазняком. У зале — гарадзенцы, што прыехалі падтрымаць свайго таленавітага земляка. Так-так, два аўтобусы, з Гародні ды з Ліды, прывезлі на прэм'еру некалькі дзесяткаў энтузіястаў.

Опера А. Бандарэнкі, створаная на лібрэта В. Іпатавай паводле п'есы Л. Пракопчыка, увасобілася на сцэне дзякуючы зацікаўленай працы рэжысёра-пастаноўшчыка С. Штэйна, мастака Д. Мохава і, канечне, музычнага кіраўніка, дырыжора М. Калядкі, якому давялося асвойваць адну з найскладаных і загадкавых сучасных оперных партытур. Асабліва сур'ёзнага мастацкага прачытання вымагалі харавыя старонкі «Князя Наваградскага» (хормайстры А. Кагадзееў, Н. Ламановіч, Г. Луцэвіч). Спявалі ў першым спектаклі М. Майсеенка (Міндоўг, вялікі князь), У. Экнадзіёсаў (Войшалк-Васіль сын Міндоўга, князь Наваградскі), Н. Руднева (Квета, жонка Міндоўга), Н. Кастэнка (Рута), А. Кеда (бацька Руты, баярын Раман), Г. Чэпікаў (Зіберт, рыцар-манах), Я. Пятроў (манах Елісей) ды іншыя. Усе яны — разам з публікай — былі ўдзельнікамі й сведкамі таго тэатральнага цуду, які здараецца мо раз у жыцці...

С. ВЕТКА.

Фота У. ПАНАДЫ.

Пімен ПАНЧАНКА

### ВЫРАТАВАННЕ

Аддайце зямлю сялянам,
Аддайце сялянам зямлю,
Тады і загоіце раны
Зямлі, якую люблю.

Колькі проліта поту!
Колькі ўздзёрта дзёрну!
А вы балбочаце: «Потым...
Стане дарога зорнай».

Дзяцей адлучылі ад глебы,
Ад гною, ад баразён,
Зямля нібы ім не патрэбна,
Як летні пчаліны звон.

Шукаюць буракі і моркву,
Сланяюцца між ларкамі...
А людзі робяць і мокнуць,
Перабіраюць зямлю рукамі.

А можа, пачнецца вяртанне
Да працы, сучаснік мой!
І будзе выратаваннем
Радзімы маёй дарагой.

І будзе народ наш рады—
Абдыме вачыма палі...
То будзе пачатак праўды
І адраджэнне зямлі.

# ДЗЯРЖАВА «СЭКАНОМІЛА» НА МУЗЫЦЫ?

## Зварот да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

Удзельнікі III пленума праўлення Саюза музычных дзеячаў Беларусі ад імя музычнай грамадскасці выказваюць крайнюю занепакоенасць перспектывай развіцця культуры ў рэспубліцы. Рынкавая стыхія ўжо дыктуе свае ўмовы, свае патрабаванні да культуры, што робіць яе выжыванне пад прыгнётам «свабоднай» кан'юнктуры праблематычным. Пад пагрозай зніштажэння апынулася музычная адукацыя: праз непамерна высокія цэны на музычныя інструменты большасць сем'яў не мае магчымасці іх набыць, бо гэта робіцца недапушчальнай раскошай. У апошнія гады катастрафічна змяншаецца колькасць дзяцей, якія навучаюцца ў музычных школах. Працяг гэтых працэсаў прывядзе ў бліжэйшы час да разрыву адладжанай сістэмы пераемнасці ў выхаванні музыканта-прафесіянала, нанясе непапраўны ўрон нацыянальнай педагагічнай і выканальніцкай школе.

Адным з сацыяльна неабароненых пластоў насельніцтва паранейшаму застаюцца работнікі сферы культуры і мастацтва, прафесія музыканта пераходзіць у разрад малапрэстыжных, адбываецца распыленне музычнага патэнцыялу рэспублікі.

Створаны ў 1991 г. Саюз музычных дзеячаў Беларусі заклікаты быць адной з рэальных сіл, што процістаяла б у культуры націску камерцыі, падзенню духоўных каштоўнасцяў у грамадстве. З самага пачатку сваёй дзейнасці СМДБ заявіў пра сябе як актыўны чыннік адраджэння беларускай культуры.

Аднак падкрэслена зневажальныя адносіны ўрада рэспублікі да самага маладога творчага саюза зрываюць выкананне намечаных ім планаў і праграм. Так, па рашэнні Саўміна Рэспублікі Беларусь творчым саюзам нашай краіны ў 1992 г. была аказана адначасная фінансавая дапамога, і толькі Саюз музычных дзеячаў такой дапамогі не атрымаў. Да Старшыні Савета Міністраў В. Ф. Кебіча звярталіся старшыня Канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў, восем старшыняў творчых саюзаў рэспублікі і старшыня Беларускага фонду культуры — з просьбай аказаць такую дапамогу і СМДБ, але і гэты раз Саўмін даў адмоўны адказ.

Незразумела, з якой прычыны Савет Міністраў выключыў таксама СМДБ са спісу на безвізавае афармленне дакументаў у Міністэрстве замежных спраў РБ на замежныя паездкі, у той час, як іншым творчым саюзам гэтае права дадзена.

Паўгода працягваюцца ўзмоцненыя захады Савета Міністраў і Міністэрства культуры, якія супярэчаць заканадаўству Рэспублікі Беларусь аб уласнасці, — па адчужэнні прыналежнага да СМДБ камбіната па вырабе, рамонце ды рэстаўрацыі музычных інструментаў.

Усё гэта дае падставу зрабіць выснову наконт мэтанакіраванай работы па разбурэнні Саюза музыкантаў рэспублікі, які меў бы добрыя перспектывы для далейшага росту, пашырэння творча-вытворчай інфраструктуры, рэалізацыі свайго патэнцыялу ў пытаннях аховы сацыяльных і прававых гарантый прафесійных музыкантаў.

Улічваючы сітуацыю, якая стварылася, удзельнікі пленума заяўляюць, што ва ўмовах пераходнага перыяду ў эканоміцы, актыўнай камерцыялізацыі мастацтва і ў выпадку адмовы дзяржавы ад далейшай падтрымкі і дапамогі Саюзу музычных дзеячаў, саюз, апынуўшыся сёння ў крытычным матэрыяльна-фінансавым становішчы, неўзабаве можа аказацца на грані самароспуску. Удзельнікі пленума выказваюць надзею, што голас дзеячаў музычнай культуры Беларусі будзе пачуты дэпутатамі Вярхоўнага Савета, Камісіяй Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, Саветам Міністраў, і ліквідацыі Саюза музычных дзеячаў Беларусі не адбудзецца. Нельга пазбавіць самы шматлікі атрад творчай інтэлігенцыі рэспублікі свайго саюза, здатнага з'яднаць музыкантаў, злучыць іх намаганні і зрабіць вартасны ўклад у адраджэнне і развіццё беларускай музычнай культуры.

# У ЦВЁРДАЙ АПАЗІЦЫІ

19—20 снежня ў Мінску прайшоў III з'езд Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі. Галоўным вынікам дыскусій, якія часам прымалі даволі востры характар, можна лічыць прыняцце праграмнай «Канцэпцыі эканамічных рэформ». У якасці канчатковай мэты ў гэтым дакуменце абвешчана фарміраванне сацыяльнай рынкавай эканомікі ў рэспубліцы. Але шлях да мэты нялёгкі і няблізкі. Як падкрэсліў на прэс-канферэнцыі, што адбылася наступным днём пасля заканчэння з'езда, старшыня АДПБ А. Дабравольскі, узровень правядзення рэформ на Беларусі (а дакладней — іх адсутнасць) сёння нікога не можа задаволіць. Партыя знаходзіцца зараз у цвёрдай апазіцыі да ўлады, эканамічнай палітыкі парламента і ўрада. Сярод галоўных сваіх задач на будучае АДПБ назвала падрыхтоўку да выбараў. Пры гэтым у сваёй дзейнасці яна імкнецца супрацоўнічаць з усімі партыямі і рухамі дэмакратычнага накірунку.

Гэтыя палажэнні, у прыватнасці, замацаваны ў рэзалюцыі «Аб палітычным становішчы на Беларусі і задачах партыі». Акрамя таго, прыняты рэзалюцыі «Аб развіцці рабочага і прафсаюзнага руху» і «Аб становішчы ва Узброеных Сілах РБ», у якой выказваецца пратэст супраць праследавання вайскоўцаў па палітычных матывах.

Разам з кіраўнікамі АДПБ у прэс-канферэнцыі прыняла ўдзел госць з'езда, прадстаўнік Венгерскай свабодна - дэмакратычнай партыі Р. Далаш.

НАШ КАР.



Вячаслаў КЕБІЧ у час наведання Мірскага замка.

У гарадскім пасёлку Мір адбылася сустрэча Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча, кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, творчых саюзаў з прадстаўнікамі інтэлігенцыі рэспублікі.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ.

P. S. «ЛіМ» вымушаны абмежавацца паведамленнем БЕЛІНФАРМА пра сустрэчу В. Кебіча з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, бо нашага карэспандэнта ў Мір не запрасілі.

# ЗАХАВАЦЬ АДМЕТНАСЦЬ МОВЫ

## З пастановы навуковай канферэнцыі «Праблемы беларускага правапісу»

Прызнаючы, што пастанова Савета Народных Камісараў «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» ад 26 жніўня 1933 года і дадаткі да гэтай пастановы былі прыняты ва ўмовах узятага кіраўніцтвам рэспублікі курсу на ліквідацыю нацыянальнай спецыфікі беларускай мовы і зліццё яе з рускай мовай і такім чынам не адлюстравалі многія характэрныя рысы беларускай мовы, удзельнікі канферэнцыі лічаць гэту пастанову фактам палітычнага ўмяшання ў моўную палітыку.

— Канферэнцыя лічыць мэтазгодным унесці адпаведныя ўдакладненні ў сучасны правапіс на аснове «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», выдадзеных у 1959 г.

— Лічыць неабходным стварэнне правапіснай камісіі для распрацоўкі прапаноў па ўдакладненні правапісу, якая павінна падрыхтаваць праект удакладненняў. Да прыняцця ўдакладненага правапісу карыстацца правіламі 1959 года, не дапускаючы адхіленняў ад іх у афіцыйных выданнях і школьнай практыцы. Канферэнцыя заклікае грамадскасць рэспублікі да кансалідацыі ў адносінах правапісных норм.

— Канферэнцыя рашуча выказваецца супраць увядзення другой дзяржаўнай мовы ў Рэспубліцы Беларусь.

# З дыямэнтаў калядных...

Як тысячы год, так і сёньня, да набёсаў імкнецца пагляд. У дыямэнты калядныя прыбраўся ўвесь белы сьвет. Нараджэньне Хрыстовае сьвяткуе Зямля!

Карагоды, цымбалы, гусьлі, жалейкі — усе чыста ўслаўляюць любоў Найвялікшага. „Бо так палюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб усякі, хто веруе ў Яго, не зінуў, але меў жыцьцё вечнае". (Ян, 3:16).

Зь сьвятаў любімае сьвята вярнулася на Беларусь...

Хай кожнае сэрца напоўніць надзея, суладзьдзе няхай запануе ў душы!

Зычым зьдзяйсьненьня найлепшых жаданьняў. Каб кожны мог зьведаць Божую ласку, мацнеючы ў веры сваёй.

Шчасьця і радасьці Вам!

Dainova

«БЕЛАРУСЬ ІДЭАЛЬНАЯ»: НОВАЯ РУБРЫКА «ЛіМа»

# ПЯРЛІНЫ ПРА ЗАЎТРА

**Вопыт сацыяльнай пераробкі нашага грамадства ад другой паловы 1980-х гадоў яскрава сведчыць, што прыход новай рэальнасці, новых, нечаканых і вытрызненых рэаліяў залежыць, прынамсі, ад хуткасці прамаўлення новых слоў. У 1988—89 гг. ідэі З. Пазняка аб незалежнасці і суверэнітэце нашай Бацькаўшчыны ўспрымаліся калі не утапічнымі, дык пражэкцёрскімі, дэкларацыйнымі; у праўдзівасці тых ідэй сумняваліся не толькі ачмураныя кампрапагандай рабочыя і сяляне, але і добрая частка прыкормленай камрэжымам нацыянальнай інтэлігенцыі. (Іншыя з іх і па сёння выкрэсліваюць са старонак сваіх выданняў імя Зянона — свядома не заўважаючы выразнага полюса нацыянал - фундаменталісцкай палітыкі, якую прэзентуе Беларускі народны фронт і яго старшыня.)**

**Сёння, аднак, нібыта ідэалістычныя ідэі незалежнасці і суверэнітэту Беларусі ёсць натуральнай складовай часткай грамадскай думкі — НОРМАЙ.**

**Змены рэчаіснасці, такім чынам, пачынаюцца ад вымаўлення СЛОЎ пра новую рэчаіснасць — у формах маніфесту, дэкларацыі, дэкламацыі, рыторыкі, трыбуннай паэзіі, філасофскага даследу і г. д. Словы самі па сабе ёсць часткаю тае, жаданае новае рэальнасці, лучаць у будучае рэчаіснастваральную энергію і фармуюць новы краявід.**

**Аблічча новай рэчаіснасці, аднак, не выпадае фармуляваць старымі словамі, на мове колішняй рэчаіснасці. Трэба шукаць, вылюльваць новыя словы.**

**Гэта мусяць быць словы пра новую — ідэальную — Беларусь. Мы прарваліся да тае мяжы, на якой нам ніхто ўжо не можа закрыць рот, перашкодзіць вымавіць-прагаварыць унутрана-выпеставаныя пярліны — СЛОВЫ веры ў сваю Радзіму і свой народ, без якіх ты — ніхто й нішто, «голы чалавек на скразняках часу». Мы можам — нарэшце — дазволіць сабе сказаць, чаго мы прагнем у сваім народзе і на сваёй Радзіме — каб жылося нам нармальна і лагодна. Мы вельмі стаміліся, адстойваючы права сказаць пра сябе свету самае важнае і — разумнае; нам вярэдзіць душы тая акалічнасць, што наш уласны голас дома чуваць слаба, невыразна, здушана.**

**Цяпер мы прагнем нармальнасці і лагоды ў сваім Доме, і самае галоўнае, інтымна-спракаветнае — у новым Доме мы летуценім спаталіць духоўнага прытулку. Нідзе, хай і пад Небам блакітна-боскім — але без свайго Дому, — нельга займець духоўна-душэўны прытулак. Без Дому народы спасцігае доля Агасфера, і іх словы скіраваны не ў непажаданую прышласць, але ў ідэалізаванае мінулае. Такім народам не хочацца будаваць новую рэчаіснасць.**

**Словы пра будучае павінны сублімаваць вобраз Дому, у якім беларусы змогуць існаваць насампраўдзе, без супярэчнасці між рэальным і ідэальным, сапраўдным і жаданым, — быць самімі сабой.**

**Але пачнем з МАЎЛЕННЯ — новых слоў...**

**У апошнім нумары года «ЛіМ» анансуе новую рубрыку — творчы праект на новы год: культуралагічную раду «Беларусь ідэальная». На працягу зыходзячага года выбраныя намі аўтары (на каго не патрапілі — просім прабачэння, але запрашаем далучацца да рады па азнаямленні з пытаннямі) у розных формах спрабавалі асэнсаваць наступныя, змадэляваныя ў рэдакцыі праблемы:**

**1. У чым, на вашу думку, заключаецца нацыянальная сутнасць чалавека: у мове, самасвядомасці, крэўнасці («гены»), вонкавых праявах псіхікі... (іншае)? Які з гэтых фактараў, на ваш погляд, можа адыграць вырашальную ролю дзеля самаідэнтыфікацыі беларусаў у сучасных варунках? (Як сталі беларусам Вы?)**

**2. Беларуская ідэя (шлях, традыцыя): у чым яна для вас заключаецца? Паспрабуйце, калі ласка, даць вызначэнне БЕЛАРУСКАГА.**

**3. Присутнасць «беларускага» ў свеце напрыканцы XX ст.: рэальнасць, прывіднасць, намінатыўнасць (...)? Наколькі значна адрозніваюцца ваша рэальнае, знешняе жыццё і вашыя нацыянальныя ідэалы; якім чынам Вы дасягнулі (і ці дасягнулі) кампрамісу між рэальнасцю і ідэаламі?**

**4. Параўнайце, калі магчыма, існуючае «беларускае» (і існаваўшае да нядаўняга часу ад 1917 года) з ТРАДЫЦЫЯЙ. Якімі шляхамі беларуская культура можа ўзбагачацца надалей і пашырыцца ў агульначалавечы кантэкст (варыянты: а) праз беларускі месіянізм; б), в), г)... — вашыя варыянты)?**

**Ва ўмовах рады былі пазначаны, акрамя анкетнага, іншыя спосабы ўдзелу — напісанне артыкула, эсэ ці іншага тэксту калі не па непасрэдным пытанні рады, дык па ўскосна датычнай тэме, праблематыцы.**

**Такое сяйво было ўкінута ў пэўным чынам ўжо стомленае, здаволенае сказаным раней нацыянальна- інтэлектуальнае асяроддзе (на жаль, не на ўсёй дыяспары — але да гутаркі могуць, натуральна, далучыцца і яе аўтары). Рэдакцыйная тэчка на тэму рады выявілася, аднак жа, не такой і беднай, і, відаць, з сабраных матэрыялаў выйдзе неблагое чытво. Нас, папраўдзе, не зусім задавальняе па большасці артыкульны, а не анкетны схіл рады: у апошнім выпадку аўтары разважаюць хоць і пра свае, але на сваёй жа, часам цяжкай для ўспрымання іншым — мове. Было б лепш, каб удзельнікі паспрабавалі даць напачатку вызначэнні-эўрыстызмы па пытаннях рады — тады мо акрэсліліся б крытэрыі культуралогіі новай, ідэальнай Беларусі, — узнікла б мова новай рэчаіснасці.**

**Аднак, не зважаючы на звышсуплётнасць і суб'ектыўнасць выказванняў, мы мусім гэтую — футуралагічную — гутарку пачаць.**

**Адкрывае культуралагічную раду «ЛіМа» артыкул доктара філасофскіх навук Міколы Крукоўскага пра магчымае аблічча беларускай філасофіі. Наступная публікацыя — артыкул Эдуарда Дубянецкага пра менталітэт беларусаў.**

**Юрась ЗАЛОСКА,**
**вядучы рады.**

**Мікола КРУКОЎСКІ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар БДУ, прэзідэнт Беларускай эстэтычнай асацыяцыі**



# КУЛЬТУРА, СВЯДОМАСЦЬ, СУВЕРЭНІТЭТ,

## або Якой быць беларускай філасофіі?

Што нам патрэбна свая, нацыянальная філасофія — гэта, напэўна, ужо не патрабуе вытлумачэнняў. Заканамерна ўзнікае другое пытанне: якой жа ёй быць? Тут натыкаемся на спецыфічныя, нават небяспечныя ў пэўным сэнсе цяжкасці. Небяспека тая крыецца ў самой пастаноўцы пытання: якой жа ёй быць? Я ледзь не напісаў «павінна быць», але тут жа адмовіўся ад гэтых «каварных» слоў: з імі мы амаль штодзённа і штогадзінна сутыкаліся ў недалёкім мінулым, як толькі усчыналася размова пра філасофію і духоўна - гуманітарную праблематыку ўвогуле. «Марксісцка-ленінская філасофія павінна захоўваць сваю ідэалагічную чысціню»; «мы павінны прытрымлівацца прынцыпаў марксізму-ленінізму»; «мастацтва павінна кіравацца»; «філасофія павінна...» і г. д. Пра гэта бясконца далдонілі нам ідэалагічныя аддзелы ЦК, абкамаў, райкамаў, парткамаў, за гэтым уважліва сачыла «нядрэмнае вока» пятага ўпраўлення КДБ, афіцэры якога нават чыталі лекцыі філосафам — на тэму, якою павінна быць наша філасофія!

Зразумела таму, чаму пасля такіх «абдымкаў» мы кінуліся — зараз — у процілеглую крайнасць, у гэтак жа абсалютызаваны плюралізм, пры якім філасофія ўвогуле падвяргаецца анафеме і суцэльнаму абсмяянню. Самі ж філосафы, якім ужо няма куды падзецца і якія ўсё ж такі не хочуць здраджваць сваёй прафесіі, шукаюць ратунку то на Захадзе, то на Усходзе, ці ў Хайдэгера, ці ў Салаўёва, забываючыся пра асноўную сваю функцыю, асноўны свой грамадзянскі, маральны і, калі заўгодна, палітычны абавязак: служыць свайму народу і сваёй культуры. Словы гэтыя таксама былі вельмі заезджаныя ў недалёкім мінулым, але тым не менш яны павінны (тут ужо і я смею ўжыць тое сакраментальнае слова) і зараз застацца для нас святымі, — можа быць, менавіта зараз.

Абсалютны плюралізм, як вядома, ёсць стан атамарнага распаду грамадства ва ўсіх яго формах, у тым ліку і нацыянальнай. Мы гэты стан цяпер і перажываем. Але каб адрадзіцца, нам трэба спярша аб'яднацца. І не ў таталітарным сэнсе слова, калі адзінае душыла сабою многае, дзяржава растоптвала асобу, саюзная імперыя—нацыянальную рэспубліку. Тут трэба захоўваць дыялектычны падыход, згодна якому адзінае можа існаваць толькі ў спалучэнні з многім, як гэта было вядома філосафам, пачынаючы з Платона і канчаючы Гегелем. De pluribus ad unum — «ад многіх да адзінага» — так лаканічна і ёмка выражалі гэтую думку старажытныя рымляне. Афарызм той быў сказаны быццам пра цяперашніх нас, бо для нас зараз якраз і патрэбна нацыянальнае адзінства, змацаванае знешне дзяржаўным суверэнітэтам, а знутры — нацыянальнай самасвядомасцю, самай інтымнай і тонкай душою якой з'яўляецца, як ужо некалі было сказана, беларуская філасофія (гл. артыкул М. К. у «ЛіМе», 31.07.92 г.— **Рэд.**).

Наша агульная цяпер мэта — нацыянальнае адраджэнне, да якога як да храма павінны весці ўсе індывідуальныя дарогі. ДА АДЗІНСТВА ПРАЗ МНОГАСЦЬ — вось тая першая істотная рыса, што магла б характарызаваць нашу філасофію, і нічыю, спадзяюся, творчую індывідуальнасць яна не абмяжуе, а, наадварот, толькі ўзбагаціць яе, надаўшы ёй нейкі агульны, істотны, непераходзячы сэнс.

Акрэсліўшы першую рысу, якую хацелася б бачыць у якасці самай характэрнай рысы беларускай філасофіі, мы тут амаль што вызначылі і другую, не менш істотную яе рысу — дыялектычнасць. Слова гэтае таксама вельмі скампраметавана бальшавікамі ад філасофіі, якія на словах кляліся ў вернасці дыялектыцы, а на справе былі самымі тупымі і жорсткімі «метафізікамі» (у марксісцкім сэнсе гэтага слова!). Чорна-белая логіка тыпу «або — або» — прамая супрацьлегласць дыялектычнай логіцы тыпу «і — і», з'яўлялася рэальнай логікай камуністаў, што прынесла нам столькі бед не толькі ў духоўнай, але і ў матэрыяльнай культуры. Усё наша жыццё пры таталітарызме будавалася па гэтай логіцы. Ды і ў ранейшай расійскай гісторыі было фактычна тое ж самае: успомнім маскоўскую дзяржаву яшчэ з часоў Івана III і асабліва Івана Жахлівага. Калі Дастаеўскага пякельна мучыла пытанне, ці можна ахвяраваць жыццё нявіннага дзіцяці дзеля грамадства, то бальшавізм ахвяроўваў тут цэлыя пакаленні, не спыняючыся нават перад генацыдам. Злосная і помслівая нецярпімасць да іншадумства — ягада з таго ж поля.

Нецярпімасць гэтая была асабліва характэрнай у філасофіі, дзе дыктатура партыйнай ідэалогіі была абсалютнай. Дыялектыкай толькі прыкрывалі зеўраючыя супярэчнасці і нахабныя падманы народа.

На справе дыялектыка — гэта мысленне па тыпу «і — і» ці, інакш кажучы, па тыпу «я — і не я» і «я — і другія». Згодна ёй ісціна не ў крайнасцях, а — у адзінстве. Гэта вельмі цярпімае, талерантнае мысленне, якое паважае і процілеглую думку, шукаючы ісціну з яе ўлікам. Можна было б сказаць, што такая дыялектычнасць наогул з'яўляецца тыповаю рысай беларускай нацыянальнай ментальнасці, якая існавала ў ёй з часоў Вялікага Княства Літоўскага. Тады яна вызначалася пэўным дэмакратызмам беларуска-літоўскай дзяржавы (успомнім хаця б магдэбурскае права тадышніх гарадоў) і вялікай талерантнасцю ў духоўна-рэлігійным і нацыянальным жыцці. Рыса гэтая захавалася ў беларускім нацыянальным характары і ў пазнейшыя цяжкія часы, калі беларуская культура змушана была «адлежвацца» на вясковай глебе, дзякуючы чаму (няма дрэннага без дабра!) яна змагла зберагчы ад балючых супярэчнасцяў «капіталістычна-сацыялістычнага» горада сваю першапачатковую цэласнасць і своеасаблівую гарманічнасць.

Азначаная дыялектычная рыса выразна выступае ў беларускай ментальнасці як у адносінах да агульначалавечых ідэалаў, якія кожны беларус заўсёды паважаў, хоць яму самому не заўсёды дазвалялі чалавекам звацца, так і да іншых людзей, што здаўна насялялі краіну побач з беларусамі. Таму гэткая дыялектычнасць з сваіх каранёў не можа не быць уласцівай і беларускай філасофіі; яе можна было б акрэсліць як другую яе рысу.

З гэтай рысы лагічна выцякае наступная, гэтак жа важная і істотная яе асаблівасць. Зыходзячы з прынцыпу «мы — і другія», БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАСОФІЯ НЕ МОЖА БЫЦЬ ФІЛАСОФІЯЙ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ІЗАЛЯЦЫЯНАЛІЗМУ і тым болей нацыяналізму ў тым яго адмоўным сэнсе, што прыпісвалі яму бальшавікі. Зразумела, рашаючую ролю ў яе фармаванні павінны адыграць гістарычныя і вяскова-народныя яе карані, што акрэслілі сабой, як толькі што было сказана, і агульную ментальнасць беларускага народа. Аб ніякай tabula rasa тут не можа быць і размовы: беларуская філасофія несумненна мае свае ўласныя карані і вытокі. Тут і багатае культурна-гістарычнае мінулае, і фальклор, і выдатная мастацкая літаратура, што неслі ў сабе і яскрава выражалі глыбокія, хоць і ў вобразнай яшчэ форме філасофскія ідэі. Гэта з дастатковай перакананасцю было паказана гісторыкамі беларускай культуры і філасофіі.

Але тое зусім не выключае ўважлівага вывучэння філасофіі іншых народаў і рэгіёнаў, вывучэння не толькі акадэмічнага, але і такога, каб можна было выбраць і скарыстаць ўсё карыснае менавіта для нас. І тут нашыя пагляды міжвольна зварочваюцца на Захад і Усход.

Што датычыць апошняга, то зразумела, што пра маскоўскі марксізм-ленінізм тут не можа быць і гаворкі, настолькі ён сябе скампраметаваў. Ён нянаскі двойчы: і ў нацыянальным, і ў класавым сэнсе. У сялянскай краіне з сялянскай ментальнасцю і культурай прынцыпова не магло прывіцца вучэнне, адзін са стваральнікаў якога з агідай пісаў пра «ідыятызм сельскага жыцця». Ды і наогул яно добра нідзе не магло прывіцца, бо ў любой нармальнай краіне, у любога сацыяльна здаровага народа сялянства і яго праца з'яўляюцца асновай народнага дабрабыту. Гэта толькі ў бальшавікоў яно лічылася варожым класам, які хоць і вырошчвае хлеб (ён лічыўся ў іх вельмі важнаю стратэгічнай сыравінай), але спараджае капіталізм «ежечасно, ежедневно, ежегодно и в массовом масштабе».

Сама філасофія марксізму-ленінізму вельмі характэрная і павучальная пасвойму з'ява. Калі класічны марксізм займае ўсё-такі пэўнае месца ў гісторыі філасофіі, то ленінізм паўстаў яго скажонай і спрымітызаванай формай, а сталінізм — увогуле карыкатурай на марксізм. Усё гэта заслугоўвае спецыяльнага крытычнага разбору. Тут скажам толькі, што ў самой назве крыецца нейкая зусім не дыялектычна супярэчлівасць: **дыялектычны матэрыялізм**. Калі ён дыялектычны, то павінен уключаць у сябе і сваю процілегласць — ідэалізм, бо адзінства процілегласці ёсць асноўная рыса дыялектыкі. Калі ж ён толькі матэрыялізм, то гэта ўжо ніякая не дыялектыка. Тым не менш такі дзіўны філасофскі аксюмарон прэтэндаваў на поўнае тлумачэнне свету і на ролю ідэйнага інструмента для карэннай яго пераробкі. І што самае сумнае, доўгі час у яго мы верылі...

Што да філасофіі рускай, асабліва рэлігійнага яе крыла, то гэта была сапраўды вялікая і цікавая філасофія, якая ў рэлігійна-славянафільскім і заходніцкім кірунках распрацавала шмат плённых ідэй, што несумненна маглі б быць карыснымі і для распрацоўкі філасофіі беларускай, як, напрыклад, паняцце культурна-гістарычных тыпаў у М. Данілеўскага або філасофія ўсеадзінства У. Салаўёва. Аднак уся яна заставалася пранікнутай так ці гэтак імперска-шавіністычным духам, што з асаблівай сілай праявілася, напрыклад, у кнізе таго ж Данілеўскага «Россия и Европа», і таму нам з ёю трэба быць вельмі асцярожнымі. Гэта важна помніць

**(Працяг на стар. 12).**

# ПЕСНЯ ЯГО ЖЫВЕ

## Да 75-годдзя з дня нараджэння Міколы СУРНАЧОВА

Сёлетняй восенню наведаў прыгожы гарадок на Гомельшчыне — Рагачоў. Ёкнула сэрца, калі ступіў на вуліцу, на дамах якой бялелі шыльды — вуліца М. Сурначова. Памяць адразу перанесла мяне ў далёкі даваенны 1938 год. Я — студэнт другога курса Гомельскага педінстытута. Чацвёра нас жыло ў інтэрнацкім пакоі на вуліцы Песіна. Разам з намі — і Мікола Сурначоў.

Аднойчы, вярнуўшыся з заняткаў, селі мы падсілкавацца. Раптам пачулі стук у дзверы. Убачылі пажылога чалавека, які спакойна паклаў на крэсла сялянскую торбу і накіраваўся да Сурначова.

— Прыйшоў павітаць цябе з днём нараджэння, сынок,— абдымаючы Міколу, гаварыў ён.— Табе ўжо дваццаць другі год пойдзе.

На стол леглі яблыкі і ладны шмат сала, колца кілбасы.

Крыўдна, што не запомніў, які тады быў дзень. Памятаю адно — была позняя восень. А дзень — забыўся. Шкада, бо ні ў адным даведніку дзень нараджэння М. Сурначова не пазначаны.

Сустрэліся мы з ім у жніўні 1937 года, калі паступілі ў Гомельскі педінстытут. Два гады я жыў з Міколам у адным пакоі, разам да позняй ночы ў бібліятэцы сядзелі над падручнікамі, гутарылі аб літаратуры. Часта М. Сурначоў успамінаў сваю Рагачоўшчыну, вёску Слабаду, дзе нарадзіўся ў 1917 годзе. Ён вылучаўся сярод аднагодкаў сур'ёзнасцю, начытанасцю. У ягонай бібліятэцы былі кнігі Ціханава, Святлова, Уткіна, Купалы, Коласа.

Два гады правучыўся М. Сурначоў у Гомельскім педінстытуце. Потым пераехаў у Мінск. Ужо на старонках «Чырвонай змены» мы чыталі яго вершы і нарысы. Памятаю нізку твораў «Барвовая зара» ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» з эпіграфам Аляксея Суркова: «Вот и кончилось детство, Колька». Гэтыя словы любіў паўтараць Мікола.

Калі па справах рэдакцыі ён прыязджаў у Гомель, заходзіў у інстытут. Цікавіўся, хто піша вершы, дзе друкуецца. А тут падавалі паэтычныя галасы Кастусь Кірэенка, Леанід Гаўрылаў, Міхаіл Корнеў.

Праз некаторы час Мікола Сурначоў перайшоў працаваць у «Звязду».

А неўзабаве пачалася Вялікая Айчынная вайна. Яна раскідала нас па розных суровых дарогах. У лісце ад 28.VIII.42 года Мікола пісаў мне на Бранскі фронт: «Разбудзіла мяне бамбёжка. Бягу ў рэдакцыю. У горадзе пажар... Адзінае рашэнне — ісці ў Чырвоную Армію, ішоў са мной М. Аўрамчык. Развітаўся з Аўрамчыкам у Бабруйску. Сам паехаў да Магілёва. Там працаваў у «Звяздзе», а потым пайшоў у Чырвоную Армію».

Першыя ўражанні вайны вyліліся ў вершы «У стоптаным жыце». Цяпер гэты верш вядомы шырокаму чытачу, ён хрэстаматыйны, перакладзены на рускую мову А. Твардоўскім.

**Не вярнуцца ніколі**
**Хлопцу маладому**
**К ЗАРОСШАМУ МОХАМ**
**ЗАБЫТАМУ ДОМУ.**
**Над ім асыпаюцца**
**Слуцкія краскі.**
**Абсмалены колас**
**Схіліўся да каскі.**
**Ляжыць ЁН ЗАБІТЫ**
**У стоптаным жыце.**
**Маці спаткаеце.—**
**ЛЕПШ не кажыце[1].**

Многа суровых дарог прайшоў паэт. Яны вялі яго праз дымныя пуцявіны Украіны, Беларусі, Польшчы, Германіі. Дзе б ён ні быў, перад ім паўставаў вобраз роднага краю — Беларусь. Не забываў ён і роднага слова. Яно было для яго гаючым паветрам.

Восенню 1942 года з Масквы ад Кузьмы Чорнага я атрымаў пакет. У ім быў яго зборнік фельетонаў «Кат у белай манішцы», газета «Савецкая Беларусь» і газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну», і ўсё гэта я выслаў Міколу Сурначову. Ён з радасцю пісаў мне, што атрымаў падарунак.

Лістапад 1944 года. Нечакана М. Сурначова спаткаў каля Дома друку. Ён, як і я, прыбыў з фронту на кароткую пабыўку. Моцныя абдымкі. Роспыты. Успаміны. Я не пазнаў голасу сябра — суровы, крыху прастуджаны. Ён прачытаў мне верш «Зямлянка», які аддаў у «Чырвоную змену».

Хутка цягнікі павезлі нас у розныя бакі, і больш мы не сустракаліся. У апошнім лісце ад 31.XII.44 г. мой сябар пісаў: «...Ведай, Паўлюк, многа мне давялося перажыць. Сем з паловай месяцаў ляжаў у шпіталі... Я зараз на Вісле. Хутка ўдарыць вялікі гром, і я буду удзельнікам».

Ужо вымалёўваўся воблік чаканай Перамогі. Баі былі жорсткія, упартыя. У адным з іх недалёка ад варожай сталіцы Берліна загінуў Мікола Сурначоў — не даспяваўшы сваёй мужнай песні, прапахлай пажарамі вайны.

Літаратурная спадчына яго сабрана ў зборніках «На сурнах баравых» (1946). «Барвовая зара» (1959), на рускай мове — «Одна любовь» (1959) у перакладзе Д. Кавалёва і І. Бурсава. У 1986 годзе выдадзен зборнік «Акопны спеў», складзены мною, куды ўвайшлі вершы паэта, лісты да яго сяброў, успаміны аб ім.

**Паўлюк ПРАНУЗА.**

[1] Так напісана ў лісце, які захоўваю.

# ПРАЗ СТО ГАДОЎ

**Пры жыцці Францішку Багушэвічу ўдалося выдаць тры кніжачкі. Гэта «Дудка Беларуская» і «Смык Беларускі», а таксама кніжку - апавяданне «Тралялёначка». Першыя дзве беларускія чытачы ведаюць добра. А вось «Тралялёначку», выдадзеную ў 1892 годзе ў Кракаве, бачылі толькі адзінкі. І не дзіўна. У кніжачкі гэтай загадкавы лёс. Яна ананімная, У бібліятэках свету ацалелі толькі два яе асобнікі: у Ягелонскай—у Кракаве і нацыянальнай—у Варшаве.**

**На Беларусі пра «Тралялёначку» загаварылі толькі ў пачатку шасцідзесятых гадоў. З тае пары Багушэвічава апавяданне стала хрэстаматыйным творам нашай літаратуры. Але друкавалася яно ўжо кірыліцай і не давала чытачам ўяўлення ні пра саму кніжачку, ні пра Багушэвічава пісьмо, бо не сакрэт: кірыліца не перадае ўсіх нюансаў пісьма лацінкаю.**

**І вось нарэшце беларусы атрымалі магчымасць паглядзець, як выглядала Багушэвічава кніжка - апавяданне, пазнаёміцца з усімі асаблівасцямі яго пісьма. Літаральна днямі самаахвярнымі энтузіястамі выдавецкай суполкі «Адраджэнне» Алесем і Святланай Жынкінымі «Тралялёначка» пушчана ў свет факсімільным выданнем. Гэта, трэба шчыра сказаць, добры гасцінец усім сімпатыкам Багушэвічавага таленту: літаратарам, настаўнікам, аматарам беларушчыны.**

**Наклад кніжкі пакуль усяго пяцьсот асобнікаў. Але я ўпэўнены, выдаўцам давядзецца не адзін раз паўтарыць наклад. Паспрыялі выхаду згаданай кніжкі доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс і Здзіслаў Нядзеля з Кракава, які з клопату беларускага вучонага прыслаў нашым выдаўцам мікрафільм «Тралялёначкі».**

**З гэтага мікрафільма якраз і зроблена факсіміле Багушэвічавай кніжкі - апавядання. Кошт яе беларускімі грашыма — два рублі. Набыць кніжку можна ў кіёсках Таварыства беларускай мовы.**

**Выдавецкая руплівасць Алеся і Святланы Жынкіных заслугоўвае самай шчырай падтрымкі і ўхвалы.**

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**Што мы ведаем пра Арменію? Масавая свядомасць паслужліва выдае набор стэрэатыпаў: Арарат, Карабах, землятрус 1988 года, гандляры садавінаю з Камароўкі. Аматар анекдотаў можа дадаць байкі ды показкі «армянскага радыё», аматар міліцэйскіх пратаколаў—таксама літаратурны жанр!—жахлівыя гісторыі з удзелам крымінальных «лиц кавказской национальности». Вось, бадай, і ўсё.**

**Будзем шчырыя: за шматгадовую сумесную гісторыю мы так і не дазналіся пра мінуўшчыну і культуру далёкіх і не вельмі далёкіх суседзяў, з якімі так доўга жылі ў адной імперыі. «Пралетарскі інтэрнацыяналізм» прадугледжваў хіба што ветлівыя словы з трыбун ды на афіцыйных застоллях; на побытавым узроўні мы былі адзін для аднаго «хахламі», «бульбашамі», «лабусамі», «чуркамі»... Зрэшты, традыцыі тагачаснага інтэрнацыяналізму, відаць, неўміручыя... Імёны, напрыклад, Месропа Маштоца ці Грыгора Лусаварыча скажуць беларусу гэтак жа нямнога, як і армяніну імёны Францішка Скарыны і Сымона Буднага. Мала хто з нас ведае, што адна з найстаражытнейшых дзяржаў свету, царства Урарту—армянскага паходжання, і што Арменія—першая ў свеце краіна, у якой хрысціянства стала дзяржаўнай рэлігіяй. Сведкі тае мінуўшчыны раскіданыя па ўсім Аястане—шматлікія храмы, манастыры, капліцы і замкі. Нават геаграфічныя назовы сваёй непаўторнай своеасаблівасцю адраджаюць у памяці каменныя арнаменты на старажытных базальтавых крыжах —хачкарах: Цахкадзор, Макраванк, Гехарт, Вагаршапет...**

**Арменія, як і ўсе мы, перажывае сёння не лепшыя часы. У крызісным стане грамадскае жыццё, эканоміка, навука, мастацтва і літаратура. Прапануем некаторыя развагі пра літаратуру (і не толькі пра яе) самай, бадай, вядомай нашаму чытачу армянскай пісьменніцы Сільвы Капуцікян.**

**У. А.**

## Сільва КАПУЦІКЯН:

# «У Арменіі, на вялікі жаль, перамагла рамантыка...»

**— Тэрмін «шматнацыянальная савецкая літаратура», такі папулярны яшчэ некалькі гадоў таму, цяпер, безумоўна, належыць гісторыі. Ані беларускія, ані армянскія літаратары не далучаюць сябе да «нацыянальных атрадаў пісьменніцкага цэха СССР». Сёння для кожнай з літаратур былой імперыі ўласцівы свой модуль развіцця. Што найбольш характэрна для літаратурных працэсаў сённяшняй Арменіі?**

— Не будзе перабольшваннем сказаць, што ў Арменіі літаратуры ў звыклым разуменні слова ўжо гадоў пяць не існуе. Час не спрыяе лірыцы, паэзіі «чыстае красы»: праблема нумар адзін — Арцах (армянскі назоў Карабаха. **—У. А.**), адсюль — безумоўная перавага публіцыстыкі. Здала нядаўна ў армянскую «Літаратурную газету» нізку вершаў — лірыкі там няма. Не атрымліваецца яна сёння. Нават Грант Матэвасян — прызнаны майстар лірычнага слова — займаецца сёння пераважна палітычнай публіцыстыкай. Думаю, што калі назбіраць артыкулы, інтэрв'ю, нарысы, а таксама шматлікія лісты, тэлеграмы пратэсту ды іншыя эпісталярыі, накіраваныя ў свой час у маскоўскія дзяржаўныя ўстановы армянскімі літаратарамі, атрымаўся б шматтомны збор.

Памятаю, мы з публіцыстам Зорыем Балаянам былі на аўдыенцыі ў Гарбачова. Спадзяваліся, што канфлікт паміж Арменіяй і Азербайджанам можна вырашыць невайсковымі сродкамі. На вялікі жаль, нашыя спадзяванні былі дарэмнымі... Менавіта пасля тае сустрэчы і давялося заняцца пераважна публіцыстыкай.

**— Значыцца, літаратура не можа існаваць па-за часам?**

— Безумоўна, не. А ў сучаснай Арменіі гэта выяўляецца асабліва выразна: падобнай еднасці ўсёй нацыі мне не даводзілася бачыць ані ў адной з рэспублік былога СССР. Добра памятаю падзеі ў Арменіі пасля Сумгаіта — з трохмільённага насельніцтва рэспублікі на сталічнай плошчы сабраўся мільён людзей на мітынг! І хаця незадаволенасць маскоўскімі палітыкамі была ўсеагульная, мы яшчэ верылі падсвядома, што нам дапамогуць, верылі Гарбачову. Армяне, як то ні дзіўна гучыць, у большай ступені рамантыкі, чым прагматыкі і, на вялікі жаль, у Арменіі на той час перамагла рамантыка, а не цвярозы рэалізм. Мы рабілі памылку за памылкай, і, можа, каб не наш прыроджаны рамантызм, падзеі разгортваліся б іншым чынам...

**— А калі вярнуцца непасрэдна да літаратуры?**

— Таго, што крытыка называе «літаратурным працэсам», у нас на сённяшні дзень няма ці амаль няма. Выдаецца чыста літаратурны часопіс «Норк» армянскага СП, штотыднёвікі «Гарун» і «Літаратурная газета», рускамоўнае выданне «Літаратурная Арменія». Але ж, паўтараю, безумоўная перавага аддаецца публіцыстычным творам. Апроч вышэйзгаданых, ёсць недзе трыццаць-сорак незалежных выданняў, якія фундуюцца камерцыйнымі структурамі і раз-пораз друкуюць літаратурныя творы, пераважна аўтараў-пачаткоўцаў, — выданні гэтыя звычайна існуюць колькі месяцаў і знікаюць гэтак жа раптоўна, як і з'яўляюцца. Газета ў Арменіі каштуе ад рубля да пяці, а сярэдні заробак у рэспубліцы — тысяча-паўтары тысячы (прэзідэнт Тэр-Петрасян мае аклад тры тысячы пяцьсот рублёў); натуральна, любое чыста літаратурнае выданне асуджана на банкруцтва...

**— Любая з літаратур не маналіт; кожная мае нейкія ўнутраныя размежаванні, водападзелы, «дэмаркацыйныя межы» ці нават «берлінскія сцены»; кожная мае свой канфлікт. Расейскай літаратуры ўласцівая спрадвечная «разборка» паміж «почвенниками» и «западниками», у беларускай літаратуры мяжа пралягае хутчэй паміж пакаленнямі...**

— У сучаснай армянскай літаратуры ніколі не было вострых канфліктаў — еднасць нацыі ў пэўнай ступені вызначыла і еднасць літаратуры. Натуральна, былі дробныя сутычкі, характару больш фармальнага, чым літаратурнага. Напрыклад, у сярэдзіне васьмідзесятых гадоў маладыя аўтары спрабавалі адысці ад традыцыйнага пісьменніцтва з мэтаю

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# Які храм будуем?

У кнігарнях з'явіўся новы гістарычны беларускі раман. Яго аўтар Вітаўт Чаропка нарадзіўся ў 1961 г. у Мінску, служыў у войску, працаваў рабочым. Калі працуеш у ліцейным цэху Мінскага трактарнага, не так лёгка пасля змены ісці ў бібліятэку, шукаць матэрыялы па гісторыі XVI стагоддзя, рабіць запісы. Але малады чалавек здолеў напісаць вялікі мастацкі твор, заявіў сваё імя ў літаратуры.

У рамане «Храм без бога» паўстае Беларусь пачатку XVI ст. Здаецца, пра той час мы ведаем шмат, бо нядаўна святкавалі 500-годдзе Францыска Скарыны. Калі адбываліся падзеі твора, Скарыну было 16—17 гадоў. Якраз у 1506 г. будучы асветнік атрымаў вучоную ступень бакалаўра ў Кракаўскім універсітэце. А Беларусь (Літва, як называлі тады) цярпела нашэсце татараў. Была асада Слуцка, Менска, Наўгарадка, якія ўсё ж вытрымалі яе. У рамане падрабязна апісана абарона Слуцка, якой кіравала жанчына — княгіня Настасся Алелькавіч.

Жнівень 1506 года. Адзін з самых слаўных момантаў айчыннай гісторыі. Пад Клецкам згуртаваныя вайсковыя харугвы беларусаў і літоўцаў ушчэнт разбілі крымскае войска. Як занатаваў летапісец, усе палі ад Клецка да вытокаў Лані былі пакрыты забітымі наездцамі, вызвалена з татарскага палону сорак тысяч вязняў. Пасля гэтай бойкі буйных наездаў на Беларусь крымчакі ўжо не рабілі. Дарэчы, у гэтай бітве ўдзельнічалі і ваяры з Берасця на чале з Васілём Львовічам. А сам горад быў разрабаваны татарамі ў 1500 г., хоць замак узяць яны не змаглі.

Сюжэт твора складаны. Тут і каханне, і здрада, і палітычныя гульні, і цудоўны выратунак галоўнага персанажа, шляхціца Мацея Кузьмініча. Кранута тэма адносін Літвы з усходнім суседам — Масковіяй. Школьныя падручнікі неяк замоўчвалі факты шматлікіх войнаў з Масквою. Менавіта ў той перыяд там фарміруюцца імперскія амбіцыі. Маскоўскі князь абвяшчае: «Вся Русская земля Божиею волею из старины наша вотчина». Маскоўскі князь ужо забыўся, што «из старины» яго вотчынаю быў невялічкі маскоўскі ўдзел. Змаганне за «вотчыну» цягнецца каля 150 год. Перамога перакідваецца то на той, то на другі бок, пакуль яна зусім не пяройдзе на бок Масквы. Такія гарады, як Полацк, Мсціслаў, Магілёў, Ворша, Рагачоў, Гомель, Віцебск, Смаленск і іншыя, руйнуюцца па некалькі разоў. Найбольшы мірны перапынак цягнуўся ўсяго 25 год.

В. Чаропка ўводзіць у раман эпізод з пасольствам да рускага цара Васіля Трэцяга. Удала паказана праз успрыманне шляхты Масква, Крэмль, звычаі пры царскім двары. Паслы прывезлі ад караля польскага, вялікага князя літоўскага Жыгімонта патрабаванне вярнуць Літве землі, якія захапіў раней бацька Васіля Іван Трэці, выдаць палонных і пакараць

засваення літаратурных кшталтаў сучаснага еўрапейскага мадэрна. Але сёння можна з упэўненасцю сказаць, што кшталты гэтыя ў армянскай літаратуры не прыжыліся.

Літаратарам майго пакалення даводзілася чуць у свой адрас ад маладзейшых калег абвінавачванні накшталт такога: «Вы былі рабамі, вы пісалі ў часы камуністычнага рэжыму»... Але наўрад ці варта ўспрымаць падобныя заявы ўсур'ёз: многія творцы пісалі за часам самых жудасных тыраній, і напісанае імі не стала горшым адно з гэтае прычыны. Крытэрый вызначэння павінен быць іншы. Што тычыцца аўтараў падобных заяў, дык асабіста я схільная бачыць у гэтым праяву юнацкага максімалізму, які, магчыма, мае вытокам рамантычнасць армянскага нацыянальнага характару, а не цвярозы рэалізм, каторага нам усім так бракуе.

**— У якой ступені, на ваш погляд, спалучаюцца тэрміны «мастацтва» і «камерцыя»? Ды й увогуле, што вы можаце сказаць пра стан сучаснай армянскай літаратуры ў новых эканамічных умовах?**

— Пасля апошняй вандроўкі па краінах, дзе жыве армянская дыяспара, напісала кнігу «Спюрк» (вытворчае ад слова «спрвэл» — «рассяленне», «спюрк» — раскіданае па ўсім свеце армянства. — **У. А.**). Два гады не магу яе выдаць. Дзяржаўнае выдавецтва «Натры» адмаўляецца яе друкаваць, бо вельмі дарагі, па іх словах, сабекошт; затое ўсялякія «Фантамасы», «Тарзаны» ды секс-гараскопы друкуюцца бесперапынна. Камерцыйныя выдавецкія структуры таксама не надта заахвочаны друкаваць сур'ёзную літаратуру, бо прыбыткі з яе, калі і будуць, атрымаюцца мінімальныя. Дзяржава даўно ўжо не дае грошай ні на навуку, ні на мастацтва, ні на літаратуру. Ільвіную долю бюджэту забіраюць вайна, уладкаванне ўцекачоў з Азербайджана, ліквідацыя паследстваў землятрусу. Што тычыцца «новых эканамічных умоў», у якіх апынулася сучасная армянская літаратура, дык скажу адно: тутэйшыя пісьменнікі вядуць амаль жабрацкі лад жыцця, а тая літаратура, што з'яўляецца сёння, ствараецца хіба што на адным энтузіязме. А што тычыцца практыкі мецэнацтва, спонсарства — наш новы капіталізм знаходзіцца яшчэ на той ступені, калі галоўнае любымі сродкамі зарабіць капітал. Тут ужо не да дабрачыннасці. Магчыма, з цягам часу становішча і палепшыцца, але не сёння і не заўтра.

**— І апошняе пытанне, можа быць, не столькі да Капуцікян-пісьменніцы, колькі да Капуцікян-армянкі: што вы можаце сказаць з нагоды некаторых антыармянскіх выступленняў у Расіі? Дзякуй Богу, на Беларусі да гэтага яшчэ не дайшло...**

— Мне вельмі хочацца памыліцца, але, здаецца, расізм у расейцаў у крыві — маю на ўвазе расейскіх люмпенаў. Люмпену ўсё адно, каго біць, усё адно, які пагром учыніць — яўрэйскі, армянскі ці якінебудзь іншы. Галоўнае — прага беспакарана біць і знішчаць, аб'ект бойкі і знішчэння можа быць які заўгодна. Большасць антыармянскіх выступленняў, безумоўна, справакавана. На тым жа Паўночным Каўказе некалькі разоў з'яўляліся ўлёткі, напісаныя нібыта армянамі, у якіх заклікалася да стварэння «Вялікай Арменіі», у каторую павінны ўвайсці і паўночна-каўказскія раёны. Відавочна, гэта — правакацыя! Значыцца, камусьці выгодныя падобныя рэчы, выгодна нестабільнасць. Ёсць яшчэ адзін фактар — зайздрасць: многія армяне (асабліва тыя, што жывуць па-за межамі Арменіі) задоўга да цяперашніх эканамічных рэформ добра, на практыцы засвоілі механіку рынкавай эканомікі; натуральна, многія з іх у матэрыяльным плане жывуць лепш за мясцовае жыхарства. Але ж яны не лайдачаць і не п'юць гарэлку з ранку да вечара, як многія расейцы, а працуюць па-чорнаму: наладжваюць дробную вытворчасць, гандлююць... І калі праз колькі гадоў мясцовы абібок бачыць, што ў прышлага суседа і дом лепшы, і магчымасцяў больш, гэта, натуральна, выклікае зайздрасць і жаданне зраўняць яго матэрыяльны ўзровень са сваім — зруйнаваць, паламаць, пабіць, каб усе былі роўнымі. Дастаткова каму-небудзь справакаваць люмпена — вось і атрымаецца пагром.

Баюся, што ў бліжэйшыя часы, калі ўцекачоў-армянаў усё большае, сітуацыя будзе пагаршацца. Але я веру ў свой народ — мы перажылі і рымскія, і парфянскія, і мангольскія нашэсці, перажылі жудасны генацыд 1915—16 гг., рана ці позна перажывем і сённяшнія праблемы.

**— Дзякуй за размову, Сільва Барунакаўна.**

**Гутарку вёў Уладзіслаў АХРОМЕНКА.**

---

тых, хто нападаў на Смаленшчыну.

У рамане працягу няма, але гісторыя ведае, як у 1508 г. маскоўскія войскі ўварваліся на Беларусь. Жыгімонт сабраў моцнае войска і выйшаў ім насустрач. Васіль Трэці павінен быў прасіць згоды. Падпісвалі «вечны мір», але праз пяць год маскоўская армія зноў увайшла на тэрыторыю Беларусі. Адбываюцца адна за другою вялікія бойкі пад Смаленскам і Воршай. Перамаглі тады беларусы, хоць армія гетмана Астрожскага была меншай за маскоўскую ў два разы.

Далей перад чытачом адкрываецца трагічная старонка — паўстанне беларускай шляхты на чале з князем Міхайлам Глінскім супраць караля Жыгімонта. Вось да гэтай сюжэтнай лініі і адносіцца назва рамана.

Тэма грамадзянскай вайны актуальная і цяпер, хоць, дзякуй Богу, Беларусь яна не кранула. Такі знаёмы для нас дыялог адбыўся паміж Салегам і Глінскім: «—Калі трэба быць грэшнікам — будзь ім. Калі трэба быць святым — будзь. Калі трэба хітрыць — хітры, падманвай. Дзеля Радзімы ўсё дазволена». «—Ты прапаноўваеш будаваць храм без Бога?». Гэтае пытанне якраз тычыцца сённяшняга дня. Мы ўсё яшчэ жывем на вуліцах Леніна, Дзяржынскага, Суворава.

Кніга «Храм без бога» — першая ў маладога празаіка. Але друкуецца В. Чаропка ўжо даўно — у часопісах «Крыніца», «Маладосць», «Беларусь», іншых перыядычных выданнях. Запомнілася фантастычнае апавяданне «Няхай жыве горад шчасця!» («Маладосць», 1989, № 11). З горкай іроніяй Чаропка малюе гіпербалізаваны лад развітога сацыялізму: «Гісторыя пачалася з таго гістарычнага моманту, калі адчыніліся дзверы ў светлае будучае, а дагэтуль у горадзе панавала цемра жабрацтва».

Мы доўгі час думалі, што наша гісторыя пачалася з «кастрычніка семнаццатага». Цяпер адкрываем для сябе ўсё новыя яе старонкі. І адну з іх раскрыў для нас Вітаўт Чаропка.

**У. СУХАПАР,**
**бібліёграф Брэсцкай абласной бібліятэкі.**

---

# ДЗЕ ВЫ, РАЙСКІЯ ДРЭВЫ?



ЛІСТАПАД

Калі не знаёміліся яшчэ з лістападаўскімі нумарамі нашых літаратурна-мастацкіх часопісаў, пастарайцеся пачаць гэта з «Полымя». З другой паловы яго. Дзе змешчаны публіцыстычныя і літаратуразнаўчыя матэрыялы і сярод іх — артыкул Я. Саламевіча «Праз гады» (як гаворыць сам аўтар — «спроба бібліяграфічнага агляду «Полымя»). Не ведаю, магчыма, будзе і працяг публікацыі, бо завяршаецца яна словамі: «Полымя» ўступала ў 1930-я гады». Тым самым, як бачна, Я. Саламевіч перагортвае камплекты часопіса за першыя восем гадоў, уважліва перачытвае найбольш значныя матэрыялы, запыняючы на іх і нашу ўвагу. Гэта дае добрую спажыву для роздуму, аналізу і проста для інфармацыі. Не забудзем, што гадавыя камплекты, пра якія вядзецца гаворка, у нашых бібліятэках поўнасцю не захаваліся. Агляд дае выразную карціну таго, у якіх умовах развівалася нацыянальная літаратура ў дваццатыя гады, як паступова пачынаў закручвацца махавік партыйнага кіраўніцтва ёю, як ад «класавай крытыкі» пераходзілі да «класавай» ліквідацыі тых, з кім было не па шляху. А яшчэ агляд дае магчымасць зразумець, што, нягледзячы ні на што, пісьменнікі стварылі шмат твораў, якія і сёння належаць да залатога фонду.

Каб зацікавіцца артыкулам С. Скаруліса «Лістападаўская справа» і Якуб Колас», дастаткова кінуць позірк на яго пачатак: «У апошнія дні жніўня 1925 года ў ДПУ Беларусі паступілі звесткі пра тое, што ў Слуцкай акрузе ў раёне вёсак Селішча, Еўлічы, Дарасіно (за 10—20 кіламетраў ад Слуцка) на тэлеграфных слупах былі расклеены контррэвалюцыйныя адозвы, пісаныя на беларускай мове друкаванымі літарамі. Адозвы гэтыя заклікалі сялян скінуць уладу «прышэльцаў-камуністаў», «жыдоў», не плаціць падаткаў і нават да паўстання за «вольную, незалежную Беларусь. Усіх адозваў было каля пятнаццаці».

Аказваецца, Случчына «бунтавала» і пасля знакамітага Слуцкага паўстання, угодкі якога адзначаліся нядаўна. Хто ж ён, Юрый Лістапад, якога зрабілі ў гэтай справе галоўным, з кім хаўрусаваў, дбаючы аб незалежнасці Беларусі? Які далейшы лёс «бунтаўшчыкоў» і якое дачыненне да ўсяго гэтага меў Якуб Колас, які некаторы час выкладаў на Слуцкіх настаўніцкіх курсах? Пра гэта гаворка ў артыкуле. С. Скаруліс уводзіць у шырокі ўжытак малавядомыя, а то і зусім невядомыя матэрыялы, асабліва тыя, што не адно дзесяцігоддзе замоўчваліся.

Увогуле, коласаўскія публікацыі ў нумары займаюць вялікае месца. У лістападзе ж, як вядома, споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння народнага песняра. Грунтоўнасцю аналізу, навізной яго, адыходам ад стэрэатыпаў у ацэнцы здзейсненага Я. Коласам вылучаюцца артыкулы У. Конана «Беларускі музыка-арфей» і В. Жураўлёва «Відушчая сіла сумнення». Д. Міцкевіч запрашае прайсці мясцінамі, дзе жыў паэт («Родны кут песняра»). М. Жыгоцкі («Чуцен быў голас паэта») вяртае ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі Я. Колас жыў у Ташкенце. Стасуецца да ўсіх гэтых матэрыялаў і артыкул М. Міцкевіча «Забытае імя» — ці не ўпершыню так падрабязна расказана пра Міхаіла Міхайлавіча Міцкевіча, малодшага брата песняра, які ў свой час выступаў у друку пад псеўданімам Антось Галіна і яшчэ ў 1944 годзе выехаў за мяжу, жыў у Злучаных Штатах Амерыкі. Дарэчы, у «Маладосці» апублікаваны яго ўспаміны «Якуб Колас. Жыццёвы шлях і творчасць», таксама досыць пазнавальныя.

Друкуецца пачатак нарыса С. Законнікава «Вячэра пад райскім дрэвам». Уражанні маленства і згадкі ад паездкі ў Германію, асабістае і агульначалавечае — захаванне міру, экалагічная раўнавага на планеце, а калі глядзець шырэй — захаванне самога жыцця, лірычныя адступленні і публіцыстычны роздум... Ці не з гэтага лірычна-засяроджанага і назва нарыса? «Асабліва помняцца з таго часу (яшчэ са школьных гадоў.—**А. Ан-евіч**) нашы вячэры пад райскім дрэвам. Гучыць, можа, трохі напышліва, дык я растлумачу. Звычайна яблыню, якая ўвесну (кожны год без адгулу!) адчайна, безаглядна шчодрыцца густою квеценню, а ўлетку дорыць маленькія чырвоныя плады — спачатку сакавітыя, пасля, як паспеюць, — сопкія, нібы рассыпчатая бульбачка, — у нас называюць райскаю. Ды тую бухматую прыгажуню ля школы, якая сёння састарэла, усохла, але ўсё ж жыве, я заўсёды ўяўляю райскім дрэвам на беразе «ракі вады жыцця», што цячэ ад прастола Бога». Ці не адсюль і туга па тым, што мінулася, і адначасова не меншая, а большая — як жа будзе там, наперадзе? Нарыс запрашае да роздуму, аналізу, да пашырэння гаворкі, пачатай аўтарам. Пра наш няўпэўнены свет і пра нас саміх, хто мы ёсць на грэшнай зямлі, на якой, на жаль, усё меней застаецца і райскіх дрэў, і райскіх мясцін...

Ды і самі мы не вечныя. Хочаш не хочаш, а з гэтым трэба пагаджацца:

**І я сыду, як сходзіць талы снег**
**З пагоркаў ручаінамі ў даліну.**
**І праведнасць, з якою жыў, і грэх—**
**Нічога не вазьму, я ўсё пакіну.**

Пагаджацца, але не мірыцца, не апускаць рук долу, чакаючы незваротнага. Згаданы верш — з «палымянскай» нізкі У. Паўлава. Каторы раз разважае над гэтым паэт, суадносячы тое, што было, з тым, што ёсць. Заклікаючы: «Край наш, спіну разагні, родны вярніся к свядомасці!», канстатуючы: «Прыстойнасць сёння проста не ў цане. Другое шчасце сілу набірае». Ды не проста дэкларацыйнасць гэта, а немагчымасць маўчаць, калі меней на зямлі дабра, адыходзіць на другі план духоўнасць, народная маральнасць: «Хіба мы аглухлі, хіба мы ўсе разам паснулі? Жаўронка над полем не чуем, а ў лесе зязюлі».

Не можа маўчаць і А. Траяноўскі. Ведаў яго (ды і ўсе мы таксама ведалі), як перакладчыка, публіцыста, але, аказваецца, Алесь Пятровіч і вершы піша... Па-зямному простыя і гэтак патрэбныя, як усё зямное:

**Малюся я сонцу, малюся я зорам,**
**Агню, бліскавіцам і грому,**
**Пяруну, Ярылу, Дажбогу і Жытню—**
**Паганскаму боству старому.**

«Палымянская» паэзія — гэта яшчэ і творы В. Ракава і В. Аксак — з тым жа вяртаннем да першаасноў. В. Макарэвіч і «Маладосць» згадвае воблікі памерлых сяброў («Міхась Стральцоў», «Сымон Блатун»); адзін з вершаў — «Арляня» — прысвячае Міколу Аўрамчыку. «Ніколі яшчэ не цягнула так моцна да роднае зямлі»,—прызнаецца маладосцеўскі дэбютант Л. Крывецкі. Моцная маральная падсветка ў вершах М. Пазнякова, у вянку санетаў З. Марозава «Азарэнне».

У аповесцях М. Лук'янава «Яго боль» і А. Асіпенкі «Цыркачка і маёр» (змешчаны пачатак) на першым плане драматычныя людскія лёсы, складаныя сітуацыі. Аўтары як бы нагадваюць: у жыцці ўсё бывае, часам вельмі цяжка выкараскацца з варункаў, у якія трапляеш. Новая аповесць А. Асіпенкі вылучаецца не толькі псіхалагізмам (чаго заўсёды чакаеш ад гэтага вопытнага аўтара), а і ўменнем пісьменніка заінтрыгаваць чытача.

Што тычыцца апавяданняў маладога аўтара А. Шаўцова-Базука «Абдурыў» і «Спрэчка», дык, па-мойму, узяўшы за аснову «прыманлівы» факт, ён не ставарае адпаведнага моманту, тым самым, па сутнасці, далей звычайнай канстатацыі не ідзе. Ёсць выпадак і — няма належнага аналізу, асэнсавання яго. Праўда, тое, што А. Шаўцоў-Базук выбірае не заезджаныя сюжэты, абнадзейвае.

«Нёман» застаецца нястомным прапагандыстам лепшых дасягненняў сучаснай беларускай літаратуры сярод рускамоўнага чытача. Адзінаццаты нумар — не выключэнне. Пералік імёнаў, як кажуць, гаворыць сам за сябе: празаікі — Я. Скрыган, У. Караткевіч, А. Жук, А. Масарэнка, М. Адамчык, М. Клімковіч, паэты — К. Камейша, В. Лукша, К. Цвірка... Напісанае імі пазначана роздумам аб хуткаплынным часе, прасякнута ўважлівым стаўленнем да чалавека.

А ў «Беларусі» (не адмаўляючы значнасці іншых матэрыялаў) вылучыў бы эсэ А. Лойкі «Мая правінцыя» і артыкул В. Нікіфаровіча «Тут жыве яго душа». Прызнацца, абедзве гэтыя публікацыі цесна прымыкаюць адна да другой. А. Лойка расказвае пра **свой** Слонім. В. Нікіфаровіч жа разважае аб Шагалаўскіх днях у Віцебску, таксама ідучы ад прывязанасці сусветна вядомага мастака да родных мясцін. Матэрыялы выклікаюць жаданне і надалей чытаць у часопісе нешта падобнае. Хаця — ці не рубрыка «Мой родны кут» гадоў з пятнаццаць назад рэгулярна расказвала ў «Беларусі» пра пэўныя гарады Бацькаўшчыны?

**А. АН-ЕВІЧ.**

Юрась СВІРКА



# ВЕРУ, ЯК І ВЕРЫЎ, Ў СВЯТОЕ

●

А што мы лічым родным домам,
Калі бацькоў няма даўно!
Ці хату бацькаву пад клёнам,
Ці студні светлае вакно;

Ці сцежку, што у лес вадзіла,
Ці той крынічкі халадок,
Якая смагу наталіла,
Ці гаю блізкага шнурок;

Ці той дымок, пахучы, востры,
Што дакранаецца душы,
Калі яшчэ братам і сёстрам
Ты, адыходнік, не чужы;

Ці мову, родную спрадвеку,
Хто не адрокся ад яе,
Яна, як праўда чалавеку,
На ёй ён плача і пяе;

Ці вёску, што даўно пакінуў,
Жаданы край, маленства кут,
Дзе болей згадак-успамінаў
І меней тых, з кім бегаў тут;

Ці момант той на скрыжаванні,
Калі стаіш ты на шашы
І адчуваеш пры расстанні
Прысутнасць матчынай душы!

Усё сышлося ў родным доме.
І гэта як не адчуваць,
Калі пара жыццё самому
Не для сябе ўжо абнаўляць!..

●

Свет помніць песню рускую—«Кацюшу»,
І да вайны спявалі і пасля.
Дзявочай вернасцю кранала душы,
Даходзіла і зблізку, і здаля.

І вершы Ісакоўскага гучалі.
Нібыта свой, той успрымалі спеў:
«Мы так Вам верили, товарищ Сталин,
Как, может быть, не верили себе».

О не, паэт не варты наракання,
Не выдумляў ён ухваляльных слоў:
Засведчыў ён народнае прызнанне,
Хоць і не ўсю — народную любоў.

Няўжо народ свайго не бачыў шчасця,
Няўжо ён неразборлівы такі!
«Мы так Вам верили...» — чутно ў
радку праклящце,
Народнае праклящце навякі!

Пра час былы салодка я не мрою,
Там муза акрылялася мая:
«Мы так Вам верили...» І той парою
Я шкадаваў, што так сказаў не я.

О, божа мой! Не здарыцца б такому,
Каб зноў свой час і спеў свой дакараць,
Каб слоў «Мы так Вам верили...» нікому
З праклящцем і хвалой не прамаўляць.

## Бяроза і Вілля

### Да геральдыкі Докшыц

Тут самыя чысцейшыя крыніцы.
Пясчаныя палі сярод лясоў.
Тут суджана было ім нарадзіцца.
І бегчы з незапамятных часоў.

Нібыта з гарлачоў двух крутабокіх
Бяруць яны пачатак, дзве ракі.
Як выплеснуты ўдалеч два патокі
Ці дзве бруі у розныя бакі.

На поўдзень і на захад іх пуціны.
Зямля ім скарбы чыстыя дае.
Нясуць Дняпру і Нёману даніну,
Пароўну раздзяляючы яе.

Дзвюх рэк пачатак у лясных прасторах.
Бягуць, адной народжаны зямлёй.
Бяроза—на спатканне з Чорным морам,
А шлях Віллі — да Балтыкі сівой.

Яны патрэбны полю, лугу, лозам,
Без іх — як анямелая зямля.
Імя у першай светлае — Бяроза.
Імя ў другой віхлявае — Вілля.

## Нашто мне іншы свет

Нашто мне іншы свет,
Чым той, што ёсць.
Я не хачу ў мінулы час вяртацца,
Хоць знаю,
Там квітнее маладосць,
Там песні, там спатканні,
Віхры танцаў.

Вяртацца не хачу да тых гадоў,
Дзе светлага і змрочнага хапала.
Там
Зябка мне было ад халадоў,
Там
Колькі год калечыла навала.

Нашто мне без цябе мінулы час
І без дзяцей.
Без іх я, як без сэрца.
Там я адзін.
І як мне жыць без вас!
Там Ганначка-унучка не смяецца.

●

Не храм душа пустая, не дарадца,
Такая для пакут альбо забаў.
Душа павінна Богам засяляцца,
Адціснуўшы цярплівага раба.

Няхай даруюць вернікі за тое,
Што не запомніў я усіх святых.
Ды веру, як і верыў, у святое—
Народ, Радзіму і бяссмерце іх.

Не кленчыў прад царквою і капліцай.
Святло ідзе не толькі ад ікон.
На прыгажосць душэўную маліцца
Не перастану я да скону дзён.

Хрышчоны я, мне каяцца не трэба.
Ніколі і ні ў чым я не грашыў.
Я — за адсутнасць Бога дзесьці ў небе,
Я — за прысутнасць Бога у душы!

## Запозненая размова з ручаём

Дарма, што ў мяккім булькатанні
Не разабраў ягоных слоў,
Ды свеціць мне і на змярканні
Яго святлейшае чало.

Над ім схіляюся. Не плачу.
Мяне ён помніць не такім.

Стах ДЗЕДЗІЧ

# ТЫ ХОЧАШ СЫСЦІ?



Стах Дзедзіч (Міклашэвіч Ігар Аляксандравіч) нарадзіўся ў 1963 годзе ў Мінску. Скончыў фізічны факультэт БДУ. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Беларусь». Аўтар кніжкі прозы, якая выйшла ў бібліятэцы «Маладосці». У штотыднёвіку друкуецца ўпершыню.

## Апавяданне

У ЗОЛКАЙ шэрані раніцы глыба аэрапорта здавалася цёмнай і змрочнай. Толькі слаба асветленыя шыбы першага паверха трохі ажыўлялі цемрадзь жывой жаўцізной. За жоўтымі вокнамі былі касы і залы чакання, дзе, мусіць, добрая тысяча чалавек ляжала, сядзела, без справы бадзялася паміж наваленых клункаў, распухлых валізкаў і непад'ёмных куфраў. Два разы на дзень прыбіральшчыцы мокрымі анучамі ўсю гэтую размяклую чалавечую масу пераганялі з кута ў кут разам з бруднай вадой, што плюхала на падлогу з памятых вёдраў. Але гэтыя спробы навесці чысціню ні кроплі не заміналі людзям есці, піць, плявацца, псаваць паветра і лузгаць семкі проста там, дзе яны знайшлі часовы прытулак.

Рэйсы адмянялі і адмянялі. Аўгіяш не заўважаў, каб гэтыя адмены і пераносы неяк бянтэжылі чалавечую масу, што ўжо даўно жыла сваімі, ні на што не падобнымі, законамі. У законах нічога не было сказана наконт страляніны і грукату танкаў на вуліцы, нечаканых аблаваў і спісаў на слупах. Таму ніхто з гэтай масы і не звяртаў увагі на вайсковыя патрулі, што цокалі падбітымі абцасамі па асфальце, на груваcткія БМП і БТРы, што няўклюдна ездзілі на гарбатых вулачках, нібыта незнарок чапляючы гнілыя парканы. У законах было здранцвенне і абыякавасць, імкненне быць як усе і не рыпацца. У гэтай абыякавасці толькі зрэдчас бліскалі ў вачах агеньчыкі помсты. Такія агеньчыкі Аўгіяш ужо аднойчы бачыў, калі са шваграм выбраліся на паляванне. Трэцяга дня ў лесе абцягнулі сцяжкамі адзін мысок, спрэс парослы дробным хмызам і маладымі елачкамі. Зараз сюды збіраліся паляўнічыя з усяго наваколля. У хмызняку хаваліся ваўкі, цэлая зграя — самка, мацёры самец, трое гагодкаў. Аўгіяш стаяў на адным з нумароў, там якраз хмызняк лагчынай укліньваўся ў празрысты, звонкі зімовы бор і выходзіў на гала. І якраз на ягоны нумар выйшаў самец, яны сутыкнуліся літаральна нос да носу, воўк спыніўся і паглядзеў на Аўгіяша доўгім, цяжкім паглядам, дзе пад нянавісцю ў зрэнках хаваўся жах і разуменне непазбежнасці. Воўк падышоў да лініі сцяжкоў, спыніўся, як шукаючы бяспечнага праходу, потым нібыта нязграбна, але нечакана далёка скочыў за чырвоную лінію. Ад неспадзеўкі Аўгіяш разгубіўся. Разгубленасць хутка прайшла. Аўгіяш падняў стрэльбу, старанна прыцэліўся і націснуў курок. Грымнуў стрэл, руля тузанулася ўбок, а воўк, нібы нічога не здарылася, рытмічна махаў галам да далёкага блакітнага лесу. Аўгіяш, поўны азарту, зноў падняў стрэльбу, стрэліў наўздагон, у белы свет. Шэры нечакана кульнуўся праз галаву і ўпаў. Наўкола імгненна зрабілася ціха, у вушах зазвінела, а з патурбаванай яліны марудна церусіў уніз дробны снегавы пыл.

Воўчыя позіркі бліскалі і згасалі, змучаныя людзі тыкаліся невідушчым позіркам у прастору і дранцвелі. Ужо тры дні аэрапорт быў закрыты і дагэтуль ніхто не ведаў, калі груваcткі, увесь у разводах маскіроўкі, грузавік, што стаяў упоперак паласы, нарэшце вызваліць яе. Няпэўнасць прымушала людзей не шукаць якога сталага прытулку, але шчытнай масай сядзець на падлозе і лавах і ўздрыгваць, калі на іх натыкаўся калючы позірк міліцэйскага патруля, што з ганарлівым выглядам шпацыраваў па зале, раз-пораз наступаючы на нечыя ногі, якія альбо проста не спадабаліся, альбо сапраўды надта ўжо шырока раскінуліся па падлозе.

Калі паветра рабілася невыносна цяжкім, Аўгіяш выходзіў у парк, дзе чэзлыя, скарлючаныя дрэўцы быццам хапалі ягоныя рукі і ногі сваім веццем. Тут найбольш пахла газай ад самалётаў і старой мачой ад прыбіральні, але часам, з подыхам неадчувальнага ветру, патыхала вільготнай восеньскай зямлёй, і сапрэлым лісцем клёнаў і бяроз.

Кожны раз па вяртанні з парку Аўгіяшу трэба было шукаць новае месца, дзе прытуліцца, бо любы вольны куточак адразу займаўся альбо стомленым чалавечым целам, альбо мяккай і неабдымнай валізкай, усёй у тлустых плямах і слядах колішніх кампотаў. У гэтым тлуме ўсе былі амаль роўныя — і ён са сваім сціпленькім дыпламатам у руках і апошнімі капейкамі ў кішэні, і неабдымная цыганская мама, вакол якой дробнымі мухамі круцілася з дзесятак закарэла-басаногіх белазубых дзяцей. І яму нават падабалася, пасядзеўшы імгненне, каб троху супачылі натруджаныя ногі, зноў падхапіцца і бязмэтна сноўдацца па зале.

Ён якраз быў унізе, калі скрозь трэск і хрыпы з дынаміка, прарваўся чысты дзявочы голас і абвясціў пасадку некуды ў Цьмутаракань. Уся зала адразу прыйшла ў рух. Доўгія хвасты чэргаў імгненна павырасталі каля ваконца даведкі, каля касаў і стоек рэгістрацыі.

Насцярожыўся і Аўгіяш. Калі абвясцілі пасадку на ўнутраны рэйс, неўзабаве маглі адкрыць і знешнія. А там канец усім пакутам і ваганням — старанны вобыск, з галавы да пят, багаж і сам праз рэнтген і мытню — і далей шырокая і нязведаная прастора, новае жыццё.

Зала патроху ажывала, абвяшчалі ўсё новыя і новыя пасадкі і напрамкі; стомленыя людзі з памятымі тварамі важылі багаж і доўгімі ланцугамі выстройваліся на пасадку. Ажывіліся і міліцыянты. Патрулі раз-пораз абыходзілі буфеты і прыбіральні, шукаючы падазроных; калі міліцыянты спыняліся, гамана сцішвалася, а тыя, хто спаў ці толькі прыдрэмваў, насцярожана падымаліся на сваіх месцах. У гэтай імгненнай цішыні рабілася добра чутна, як выюць турбіны самалётаў на паласе і як грукочуць гусеніцы на асфальце. Уночы, калі стаяў туман, грукат тракаў глухнуў у ім, як у ваце, а зараз нават самалёты не маглі заглушыць іх. Неўзабаве пад'ехалі і машыны з салдатамі — яны з'яўляліся кожную раніцу, да іх таксама прызвычаіліся. Доўгія прыземістыя грузавікі, з кузавамі, абцягнутымі плямістым брызентам, спыніліся там, дзе раней разварочваліся аўтобусы. Вайскоўцы, нязграбныя ў бронежылетах і цяжкіх касках, засяроджана праходжваліся ўздоўж агароджы аэрапорта, палілі цыгаркі на верхняй тэрасе, часам па двоетрое некуды подбегам знікалі.

Самалёты пачалі падымацца ў паветра, у зале адразу зрабілася вальней. Праз адчыненыя дзверы свежы ветрык патроху выганяў начны смурод. Аўгіяш нарэшце расслабіўся на цвёрдай лаве, напруга, што трымала яго апошнія дні, патроху адышла. Ён неяк адключыўся і ачаломкаўся толькі, калі нешта закрычаў над вухам гучнагаварыльнік. Ён не адразу зразумеў, што да чаго,— цяжкія ўспаміны і думкі адпускалі неахвотна. Гучнагаварыльнік не сунімаўся, нешта абвяшчаў ужо па-ангельску. Аўгіяш падняўся, паставіў дыпламат, зрабіў некалькі прысяданняў і ўзмахаў рукамі. У зале, покуль ён сядзеў, зрабілася прахалодна, у лёгкім свэдры было трохі ніякавата.

Гучнагаварыльнік замаўчаў, крыху пахрыпеў і мілагучным жаночым голасам абвясціў: «Да ведама пасажыраў. Рэгістрацыя пасажыраў рэйса 48192 на Берлін пачынаецца праз дваццаць хвілін ад стойкі нумар 5». Аўгіяшу трэба было ісці, ён падхапіў дыпламат, расправіў плечы і пачаў спускацца. З другога канца залы раптам данёсся амаль звярыны рык. Аўгіяш употайкі пагледзеў туды — два міліцыянты цягнулі дзяўчыну, з якой ён надоечы сутыкнуўся ў парку, калі ў прыцемках шпацыраваў па прысадах. Аўгіяш заўважыў цёмны цень пад дрэвам, падышоў бліжэй, ледзь разабраў, што гэта дзяўчына. Яна глуха, як бывае ад вялікага гора, стагнала-плакала, схаваўшы твар у далонях. Ён нерашуча спыніўся — ці падысці? Дзяўчына, мабыць, адчула ягоную маўклівую прысутнасць, рэзка павярнулася. Аўгіяш нават не паспеў нічога спытаць, дзяўчына злосна бліснула вачыма: «Ненавіджу ўсіх! Будзь праклятая гэтая зямля!» — і кінулася да будынка.

Цяпер дзяўчыну цягнулі паўз яго, бачны быў белы твар, глыбока запалыя вочы. Аўгіяш спусціўся прыступкай ніжэй, зрабіў выгляд, што закашляўся, прыкрыўся насоўкай. Цяжка сказаць, ці пазнала дзяўчына Аўгіяша — але погляд апёк агнём. З закушаных вуснаў

## УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

На адкрыцці філіяла музея Янкі Купалы ў Акопах я сустрэўся з абаяльным і клапатлівым маладым чалавекам. Нас пазнаёмілі работнікі музея: «Гэта загадчык аддзела культуры Лагойскага райвыканкама Антось Навіцкі. Ён прыняў на сябе вялікія клопаты па ўваскрашэнні Купалавага гнязда на Лагойшчыне».

Пазнаёміліся, пагаварылі. Я адчуў натхнёную паэтычную натуру, чалавека, улюбёнага ў родную гісторыю і літаратуру. Пацікавіўся, ці не піша часам вершы. Замяўся, памаўчаў і прызнаўся: «Часам грашу». Папрасіў некалькі для знаёмства. Вось яны — перад вамі.

Біяграфія Антося Аляксандравіча кароткая і прыгожая. Нарадзіўся на Валожыншчыне, пасля школы быў трактарыстам, два гады адслужыў у войску, потым скончыў Інстытут культуры, следам—філфак Мінскага педінстытута, працаваў дырэктарам раённага Дома культуры.

Як было б добра, каб такія носьбіты культуры былі ў кожным раёне.

З гэтай першай лімаўскай прыступкі жадаю Антосю Навіцкаму шчаслівай дарогі ў паэзію.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**Антось НАВІЦКІ**



# «І ПЕСНІ ВЫРВУЦЦА НА ВОЛЮ...»

●

Прарвала неба пасля летняй спёкі,
Шуміць і пеніцца нябесны вадаспад.
Каму цяпер адрасаваць папрокі
За слабасць, абыякавасць, разлад!

І гаспадарыць восеньская хмара
З нервовым ветрам ва ўнісон,
Здаецца, над усім абшарам —
У кожнай кроплі скарга і праклён

За чэрствасць, ганарлівасць і бяздушша
Бязбожнага натоўпу крыкуноў,
Увішных, прагных і двурушных
Прыслужнікаў, падпанкаў і паноў.

Зямлю напояць восеньскія воды
Пад гоман надакучлівых вятроў.
Калі ж прарве цярпенне у народа!
Няўжо ён з мовай страціў змагароў!

●

А мы асеплены святлом,
Што нам нутро наскрозь праменіць,
Жыццё імкнецца напралом,
А цеплыні ўсё меней, меней...

Губляем зрок усё хутчэй,
Шукаем ісціну у пене...
Хай свеціць Месяц найярчэй,
А сонца смаліць да кіпення!

Перакіпіць, перабаліць,
І песні вырвуцца на волю,
Каб цела сілаю наліць.
Душы — і зернейка даволі.

●

Ад болю, жалю і тугі
За казкамі знікаюць песні...
Такія сінія снягі
Усё ж растануць напрадвесні.

За марай мары праплылі,
Як хмары у начным тумане,
І непрыкметныя сышлі
У горкай сподычы падману.

А неба расчыніла дзень,
І першы жаўранак спявае.
Відаць здалёку — дзе-ні дзе
Курыцца багна веснавая.

У ім сябе самога бачу,
Я адлюстроўваюся ў ім.

Сюды не так сабе прыйшоў я
Я свой у гэтай старане,
Сінечай звілін з-пад надброўя
Глядзіць ён гнеўна на мяне.

Я не спытаў, чаму суровы
І незагаворлівы чаму.
Відаць, што звілін ручаёвых
Так не стае чалу майму.

Ёсць сувязь кроўная між намі.
Чыя даўжэйшая, чыя!
Чыя заглыбленая памяць,
Мая ці, можа, ручая.

У чым віна мая! Не цяжка
Сказаць. Нагадвае струмок:
Мог, ды не лёг я ў час распашкі
Пад мацэпураўскі плужок.

Тады не крыкнуў: «Людзі, стойце!
Вы да апошняга дайшлі.
Адумайцеся: вы — забойцы,
Вы кроў пускаеце зямлі».

●

Гнятлівай, змрочнай цішынёй
Час пахавальны адгукнецца,
Калі стаім мы над трунай,
Калі ад жалю плача сэрца.

Стаім і горасна маўчым.
Стаім, прыгорбленыя крукам.
Як вінаваты перад ім.
Тады мы апусцілі рукі,

Калі ён падаў. Не ўзляцець!
Не ўбачылі ў жыццёвым гуле,
Калі бяда, а там і смерць
Яднанне наша расштурхнулі.

І дамагалася смерць свайго —
Ударыла знішчальнай хваляй.
І лёгка вырвала таго,
Каго мы моцна не трымалі.

Адразу знік бы недавер,
Ён светлымі б убачыў высі,
Каб і тады, як і цяпер,
Плячо ў плячо рады сышліся.

А мы адно: быў залаты,
Сяброўскі, шчыры і талковы...
Ды ён не зможа з нематы
Аспрэчыць: «Я не веру словам»...

Нібы віноўных не знайсці
Ні сярод нас, ні дзесьці вышай.
І як тады, як пры жыцці,
Стаім мы, рукі апусціўшы.

## Маці вучыць сынка

Па складах паўтарае: «Кры-ні-ца,
Пе-ра-пё-лач-ка, жы-та, ду-бок,
Не-ба, сон-ца, па-лян-ка, су-ні-цы...»
Ён глядзіць на малюнкі, што ў кніжцы,
Сінявокі цікаўны сынок.

Касмадром, спадарожнік, ракета —
Тут не ўсё зразумела яму.
«А што гэта!—пытае.—Што гэта...
Чаму конь не ляціць. А чаму!»...

Паўтарае маленькі за маці:
«Бе-ла-русь, Пе-ра-мо-га, сяб-ры»...
Невядома нічога дзіцяці
Пра вайну і пра свет наш стары.

Гэта ўрок яго першы—букварны,
Не нацешыцца маці малым.
Па зямлі пойдзе ён уладарна,
Будзе мірнае неба над ім.

Родным зробіцца кожнае слова
І спеў птушак, і подых вятроў,
Свет вялікі адкрыецца ў мове,
А пакуль што ён, светлагаловы,
У палоне матуліных слоў.

●

Мне не здаецца, гэта ўжо не снег,
Не майская пялёсткавая замець, —
А часу бег, нястрымны часу бег,
З якім не справіцца ў пагоні памяць.

Былі яны, мяцеліцы, былі.
І бель садоў таксама ападала.
Хоць больш яны аселі на зямлі,
Але ж іх і на скроні пападала.

Прымаеш кветкі, добрых слоў цяпло
І, можа, забываеш на хвіліну,
Што ўсіх тваіх гадоў і не было,
Што не яны сталіся ў маршчынах.

Жадаюць прыгажэць мае сябры,
Твае сяброўкі расцвітаць жадаюць,
А я маўчу: дажыў да той пары,
Калі хлуснёй-манной не суцяшаюць.

Пра тое добра ведаю і сам:
Тваю красу і я, на жаль, убавіў.
Твоёй душы я сум не перадам,
Гляджу на юбілей, як на забаву.

І шчырасць захмялелых, мілых слоў
Лагодзіць, як сяброўская вячэра.
Згаджаюся з красой тваіх гадоў
І, любячы, ў цвіценне іх — не веру.

зляцеў глухі стогн: «Усяго паўгадзіны!» Аўгіяш адвярнуўся. Ён нарэшце згадаў, дзе бачыў гэтую дзяўчыну дагэтуль. На плошчы перад Домам урада віраваў чарговы мітынг — да надзвычайнага становішча гэта было магчыма. Ён, не любіцель прылюдных і бязглуздых дэбатаў, тым разам таксама адбрахаўся ад запрашэння выступіць. Калі міліцыянты пайшлі ў наступ, ён разам з іншымі ад трыбуны прадзіраўся праз іхнія шчыльныя шэрагі. Міліцыянты раз лютавана махалі дубінкамі, не шкадуючы ні плеч, ні галоў. Яму трапілі па галаве, праз чырвоны туман ён бачыў людзей з таго боку ланцуга. Сярод іх была і дзяўчына. Яна штомоцы дубасіла маленькімі кулачкамі ў шэрыя шынялі, потым яе закруціў натоўп, і яна знікла.

Да пятай стойкі ўжо цягнуўся тоненькі ланцужок людзей. У гэтай чарзе не было вялізных валізак і чамаданаў, людзі не гаманілі і не жартавалі адзін з адным. Здавалася, яны нават не бачылі адзін аднаго, быццам угледаліся самі ў сябе. Аўгіяш прыстроіўся за высокім хударлявым мужчынам, мабыць, моцна блізарукім — у тоўстых акулярах з тоненькай драцянай аправай. На Аўгіяшава пытанне ён моўчкі хітнуў галавой і напружана застыў,— паглядаючы некуды ў прастору.

Аўгіяш аддаў дыпламат у багаж і ўжо адыходзіў ад стойкі, калі з-за няшчыльна зачыненых дзвярэй, куды пацягнулі дзяўчыну — а яны былі літаральна за тры крокі — данёсся дзікі енк:

— Гады, пусціце, за што вы так!

Хударлявы, што ўжо паспеў адысціся, спыніўся і бязвольна апусціў рукі. Аўгіяш падышоў, спыніўся побач. Хударлявы падняў вочы, на ягонае запытанне пацiснуў плячыма, з лёгкім шкадаваннем адказаў:

— Так, трохі знаёмая,— і зняў акуляры. Без іх хударлявы адразу зрабіўся слепа-бездапаможны і нявінны. Ён стаяў, старанна чысціў насоўкай і без таго чыстыя шкельцы, а Аўгіяш хутчэй адышоўся ўбок.

Да пасадкі яшчэ заставалася колькі часу. Зараз лепей было не трапляцца нікому на вочы, а яму ж яшчэ трэба ўзяць зямлі.

На вуліцы было добра. Хаця сонца хавалася, але хмары трохі прыўзняліся над зямлёй і нібыта пасвятлела. Грузавікі з салдатамі некуды з'ехалі, ад іх засталіся толькі пацёкі масла ці бензіну на асфальце. Замест іх цяпер стаяў танк і павольна вадзіў гарматай з боку ў бок. Было добра чутно, як у ягонай вантробе высока і тонка спявалі электраматоры. Аўгіяш сцяўся і адмыслова спакойным крокам, каб ніхто нічога не падумаў, рушыў у парк. Прысады тут былі зусім пустыя, толькі лаўкі, сям-там паламаныя, ажыўлялі аднастайнасць старых дрэў. Ён прысеў на адну з лавак, засяродзіўся. Заставалася яшчэ толькі дробязь, і тады можна лічыць, што ўсё скончылася паспяхова. Ён агледзеўся — паблізу нікога не было, прысеў на кукішкі і пачаў скрэбсці рукамі зямлю. Але тут яна была ўбітая як ток, трэба было шукаць мякчэйшай мясціны. Ён адышоў метры на тры ўбок. Тут, пад клёнам, цяпер спрэс расфарбаваным чырвоным ды жоўтым лісцем, зямля паддалася. Аўгіяш набраў у прыгаршчы, потым зняў туфлі, сыпануў туды адну, другую жменю, прамармытаў: ну вось. Зараз паўсюль буду хадзіць па сваёй зямлі», — і падняў вочы. Побач стаялі двое ў плямістых камбінезонах, высокіх зашнураваных чаравіках і каптурах-афганках. Яны стаялі, пастуквалі тоўстымі гумовымі кіямі па далонях. Нарэшце адзін, з сяржанцкімі лычкамі, пакпіў:

— Што, інтэлігент, ветрам здувае? Ці рэактыўная цяга моцная?

Другі таксама ашчэрыў зубы:

— У яго пуза слабое, гароху ў страве не пераварвае. Яму асталопа па-венску падавай... — і яны зарагаталі.

Аўгіяш ліхаманкава думаў, што адказаць, потым хрыпатым голасам — у горле перасела — сказаў першае, што прыйшлося:

— Ды не, проста ногі пацеюць.

— Далікатны. Табе б кірзачы на ногі, ды марш наперад кіламетраў трыццаць.

Старшы раптам зрабіўся сур'ёзны.

— Хопіць жартаў. Ты зараз усё начальніку растлумачыш. А я чалавек маленькі, мне мазгі не трэба кампасціраваць.

Аўгіяш не ведаў, як адбрахацца.

— Хлопцы, дык у мяне ж самалёт вось-вось адлятае, я ж на яго не паспею. Я ж не кучу пад дрэвам налажыў.

Гэтым разам адгукнуўся малодшы:

— За кучу сто рублёў штрафу і можаш яшчэ раз рабіць. А тут разбірацца трэба.

Аўгіяш падышоў бліжэй, машынальна выціраючы рукі адна аб адну. Тут ён адчуў на пальцы халадок, хвіліну павагаўся, але выбару не было. Фамільны сыгнет злазіў кепска, на суставе нават да крыві здзёр скуру. Нарэшце пярсцёнак злез, Аўгіяш выйшаў на сцежку, працягнуў руку да сяржанта: «Ну але ж я сапраўды нічога не парушыў» — і з палёгкай адчуў, як ягоная рука зрабілася пустой. Сяржант з разуменнем кіўнуў, паляпаў па плячы:

— Ну гэта так, закон ёсць закон. Іншым разам думай лепей.— Яны павярнуліся і нібы растварыліся сярод дрэў, а Аўгіяш трушком пабег на рэгістрацыю.

У накапляльнік ён трапіў ці не апошнім, неўзабаве дзверы за ім зачыніліся, і яны засталіся адрэзаныя ад іншых пасажыраў і ўсяго свету. Падкаціў аўтобус, усе пачалі пужліва рассаджвацца. Пайшоў і Аўгіяш. У дзвярах ён злавіў на сабе свінцова-абыякавы позірк тоўстага рудога ахоўніка, што закінуў караценькі АКМ за спіну і разглядаў пасажыраў. Як трус на ўдава, Аўгіяш глядзеў на ахоўніка і нясмела ўсміхаўся, а той, як сабаку, пальцам паклікаў яго да сябе. Ногі адразу зрабіліся ватныя і неслухмяныя. Аўгіяш спыніўся — што сказаць? Руды падышоў бліжэй, пачаў насвістваць нейкую песеньку, потым цыкнуў слінай і пачаў абыходзіць вакол Аўгіяша. Сліна трапіла проста на туфель, іншым разам гэта выклікала б абурэнне, а зараз Аўгіяш стаяў змярцвелы і толькі бязгучна маліў бога. Таўстун абышоў ззаду, прафесійнымі спрактыкаванымі рухамі абмацаў — ці не схавана што дзе. Ягоныя рукі, з кароткімі пальцамі, пакрытыя залацістым пушком і халодна-мокрыя, выклікалі пачуццё гідлівасці, быццам хто закінуў жабу за каўнер. Але Аўгіяш стрымліваўся. Таўстун скончыў вобыск, злёгку піхнуў у карак:

— Ну пайшоў...

Аўгіяш узрадаваны павярнуўся да аўтобуса. Усе ўжо сядзелі, але кіроўца не зачыняў дзверы, чакаў яго. Але ён не зрабіў нават кроку, моцны ўдар у каршэнь ледзь не зваліў з ног.

— Табе не туды. Табе назад. Мне здаецца, з табой добра пагаварыць трэба.

Аўгіяш запярэчыў:

— Але ж там мой самалёт. Мне ляцець трэба...

Убачыў, як кулак апісаў дугу і ўліп яму ў зубы.

Аўгіяш таропка падняўся, сплюнуў чырвоную сліну, абвёў языком вусны. У адным месцы засмылела. «Так і ёсць, рассек», — вяла падумаў і рушыў наперад.

Яны зноў выйшлі ў залу, падышлі да дзвярэй, куды зацягнулі дзяўчыну. Дзверы адчыніліся. Ён увайшоў у нечакана вялікае памяшканне, з белымі сценамі і высокай столлю. Збоку, справа ад яго адчыніліся яшчэ дзверы, краем вока Аўгіяш паспеў заўважыць нешта на канапцы, прыкрытае скрываўленай прасцінай. Увайшоў чалавек. Ён не меў ніякіх знакаў адрознення, але ў ім упэўнена выдаваўся начальнік. Аўгіяш пачаў першы:

— Я ж павінен ляцець. Там самалёт вось-вось...

Начальнік абарваў яго:

— Вы павінны? А што вы раней пра родную зямлю казалі?

За сцяной раптам вухнула танкавая гармата, тонка зазвінелі шыбы, і цяжкі снарад са свістам паляцеў некуды за прысады.

# «МАРА — ТЭАТР — ХРАМ...»

**З рэжысёрам спектакля Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Звон — не малітва» Генадзем ДАВЫДЗЬКАМ і мастацкім кіраўніком пастаноўкі Валерыем РАЕЎСКІМ гутарыць наш карэспандэнт Жана ЛАШКЕВІЧ.**

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. З якіх меркаванняў, шаноўныя спадары, узяліся менавіта за п'есу Івана Чыгрынава? У мяне склалася ўражанне, што яна прызначана, хутчэй, для чытання, а не для сцэны.**

**В. Раеўскі.** Не згодны. Дзеянне распачынаецца адразу. Драматургія жорсткая. Увогуле слабасць крытыкаў у тым, што яны заўсёды глядзяць першы, у лепшым выпадку — пяты спектакль і робяць высновы пра яго на ўсё астатняе жыццё. З чаго пачынаецца спектакль? З таго, што Анэя прапануе зразумець княжычу Ізяславу, сыну Рагнеды, што яна — закланніца. Што ёй, невысакароднай, дачцэ злотніка, дазволена быць ім толькі таму, што яна абрана ў ахвяру багам і вядун Холад, які дазволіў ёй гэтую вольнасць, прысутнічае падчас спаткання незаўважным, але Анэя ведае, што ён назірае... Што мы чуем праз дваццаць хвілін дзеяння? Холад кажа, што ахвяра — Анэя... Драматургія абсалютна выпрастаная, пэўная. Анэя не можа сказаць Ізяславу пра тое, што з'яўляецца ахвярай. Што яна сама дала згоду пайсці ў ахвяру толькі дзеля таго, каб спатыкацца з ім. На пачатку спектакля — сцэна апошняга спаткання! Згодны, што артысты адпаведна сыгралі яе толькі на шостым спектаклі. Правільна колісь Меерхольд казаў: прыходзьце да мяне на дзесяты спектакль...

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Як жа ў такім выпадку не паспачуваць гледачам першых дзевяці...**

**В. Раеўскі.** Якія могуць быць сумненні, што трэба хоць з пятнаццатага разу, але — каб атрымалася! Гэта — гістарычная драма, якой нам бракавала шмат гадоў. Нацыя не займалася сама сабою нават у сценах акадэмічнага тэатра!

**Г. Давыдзька.** А я зважу на вялікую папулярнасць меладрамы. Што, як той казаў, цяпер трэба гледачу? Гледачу трэба паразважаць ды панаракаць на лёс канкрэтнай асобы. Пасля рэпрэсій, афганістанаў ды чарнобыляў нас задушылі мільёнамі ахвяраў. Зрэшты, натуральнае жаданне — паплакаць за канкрэтны лёс канкрэтнага чалавека — таму нашы гледачы і плачуць перад тэлевізарам разам з «Багатымі...» І я свядома шукаў меладраму. Вельмі хацеў знайсці меладраму на гістарычным фоне, — каб адначасова даць гледачу яшчэ і такую неабходную сёння інфармацыю пра нацыянальную гісторыю.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. На маёй памяці ёсць толькі «Раскіданае гняздо» Купалы ды «Напісанае — застаецца» А. Петрашкевіча...**

**В. Раеўскі.** Апошні спектакль быў вельмі слабы. Заўважу, што й прывазная драматургія цешыла нас нядоўга. Але цяпер трэба было б крытыкам звярнуць самую пільную ўвагу на тое, што мы ставім, званіць ва ўсе званы: такая тэма нарэшце «раскаркавана», а, прабачце, не лавіць блошак...

**Г. Давыдзька.** Жана, звярні ўвагу, як слухаюць. Незвычайнасць самой інфармацыі са сцэны ўражвае. Свая гісторыя.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Заўважу ў сваё апраўданне толькі тое, што з вялікай п'есы з велізарнай колькасцю дзейных асоб вы, рэжысёры спектакля, вылушчылі падзейны шэраг ды графічныя постаці герояў. Зрэшты, мабыць, гэта ваша работа...**

**В. Раеўскі.** Маеце рацыю. Тое самае я колісь рабіў з п'есаю Васіля Быкава «Апошні шанц», — са ста старонак засталося трыццаць шэсць. У нашым выпадку Генадзь моцна й хораша папрацаваў, — але вы прызнайце ды зразумейце і наша хваляванне. Колісь Васіль Уладзіміравіч сказаў мне: маўляў, не ведаю, каго віншаваць пасля спектакля, цябе ці мяне, — і ў даным выпадку можна віншаваць як драматурга і Генадзя. Ён выступіў сааўтарам Чыгрынава. Пры ўсёй маёй павазе да нашых цудоўных пісьменнікаў я б не адважыўся назваць іх драматургамі. Але тэатр яны адчуваюць, і задача рэжысёра — адабраць, альбо, паводле Чыгрынава — адсарбіраваць (ягонае ўлюбёнае слоўца) непатрэбнае, пакінуць голы сюжэт ды падсілкаваць яго, калі хочаце, абрадам, чым займалася ў нас Людміла Новік.

**Г. Давыдзька.** Драматургі чамусьці не надта давяраюць артыстам. Навошта яны пішуць тое, што акцёр у стане прыдумаць ды зрабіць сам? Напрыклад, некаторыя пачуцці лепш выказаць праз паўзу, а не праз тэкст... У народны тэатр, якім нейкі час займаўся, я прынёс п'есу беларускага аўтара. І адзін са студыйцаў, смеючыся, пачаў адмаўляцца гэта ставіць, матывуючы тым, што «ў беларускіх п'есах увесь час румзаюць ды есці хочуць». Я абурыўся ды пераканаў грамаду, што хоць пачытаць яе трэба. Чытаю. Першая фраза: «Мама, хачу есці, ці няма там у нас чаго». Рэмарка: плача. Памятаю рогат сваіх самадзейнікаў. Памятаю свой сорам. «Плача ды есці хоча» — у гэтым па-свойму адбіўся лёс народа. Але, перапаўтораны, растыражаваны без разумення гісторыі, ён зрабіўся кічам...

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Рэжысёрскія меркаванні пра беларускую драматургію хацелася б выслухаць больш падрабязна.**

**Г. Давыдзька.** Літаратуру для сцэны з шафы ў кабінеце загліта Купалавага тэатра я падзяліў бы на тры вялікія... плыні. Першая — плынь гэткіх звыклых камедый-лубкоў. У цэнтры яе — які-небудзь дзівак. Ён альбо вежу будуе, альбо яму капае, альбо возера ахоўвае, альбо сонцу спавядаецца. Такі трохі дурылка; пажадана, каб ён быў у гадах ды меў заенную біяграфію. Супраць яго выступае якійсь старшыня калгаса, альбо меліяратар, альбо проста несумленнік. Другая плынь — гістарычная. Як правіла, падобныя п'есы пішуць пісьменнікі, але ні ў драматургіі, ні ў рэжысуры не абазнаныя. Зрэшты, не грэх вучыцца і на падмостках... Як правіла, п'есы, напісаныя добрымі пісьменнікамі, тэкстам вабяць, але, на жаль, гэты тэкст таксама амаль не прызначаны для сцэны. Што да развіцця сюжэта, характараў, добрай інтрыгі — іх няма шмат. Майстэрствам драмы авалодаць цяжка (любая драма, зрэшты, гэта амаль дэтэктыў), але ж мала хто намагаецца авалодаць. Чаму за другую плынь не бярэцца тэатр? Таму што пададзеныя ў ім магутныя катэгорыі не насычаны чалавечымі характарамі ды эмоцыямі. Трэцяя плынь — так бы мовіць, малады беларускі авангард, які, па маіх назіраннях, намагаецца выйсці на высокі ўзровень асэнсавання матэрыялу, — ці праз атмасферу, ці праз незвычайны сюжэт. Але часцяком паводле метады «калі б нос Івана Пятровіча ды падбароддзе Пятра Іванавіча».... Як на маю думку, дык трэцяя плынь — найперспектыўная, толькі з ёю, па-мойму, ніхто сур'ёзна не працуе...

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Але, вяртаючыся да прадмета нашай гутаркі, зважу на тое, што, па маіх меркаваннях, ваш спектакль выдае не столькі на гістарычную меладраму, колькі на эскізы гістарычных постацяў у адпаведных абставінах. Не маглі вы абысціся і без «ліквідавання ўсеагульнай гістарычнай непісьменнасці». Гэта не значыць, што давялося нанова перастлумачваць, хто такія Рагнеда, Ізяслаў, Уладзімір, але ж абставіны выбару між паганствам ды хрысціянствам міжволі ўзбуйнілі сам гістарычны фон, перарабілі яго ледзь не на назойлівае пытанне ўсяго спектакля: маўляў, «з якім богам жыць». Пры гэтым Бог у спектаклі відавочна не тоесніцца з мараллю альбо законам (хоць «не забі», «не скрадзі» гаворыць ледзь не кожны персанаж). Адвечныя пытанні не даюць супакаення і Рагнедзе, якую чарговы прапаведнік спакушае праўдзівасцю новага веравызнання і далучэннем да Еўропы; гэтыя самыя праклятыя пытанні сур'ёзна цікавяць Ізяслава; праз сутык паганства ды хрысціянства падаюцца ў спектаклі самыя інтымныя чалавечыя пачуцці, калі бацькоўская (Уладзімірава) зацікаўленасць сынам перадусім выдае на зацікаўленасць у новым верніку - васале... Прынамсі, трактаванне вобраза Уладзіміра ніяк не выдае на святога, кананізаванага царквою. Дык вось, паўтаруся, эскізы на тэмы гістарычных вобразаў і на «скураным фоне» (сцэна завешана шкурамі) паганства, вядоўства і г. д. утвараюць моцны візуальны вобраз спектакля: на шкуры паганскага звера — абраз Багародзіцы...**

**Г. Давыдзька.** Ты разумееш, у мяне дастаткова фантазіі, каб прыдумаць падрабязны побыт Рагнедзінага асяродку: мычанне каровы, крыкі пеўняў, бразганне зброі... Можна было б прыдумаць цэлую партытуру прадчуванняў Рагнеды, ад хворага сэрца да пастаянных хаджэнняў па капішчах, альбо якогась смаркатага служку... І гэта магло б быць пасярод побытавых дэкарацый, — і, дай веры, шмат каму б напэўна спадабалася. Але дзесятае стагоддзе — гэта дужа далёка. І датыкацца да яго пажадана не рукамі, а мякенькім пэндзлем археолага, — мы ж ідзём па першым пласце, па самых касцях, яшчэ не аднохуленых паводле знакамітай методы ў абліччы... Мы назіраем нашу гісторыю, — рыхтуемся да асэнсавання. Таму і думка ў мяне была — падаць яе ў спектаклі эскізна, альбо — графічна, крыху падтаніраваць, адсюль — сціпласць выяўленчых сродкаў, выпрастанасць (не прастолінейнасць) выяў характараў ды абліччаў, — гэта ж, натуральна, на сцэне не Рагнеда і не Ізяслаў, а (як мне хацелася падаць) — наша ўвасобленае ўяўленне пра іх. Адсюль — жанравая размытасць, няпэўнасць.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Я б сказала — сціпласць. Але ж «фон» веры, якую трэба прыняць альбо не прымаць, праз колькі часу пачынае проста назаляць. Бо вера, натуральна, была не адзіным пытаннем жыцця нашых продкаў, хоць на нейкі час рабілася найважным.**

**Г. Давыдзька.** Лічы, што менавіта гэтую часіну мы і «заспелі»...

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Але ж у спектаклі змена веры выглядае, мякка кажучы, смешна: да таго хадзілі нечасаныя ў зрэбным, пасля — адзеліся ў бялюткае белле ды памылі галовы...**

**Г. Давыдзька.** Ну, культура Візантыі, — культура золата. Бляск, абумоўлены гістарычна. Памятаеш, што пасланцоў Уладзіміра так уразіла ў Царградзе? Адзенне, ззянне, вытанчаныя пахі... Абраз на шкуры — выпакутаваны вобраз спектакля, — як татуіроўка на скуры...

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Мо і да гэтага часу Боскае аблічча на шкуры (мастак — Герлаван) Барыс увасабляе рэлігійную сутнасць нацыі, якая, хрысцячыся ды жагнаючыся, скача праз вогнішчы на Купалле ды пакідае святым Дзядам гарэлачку... Каштоўнасці гэтай знаходцы ў спектаклі надае эпізод, пры якім Боскае аблічча з'яўляецца: прапаведнік, ратуючы ад ахвярапрынашэння Анэю, укахаўся ў дзяўчыну, кліча, прагне яе, змагаецца са сваёю жадобаю, і ў гэты момант яго з Анэяй перастрэлі служкі ды памочнікі ведуна. Анэя мусіць ісці ў ахвяры, а прасвітара, як прадстаўніка варожага лагеру вернікаў, ахвяруюць ягонаму новаму адзінаму богу, — ён валіцца, чапляецца рукамі за ўсё, на што патрапіць і, здзіраючы са шкуры звера нейкі покрыў, літаральна адшкрабае новага Бога на старым, так бы мовіць, матэрыяле, — на тых самых душах ды характарах... Хрысціянства праз кроў, праз гвалт, праз ахвяры ды мячы... Не прамінуў зважыць і на шматфункцыянальнасць матэрыялу — на гэтай самай шкуры прасвітэр ледзь утаймаваў сваю жалобу — сам ледзь не парушыў усё святое, што так зацята прапагандаваў.**

**Г. Давыдзька.** На мой погляд, артыст якраз тут не дабірае ў ступені пераканаўчасці. З яго мусіць лезці бес пад уздзеяннем, так бы мовіць, харошых намаганняў і сімвалічна-святога месца дзеяння...

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. А мне якраз здалося, што ён далікатна спавядае стыль спектакля, працуючы эскізна, не на поўны голас, не на побытавую пераканаўчасць. Самыя рухі, хістанне шкуры, якую паводле мізансцэны злёгку раскачваюць служкі - здані, — нібыта бес яго падбухторвае, падначвае, намаўляе, але адзіны Бог аказваецца мацнейшым — і выдае на Бога ў душы... Выдатны вобраз утварае сама фактура матэрыялу!..**

**Г. Давыдзька.** Але ж пачынала ты з таго, што ледзь не вінавяціла нас у кан'юнктурнасці.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. І чаму ў Купалавым тэатры так кепска ставяцца да кан'юнктуры? Яна — нішто іншае, як пэўнае патрапленне ў сённяшнія запатрабаванні гледача. Між іншым, дзесьці не ў нас, каб гэтыя запатрабаванні выявіць і зрабіць пэўнымі, працуе шмат людзей і адчувае сваю значнасць, — кан'юнктура ў натуральным значэнні — гэта недарэмна выкінутыя, прабач, выдаткаваныя грошы.**

**Г. Давыдзька.** Ну тады я сумленна прызнаюся ў сваёй... неадукаванасці. Нічога не ведаў пра тысячагоддзе Полацкай епархіі (дакладней, пра тое, што гэтую дату будуць так шырока адзначаць); спектакль жа спецыяльна не рыхтаваўся да тысячагоддзя хрысціянства на Беларусі. Але Рагнеда — не трывалая кан'юнктура хоць бы таму, што ўсе, хто пра яе хоць радок колісь напісаў, ад пачатку засталіся незадаволенымі спектаклем. Столькі гісторыкаў дачынялася да яе імя (праўда, нямногім я давяраю), столькі пісьменнікаў зажадалі б паправіць тэатр і драматурга!.. Шэкспір марыў пра такіх герояў, як Рагнеда. І таму, беручыся за гэты матэрыял, я рыхтаваўся наклікаць на сябе калі не бяду, дык непрыязнае стаўленне шмат каго. Адзіная кан'юнктура, якую я спавядаю — гэта праца на нацыю. Дарэчы, на карысць п'есы было б тое, каб я скараціў гэтыя рэлігійныя дэбаты, але ззянне гістарычнага фону адразу б пацьмянела і канфлікт між Кіевам ды Полацкам успрымаўся б звычайным сямейным вэрхалам.

**В. Раеўскі.** Не думаю, што ты рабіў спектакль, зацікаўлены толькі рэлігіяй. Не думаю толькі таму, што мы ўсе аднолькава рэлігійна недасведчаныя і духоўнасць з рэлігіяй не атаясамляем. А з духоўнасцю атаясамляем не толькі рэлігію. Але ж рэлігія ды царква — рэчы розныя.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Носячы Бога ў душы, мо і не так востра адчуваецца патрэба хадзіць у царкву?**

**Г. Давыдзька.** А навошта табе патрэбны пасрэднікі ў зносінах? Час пасрэдніцтва, час зводняў... Табе патрэбны зводні?

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Але ж я ведаю, што з нагоды вялікае даты тутэйшае духавенства наведала твой спектакль... Няўжо ніякіх меркаванняў ты не пачуў?**

**Г. Давыдзька.** Ніякіх. Мо яны змоўчалі таму, што кананізаваны Уладзімір трактаваўся ў тэатры паводле летапісаў, а не паводле царкоўных кніг? У гісторыі святы Уладзімір застаўся крывавым мнагажэнцам, жорсткім, крывадушным. Ён першы паставіў ідала, ён першы яго скінуў. Ён прыняў хрысціянства, але ж і першы прынёс у ахвяру ідалу чалавека. Праз два гады ідал патануў у Дзвіне, а князь узяўся будаваць храмы.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. У самым спектаклі ёсць цудоўная рэпліка Рагнеды пра тое, што няможна адразу паверыць у новых багоў — хіба толькі, калі і ў старых не верыў.**

**Г. Давыдзька.** Рагнеду чамусьці цяпер актыўна робяць мнішкаю, але манастыр напрыканцы жыцця — толькі адна з версій, і няма пэўнасці менавіта ў ёй. Натуральна, пòслух Рагнеды ніяк не адлюстраваўся ў нашым спектаклі. Магу падазраваць, што яе манаства проста выгодна царкве, маўляў, смірэнне і рай за смірэнне. Нічога падобнага. Яна абвясціла галадоўку пасля таго, як Ізяслаў пераступіў праз яе дзеля княскага стала. Дарэчы, дзіўным было гэтае каханне Уладзіміра да Рагнеды, — між іншым, яна больш за ўсіх жонак мела ад яго дзяцей. Магу меркаваць як рэжысёр, што Уладзімір, нягледзячы ні на што, усё жыццё пакутаваў на страшэнныя комплексы. Адным з іх, калі абапірацца на ўскосныя сведчанні летапісаў, быў комплекс раба, комплекс пастаяннага пачування ніжэй за ганарыстую й годную Рагнеду.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Па шчырасці, я меркавала, што твой спектакль менш за ўсё абапіраўся на вывераныя гістарычныя факты (мо таму, што сама ведаю іх небагата і па большыні — агульнавядомыя)...**

**Г. Давыдзька.** Ты ведаеш, я сабраў усё, што мог, пераправерыў крыніцы ды факты, і калі нешта трактавалася ў розных крыніцах па-рознаму, я даваў, так бы мовіць: «усярэдненую» трактоўку, альбо, часцей, стараўся зусім абысці гэткае ў спектаклі... Ніводнае гістарычнае недакладнасці ў спектаклі няма. Я звяртаўся да ўсіх магчымых крыніц, у тым ліку — да гістарычных, гэтаксама — 10—11 стст. Не схаваю, што папершапачатку мне хацелася, каб у фінале Рагнеда казала: «Госпадзі...» Гэта было б цудоўнаю кропкаю ў нашым расповядзе: Рагнеда здзейсніла хрысціянскі ўчынак, — намагалася ўратаваць Анэю ад ахвяравання (не яе віна ў тым, што Холад такі давёў справу

да лагічнага фіналу), яна, язычніца, учыняе хрысціянскае дабро! Потым, падумаўшы, адмовіўся: перадусім таму, што яна проста па-чалавечы робіць, дый жа пэўная рэлігія тут зусім ні да чаго. Насуперак сваім багам яна ўчыняе нешта зусім незразумелае, але я зыходзіў з пераканання, што перадусім прыняцце хрысціянства — гэта палітычны акт. Я зважаю на тое, што культура хрысціянства, ягоныя выгоды ды даброты ўзвысілі зямлю продкаў, але адначасова пацвердзіў выснову: культура не насаджаецца гвалтам. Ніякая. Мова, як выразнік, складнік культуры, таксама, — гэта што да сённяшніх нашых варункаў. Ламанне чалавека, здзіранне язычніцкай «шкуры» было занадта небяспечным ды хваравітым...

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. У фінале спектакля тая самая шкура з выявай Бога-маці з немаўляткам падымаецца на задніку, і аблічча яе цвёрда... напалоханае, нібы яна сама яшчэ баіцца вялікіх змен—скалананняў у чалавечай душы... Але хто падказаў вам гэтыя анучкі анучавыя, гэтае зрэб'е невымоўнае ў якасці характарыстыкі эпохі паганства?**

**Г. Давыдзька.** Над касцюмамі мы працавалі ўтрох: Новік, Герлаван ды я. Анучкі належаць персанажам бесцялесным, зданям, — лепшага нічога не прыдумалася.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. І таму часам іх можна палічыць то служкамі Холада (я так лічыла да трэцяга прагляду), то якімісь княскімі выведнікамі - памагатымі (гэтую фантазію рассакрэціла напрыканцы першага прагляду). Рабіць закід акцёрам?**

**Г. Давыдзька.** Мабыць, мне. Напачатку я думаў, што гэта павінны былі быць аголеныя людзі, не ўратавала б нас нават трыко (не тая фактура). Яны мусілі мазацца сажаю, пасыпацца пер'ем, пер'е мусіла падаць з вялікіх гнёздаў, як снег... Але мусіла і заставацца на сцэне, замінаць. Ад пер'я я адмовіўся. Ішло натуральнае рэдагаванне: задумана было шмат сімвалаў, шмат сцэнічных боек, ад якіх засталося толькі сёе-тое.

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Баявыя практыкаванні напачатку задалі спектаклю рытм, падтрымалі танальнасць першай карціны. Але па першым успрыманні неспакушанага гледача атрымліваецца, што паганцамі мы хадзілі непрыбраныя ды нячэсаныя, а хрышчаныя — прыбраліся, прычасаліся.... Ці не надта проста? Аднак хораша, што нямашака звыклай слязіны шкадавання, ціснуць якую з гледачоў усё складаней ды складаней. Хораша, што ўсе рэлігійныя пытанні, хоць яны і робяць намаганне пасунуцца на першы план, усё-такі саступаюць дарогу, людзям, іхнім палітычным, грамадскім, інтымным дачыненням...**

**Г. Давыдзька.** А я якраз хаджу ў царкву. Я хаджу ў царкву і бачу на твары царкоўнага чыноўніка, які вядзе службу, сляды толькі што перажытых пачуццяў,—я бачу ягонае мірское аблічча. Ён кепскі акцёр. Ён мусіць адукоўваць, настаўляць паству, а ягоны голас не заўсёды добра пастаўлены, не заўсёды адпрасаваная апранаха, я бачу пыл, бруд, ягонае раўнадушша абыякавасць. Аднаго разу бачыў, як дзяк пазяхаў падчас набажэнства... Хіба гэта ўмацоўвае веру? Нават зыходзячы з таго, што ўсе мы — рабы божыя? Мабыць, усе мы слугуем Госпаду, кожны па-свойму альбо кожны як умее, але мне гэткія пасрэднікі... не патрэбныя. Згадай канцэрт, прысвечаны тысячагоддзю хрысціянства на Беларусі. Такі самы апошнім разам, па-мойму, адбыўся з нагоды сямідзесяцігоддзя савецкай улады. Канцэрт з такімі самымі тварамі ў першых радах, толькі тыя былі ў гарнітурах, а гэтыя ў расах; гэткі самы рэпертуар з абыякавым стаўленнем да яго (рэжысура проста пераўзышла самую сябе, дэманструючы нам завыванні акцёраў у «гістарычных строях»), такая самая пампезнасць... Я не ўбачыў, не адчуў духоўнасці, затое ўбачыў пячаць гардыні супраць якой казаў Ісус Хрыстос, а таксама задаволенасць ды сытасць... Ну навошта выкідаць грошы на арганізацыю такога «дзівоснага відовішча», калі на паперцях ды ў пераходах людзі, не хаваючыся, просяць міласціну? Колькі канкрэтных дзяцей можна было накарміць на тыя грошы ды купіць лекаў? Гэтае святкаванне дужа ўмацавала народны дух? Няшмат хто глядзеў святкаванне нават па тэлевізары...

**Ж. ЛАШКЕВІЧ. Тое, што прадэманстраваў Купалаўскі тэатр, магло быць расцэнена, як выступ канкурэнтаў? Згадаю, як на спектакль «Служанкі» Жана Жэнэ, які паставіў у Аўстрыі Рыд Таліпаў, сярод першых дала водгук уплывовая газета аўстрыйскай царквы — спектакль, маўляў, проста і паслядоўна распавядае пра страчванне маральнасці, але і пра тое, як яе не страціць...**

**Г. Давыдзька.** За царквой — аўтарытэт стагоддзяў. Вера людзей, хоць, магчыма, пакуль і нешматлікіх. А што за намі? Маленькае фінансаванне пашкуматанай незалежнасцю ды застоем дзяржавы Беларусі?

**Ж ЛАШКЕВІЧ. У адным са спектакляў, з лепшых спектакляў тэатра, у «Тутэйшых», між касцёлам і царквою Барыс Герлаван з Мікалаем Пінігіным змясцілі батлейку, — вынайшлі сімвал веры беларускай паганска - хрысціянскай нацыі: мастацтва. Мастацтва, гэтага антылёсу нацыі, якое, нягледзячы ні на што, уздымала нацыю да вяршынь пазнання і пакуль, на жаль, не самое сябе. Выява Багамаці на звярынай шкуры ў тваім спектаклі — як эклектычная мешаніна канца стагоддзя, калі паганства ды хрысціянства, можа быць, робяцца гістарычнымі пазначкамі пэўных эпох, а мастацтва даўно ўжо дало магутны зліў, магутны падмурак, на якім і грунтавацца новаму тэатру, школе, жыццю. І толькі маральнасць, сведчыць твой спектакль, нязменная па сутнасці сваёй як малітва. Усё астатняе — ці ж не звон?**

**Г. Давыдзька.** Як ні дзіўна, але ў сваіх наступных работах я б хацеў між іншага давесці, што тэатр—гэта адвечнае. Хацеў бы ўзняць яго над кіно, вышукваючы, дамагаючыся найтэатральных эфектаў, тэатральнай сімволікі, алегарычнасці... Людзі зацятыя, як правіла. штучна абмяжоўваюць самі сябе, яны размаўляюць ісцінамі... Але ж канца пазнанню няма, шлях да пазнання — вечны. Той, хто налаўчоны ў прапісных ісцінах, сам сябе аддзяляе ад пазнання. Любы нацыяналіст прамаўляе ісцінамі. Не будзем казаць нацыяналіст, скажам — фундаменталіст, але чалавек, які не бачыць шмат якіх шляхоў да ісціны, — сляпы. А тэатр — ставіць пытанні, у гэтым ягонае наканаванне. Падкрэслю, што пакуль адроджана толькі мода на царкву. Толькі мода. Хай сабе. Хай праз моду людзі прыйдуць да іншага, але толькі з тымі правадырамі, якія здатныя весці. Ёсць правадыры царквы, якіх я не проста паважаю. Я схіляюся перад імі. Але ж чалавек мусіць ісці не да ксяндза ці бацюшкі, — ён мусіць ісці ў царкву да Бога... Таму служкі Богавы мусяць схавацца. Сцішыцца. Бо, зрэшты, не бацюшку ж мы молімся... Менавіта таму царква нагадвае мне кепскі тэатр. Але тэатр, нават самы добры, зрабіў непапраўную памылку. Ён пусціў да сябе за кулісы. Царква захоўвае патаемнасць абраду. Як ні дзіўна, але задачы царквы і тэатра... супадаюць; на як мага вышэйшым узроўні падтрымліваць маральнасць свайго народа. Толькі за царквой стаіць Спадар Бог, а за тэатрам?.. І мая мара — тэатр-храм, куды трэба вярнуць патаемнасць...

ФЕСТЫВАЛІ

**На працягу некалькіх вечароў тэлегледачы мелі магчымасць бачыць падрабязны рэпартаж з Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі, што прайшоў у Віцебску. Кідкае відовішча; воплескі гледачоў; усмешкі вядучых, якія нястомна нагадвалі пра спонсараў фестывалю— СП «Белвест», акцыянернае таварыства «Страхавая кампанія «Ніва», страхавая кампанія «Аско» і інш.; выступленні «зорак» эстрады Я. Паплаўскай ды А. Ціхановіча, Л. Долінай, С. Пенкіна... Свята, наладжанае ўпраўленнем культуры Віцебскага аблвыканкома, Палацам культуры прафсаюзаў, кампаніяй «Арт-марк», увабрала ў сябе і дух конкурснага спаборніцтва, і творчыя спрэчкі, і роздум аб крытэрыях прафесіяналізму... Дзелавы аспект фестывалю закранае і сённяшняя публікацыя нашага няштатнага карэспандэнта.**

# ТАНЦАВАЛЬНЫЯ РЫТМЫ ВІЦЕБСКА

Пэўна, Віцебск цвёрда вырашыў заваяваць пальму першынства сярод беларускіх гарадоў па колькасці фестываляў мастацтваў. З 18 па 22 лістапада горад прымаў у сябе танцавальныя калектывы Расіі, Беларусі, Украіны і краін Балтыі на Міжнародным фестывалі сучаснай харэаграфіі. У мінулыя гады ён быў вядомы віцяблянам і гасцям горада як фестываль папулярнага эстраднага танца «Белы сабака». Праўда, на гэты раз старога «знаёмца» цяжка было пазнаць і гледачам, і ранейшым



«Правінцыйныя танцы» (Екацярынбург).



Маскоўскі «Свабодны балет».

Фота Ю. РАБРОВА.

удзельнікам, — так змянілася яго творчае аблічча. Сёлета на фестывалі можна было ўбачыць самыя розныя стылі сучаснага танца, пачынаючы ад забаўляльных шоу-нумароў і заканчваючы сур'ёзнымі, глыбокімі па думцы харэаграфічнымі пастаноўкамі ў стылі мадэрн. Менавіта гэты кірунак пераважаў у праграме канкурсантаў і колькасна, і якасна. Ён у канчатковым выніку, і вызначыў мастацкае аблічча фестывалю, надаўшы яму своеасаблівасць. Асаблівасць яшчэ і ў тым, што наша рэспубліка не мае традыцый і сталай школы танца мадэрн. Менавіта гэтым, на мой погляд, і тлумачыцца тое, што Беларусь была прадстаўлена ў Віцебску толькі адным калектывам.

Яшчэ адна вызначальная рыса гэтага фестывалю — адсутнасць падзелу калектываў на прафесійныя і самадзейныя. На агульных умовах у конкурсе ўдзельнічалі і артысты-пачаткоўцы, і ўжо вядомыя майстры сучаснага танца — такія, як «Свабодны балет» з Масквы, талінскі балет «Норд Стар». Таму перапады ўзроўняў выканаўчага майстэрства былі даволі значныя.

Пяць фестывальных дзён уразілі і нават збянтэжылі разнастайнасцю стыляў і жанраў. Глыбокае і цэласнае ўражанне выклікаў вечар аднаактовых балетаў, якім адкрыўся фестываль. Ну, а пра вынікі конкурсу і творчыя перспектывы фестывалю я папрасіла расказаць старшыню журы, мастацкага кіраўніка Акадэмічнага балета Беларусі В. Елізар'ева.

**— Валянцін Мікалаевіч, якое ўражанне выклікалі ў вас канцэртныя праграмы?**

— У іх былі прадстаўлены часцяком творча несумяшчальныя з'явы: самадзейнасць і прафесіяналізм, народны танец і складаныя інтэлектуальныя вобразы кампазіцый у стылі мадэрн. Я думаю, што рамкі фестывалю неабходна звузіць і зрабіць яго імпрэзай прафесіяналаў. Магчыма, тады ён набудзе сваё сапраўднае аблічча і падорыць нам сустрэчу з сапраўды новым, таленавітым і цікавым. Бо задача любога фестывалю, у першую чаргу, заключаецца ў творчых адкрыццях. З тых калектываў, якія былі прадстаўлены на фестывалі, я хачу адзначыць «Свабодны балет» з Масквы, літоўскую «Ауру» якая выступіла па-за конкурсам, балет «Норд Стар» з Таліна. Адразу адчуваецца, што гэта прафесіяналы: асабліва высокі ўзровень выканаўчага майстэрства ў маскоўскіх танцораў.

**— Хто з харэографаў, якія паказалі свае работы на конкурсе, прыцягнуў вашу ўвагу?**

— Гэта мастацкія кіраўнікі калектываў, якія я назваў. Яны як пастаноўшчыкі мысляць ярка, вобразна і, што самае галоўнае, сродкамі танца. Бо калі ісці ад назвы фестывалю, то на яго трэба ў першую чаргу везці цікавую харэаграфію. У многіх жа конкурсных кампазіцыях харэаграфічны пачатак быў прадстаўлены ў слабаразвітых формах ці адсутнічаў зусім.

**— Наколькі прымяняльны тэрмін «канцэптуальная харэаграфія» да паказаных на фестывалі работ?**

— Канцэптуальнымі могуць быць і мініяцюра, і вялікі спектакль. Але калі канцэпцыя існуе без харэаграфіі, то яна нецікавая. У творы неабавязкова павінен быць канкрэтны змест, але абавязкова — думка. Тое, што глядач бачыць на сцэне, не павінна пакідаць яго абыякавым, бо акт мастацтва — гэта акт узрушэння.

Канцэптуальна думаючымі людзьмі паказалі сябе эстонцы. У іх кампазіцыі «Падарожнікі» адчуваўся глыбокі змест. У ёй была і харэаграфія, і ёмістая думка. Гэтая работа мяне ўсхвалявала.

**— Якія, на ваш погляд, творчыя перспектывы фестывалю?**

— Сёлета мы ўбачылі, бадай, далёка не ўсе па-творчы цікавыя калектывы сучаснага танца, якія ёсць у былым Саюзе. Напрыклад, не змог прыехаць у Віцебск Тэатр танца мадэрн з Пермі, а ў ім жа працуюць вельмі моцныя прафесіяналы. Акрамя таго, традыцыі танца мадэрн актывізаваліся ў нас у асноўным у апошнія гады. Пажадана, каб у фестывалі бралі ўдзел і калектывы з дальняга замежжа, якія маюць сфармаваныя традыцыі і выдатную школу танца мадэрн. Тады наперадзе будзе яшчэ нямала цікавых творчых адкрыццяў. Таму, я лічу, фестываль у Віцебску можа зрабіцца сапраўднай падзеяй.

**На гэтай аптымістычнай ноце я заканчваю аповяд пра пяць дзён фестывалю, якія завяршыўся гала-канцэртам пераможцаў. Імі сталі: . «Свабодны балет» (Масква, мастацкі кіраўнік і пастаноўшчык М. Агрызкаў), 1-я прэмія — за кампазіцыю «Размова на траіх», 2-я прэмія — за «Кашэчую імправізацыю»; балет «Норд Стар» (Талін, мастацкі кіраўнік С. Краніг, пастаноўшчык Р. Нымік), 2-я прэмія за кампазіцыю «Падарожнікі». Кампазіцыя «Калі настане час і прыйдзе той, Хто...» («Правінцыйныя танцы», Екацярынбург, мастацкі кіраўнік Л. Шульман, пастаноўшчык Т. Баганава) атрымала 3-ю прэмію і 4-ю — «Протопи ты мне баньку...» («Рытм і мы», Новакузнецк, мастацкі кіраўнік Р. Мінгаліева, пастаноўшчык Л. Цішчанка).**

**Будзем спадзявацца, што наступным разам і спіс удзельнікаў, і спіс пераможцаў фестывалю папоўніцца назвамі беларускіх калектываў...**

**Таццяна ВАЛАЧКОВІЧ.**

# КУЛЬТУРА, СВЯДОМАСЦЬ, СУВЕРЭНІТЭТ

(Пачатак на стар. 5).

менавіта цяпер, калі пад прыкрыццём панславістычных ідэй на Беларусі ідзе актыўная прапаганда за вяртанне ў «шчаслівую сям'ю брацкіх народаў» — зноў пад эгідай старэйшага брата, толькі ўжо не пад зманлівым сімвалам сярпа і молата, а пад адкрыта кіпцюрастым і дзюбастым двухгаловым расейскім арлом.

Асцярожнымі нам трэба быць і з сучаснай заходняй філасофіяй, і, можа быць, нават у большай ступені, чым з рускай, бо многія па законах усё таго ж чорна-белага мыслення думаюць зараз знайсці паратунак менавіта ў ёй. Філасофія гэта, як ужо гаварылася, (гл. дыялог аўтара з Ю. Залоскам, «ЛіМ», 25.09.1992 г. — **Рэд.)** знаходзіцца зараз на зусім іншай, процілеглай па сутнасці, фазе свайго развіцця, чым тая, у якую толькі-толькі ўваходзіць беларуская філасофская думка, беларускі светапогляд. Аб тым пераканаўча пісалі ў свой час і Шпэнглер, і Тойнбі, і Пiцірым Сарокін. Апошні, напрыклад, прама канстатаваў у сваёй кнізе пад красамоўным загалоўкам «Крызіс нашага часу»: сонца заходняй культуры зайшло. Свет агарнуўся для сумленнага заходняга філосафа цемраю абсурдызму, так званае некласічнае мысленне пачало сумнявацца ўвогуле ў рэальным існаванні гэтага свету як аб'ектыўнай з'явы. Француз Ж. Дэрыда не без горкай самаіроніі параўнаў неяк сучаснага філосафа, прашу прабачэння, з мастурбантам, бо і для таго і для гэтага рэальны аб'ект не так ўжо і патрэбен. Усё гэта, вядома, не ад дабра. І пачаўся той заход даўно, ужо з паяўленнем феербахаўскага матэрыялізму, якому аддалі доўг, як вядома, і Маркс з Энгельсам. Матэрыялізм, пазітывізм і, нарэшце, «некласічнае безаб'ектнае мысленне» з яго ўсеагульным скепсісам і адмаўленнем сваёй уласнай асновы, розуму — вось тыповая лінія развіцця філасофіі на яе зыходзячай фазе. І няхай тут не кажуць нам пра прагрэс і сучаснасць: старасць таксама прагрэсіруе, пераходзячы ў delirium senex («старэчы маразм»), і гэта адносіцца, на жаль, не толькі да асобнага індывіда, але і да цэлых цывілізацый.

Усё сказанае зусім не значыць, што я схіляюся тут да прапагандысцкага тэзісу кампартыйнай ідэалогіі аб загніванні буржуазнага Захаду, пра што, дарэчы, гаварылі задоўга да камуністаў расейскія славянафілы, і, напрыклад, у прыгаданай кнізе Данілеўскага маецца нават раздзел пад красамоўным загалоўкам «Гниёт ли Запад?». Справа тут значна складаней. Азначаны крызіс ёсць ужо крызіс на ўзроўні не паасобнай фармацыі, а ўсяго чалавецтва ў цэлым, аб чым сведчыць хоць бы грознае наступленне экалагічных праблем.

Усё сказанае не дае нам, аднак, падставы ўпадаць у нігілістычны песімізм. Наадварот, гэта варта было б успрымаць як своеасаблівы выклік гісторыі ў тым сэнсе, які ўкладаў у гэтыя словы Арнольд Тойнбі. Менавіта падобныя выклікі, згодна Тойнбі, і мабілізуюць маладыя культуры на гістарычны ўзлёт. За выклікам заўсёды мусіць ісці адказ. (Гэтак А. Тойнбі тлумачыў росквіт Вялікага Княства Літоўскага — менавіта як адказ на выклік з боку тэўтонскага ордэна й Масквы).

Са сказанага не вынікае таксама, што нам трэба адвярнуцца ад знешняга свету, замкнуўшыся толькі ў сабе і ўласным сваім светаадчуванні. Беларусы ўжо з часоў Вялікага Княства Літоўскага лічылі сябе еўрапейскім народам і ніколі Еўропе не процістаўляліся, не чулі сябе скіфамі «с раскосыми и жадными очами». Скарына і яго многія паплечнікі вучыліся ў лепшых еўрапейскіх універсітэтах і атрымлівалі там навуковыя ступені і званні. Недарэмна ж адну са сцен старога Падуанскага універсітэта ўпрыгожвае зараз памятная дошка пра гэты факт. Але як тады, так і цяпер нам лепш выпадае арыентавацца на **вяршыні** еўрапейскай культуры, а не на перыяды яе ўпадку, бо менавіта па вяршынях праходзіць, як у матэматыцы, агібаючая лінія дасягненняў агульначалавечай культуры. Век Пярыкла ў Грэцыі і братоў Гракхаў у Рыме, век Тамаша Аквінскага, век Рафаэля, Леанарда і Мікеланджэла, залаты век Скарыны, век Асветніцтва з яго найвышэйшым пікам, філасофія Гегеля — вось тыя вяршыні, на якія нам трэба раўняцца, калі хочам годна ўвайсці ў сусветную агульначалавечую культуру. **Раўняцца на іх, але глядзець наперад, бо ўсё ў нас, трэба думаць, наперадзе: і адраджэнне, і ўзлёт, і росквіт.**

Адсюль заканамерна вынікае яшчэ адна жаданая рыса беларускай філасофскай культуры — яе ГІСТАРЫЧНЫ АПТЫМІЗМ. Без яго ў прынцыпе не можа быць дасягнутай галоўная мэта Адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, насычанай уласнай самасвядомасцю і філасофіяй. Ідэал наш яшчэ наперадзе, і нам зусім не патрэбен той змрочны скепсіс і песімістычны нігілізм, што раз'ядноўвае, на жаль, сучасную амерыкана-еўрапейскую духоўнасць. Больш таго, увайшоўшы ў еўрапейскі культурны дом і ўзяўшы там багацейшы вопыт матэрыяльнага дабрабыту, мы проста абавязаны будзем падзяліцца сваёй духоўнасцю і аптымізмам. Цяпер гэта можа здацца каму-небудзь занадта саманадзейным, але веру, што так будзе. Іншага шляху ў нас няма.

Гістарычнасць яшчэ з часоў Геракліта была адметнаю рысаю дыялектычнага тыпу мыслення. Рака гісторыі цячэ няспынна, і нельга ўвайсці ў яе двойчы: кожны момант яна інакшая; так і з цэлымі эпохамі. Для Рэспублікі Беларусь і яе народа зараз пачынаецца новая эпоха, наступае, гаворачы словамі Шпэнглера, вясна. Адсюль і аптымізм. Але ў філасофіі «вясенні» аптымізм выліваецца ў спецыфічныя формы. Для філасофіі, галоўным прадметам якой з'яўляюцца дыялектычна супярэчлівыя ўзаемаадносіны паміж ідэальным і рэальным у іх неразрыўным і ў той жа час рухомым адзінстве, характэрна тое, што на фазе ўзлёту пануючым становіцца ідэальны пачатак, ідэалізм. На фазе росквіту — гарманічная філасофія ўсеадзінства, якая аб'ядноўвае сабой ідэальна рэальнае, ідэалізм і матэрыялізм. І на зыходзячай фазе, фазе ўпадку, пераважае ўжо рэальнае над ідэальным, матэрыялізм над ідэалізмам. Бліскучым пацвярджэннем гэтага можа быць класічная нямецкая філасофія: энергічны, актыўны ідэалізм Фіхтэ змяніўся філасофіяй адзінства рэальнага і ідэальнага ў Шэлінга і Гегеля, за якімі ўзнік феербахаўскі матэрыялізм, а за ім — знаёмая нам лінія развіцця заходнееўрапейскай філасофіі да сучаснага яе стану. (Такая ж заканамернасць назіраецца, дарэчы, не толькі ў гісторыі філасофіі, але і ў мастацкай літаратуры, пачынаючы амаль што са старажытнага Егіпта. Маладой мастацкай культуры таксама ўласцівыя ўзнёслы рамантызм (або класіцызм) сталай, квітнеючай культуры — гарманічны, фідыеўска-рафаэлеўскага тыпу рэалізм, які Г. Лукач называў вялікім рэалізмам, і, нарэшце, культуры «старэючай» — натуралізм, барока, а потым ужо і дэкаданс. Адзначалі гэтую заканамернасць і Віка, і Гердэр, і Гегель, і Шпэнглер, і Тойнбі, і Сарокін. Зрэшты, амаль трыццаць гадоў на Беларусі гэтая канцэпцыя распрацоўвалася адносна мастацтва і самога чалавека аўтарам гэтых радкоў,— але яна старанна замоўчвалася Масквой і мясцовымі «калегамі ад партакратыі»,— дарэчы, замоўчваецца і цяпер).

Нашай культуры, як і беларускаму чалавеку ўвогуле, на сучаснай фазе развіцця патрэбна зараз пераважаючая роля ідэалізму, прычым не дагматычна-метафізічнага, абсалютна варожага да матэрыялізму, а такога, які з цягам часу зліваецца з матэрыяльнай рэальнасцю. У агульнакультурным кантэксце гэта выступае як патрэба ў духоўнасці, якая выразна адчуваецца зараз, праяўляючыся ў росце, напрыклад, рэлігійных настрояў і пошукаў. Нам патрэбна вера, але вера, спалучаная з розумам, з разумным, так бы мовіць, рацыяналізмам. Трэба адкрыта прызнацца, што менавіта розуму — філасофскага і жыцейскага — нам не хапала. Для нас зараз шкодныя (не магу, на жаль, знайсці іншых слоў) эпігонскія эскапады супраць розуму і рацыяналізму, што гучаць часам з вуснаў мясцовых адэптаў «некласічнага» мыслення. Чарнуха-парнуха, у якой аказаліся сёння наша культура і мы, ёсць толькі пераломны, крызісны стан грамадства, і ён, будзем спадзявацца, усё ж такі некалі праміне.

Духоўнасць і ідэалізм, анак, не павінны быць чымсьці выключна элітарным, проціпастаўленым глыбіням народнага жыцця. Што культура ствараецца быццам бы толькі элітай, часта гавораць некаторыя нашы рускамоўныя інтэлігенты, маючы на ўвазе, натуральна, сябе і сваю рускамоўную асабістую культуру. Але яшчэ Артэга-І-Гасэт, адзначаючы наяўнасць такога разрыву паміж элітарнай і масавай культурамі на сучасным Захадзе, падкрэсліваў, што гэта вядзе да дэгуманізацыі культуры ў цэлым, што мы, на жаль, там і бачым.

Для беларускай культуры такі падыход быў бы смертаносным. Тут, наадварот, ці не адзінай апорай культуры і філасофіі з'яўляецца народны, нацыянальны менталітэт, а менталітэт гэты канцэнтруецца пераважна ў фальклоры, як пра гэта зусім слушна пісаў у тыднёвіку «Культура» (кастрычнік г. г.) Уладзімір Конан. Менавіта ў фальклоры крыюцца вытокі не толькі мастацкай літаратуры, але і філасофіі. Нездарма беларуская філасофская думка выражалася ў нас дагэтуль пераважна мастацкімі творамі.

АПОРА НА НАРОДНЫ МЕНТАЛІТЭТ і на канкрэтную яго форму — фальклор — ёсць яшчэ адна і, напэўна, галоўная рыса, будучай беларускай філасофіі. Галоўная таму, што філасофія, з'яўляючыся душою нацыянальнай культуры, выступае як своеасаблівы кандэнсат народнай самасвядомасці, яго, як гавораць псіхолагі, «мы-пачуццём». Разбудзіць і развіць гэтую самасвядомасць — першачарговая, важнейшая задача, асабліва цяпер, калі беларускі народ здабыў дзяржаўную самастойнасць.

Вялікі французскі філосаф Рэнэ Дэкарт у вядомым афарызме з мыслення выводзіў само існаванне. Перафразаваўшы гэты афарызм, нам пра сябе можна было б сказаць: cogitamus ergo sumus — «Мыслім — значыць, існуем». Існуем, прынамсі, як самастойны, незалежны народ.



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

# БЫЛІ Ў ШЭРАГАХ ПАЎСТАНЦАЎ

## СЯБРЫ РАДЫ

**Жаўрыд Павел** — камісар Найвышэйшае Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў Слуцкім павеце ў 1920 г., сябра Рады Случчыны БНР. Расстраляны ў Менскім ГПУ ў 1925 г.

**Русак Васіль** — старшыня з'езда Случчыны 14—15 лістапада 1920 г., на якім прынята пастанова аб пачатку паўстання, сябра Рады Случчыны.

**Пракулевіч Уладзімір** — віцэ-старшыня з'езда Случчыны, старшыня Рады Случчыны Беларускай Народнай Рэспублікі. Ад жніўня 1923 да кастрычніка 1925 г. — дзяржаўны пісар ва ўрадзе БНР, потым выехаў у Менск, загінуў у ГУЛАГу.

**Лістапад Юрый (Юрка)** — сябра Рады Случчыны БНР, адказны за кантроль і за даставу харчавання 1-й Слуцкай брыгадзе стральцоў БНР, потым двойчы арыштаваны ў БССР, быў у ссылцы, загінуў у ГУЛАГу.

**Паўлюкевіч А.** — лекар, сябра Рады Случчыны, начальнік вайскова-палявога шпіталю 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР.

**Асвяцімскі** — сябра Рады Случчыны.

**Мацэлі**, паручнік — камандзір беларускай міліцыі ў Слуцку і Слуцкім павеце падчас паўстання, сябра Рады Случчыны.

**Сасноўскі Юльян** — сябра Рады Случчыны, скончыў жыццё самагубствам з-за здзекаў польскай адміністрацыі.

**Радзюк** — сябра Рады Случчыны.

**Мяшочак** — сябра Рады Случчыны.

**Дубіна** — сябра Рады Случчыны.

**Бусел Сяргей** — сябра Рады Случчыны.

**Анцыповіч**, капітан — сябра Рады Случчыны.

**Біруковіч Іван (Янка)** — сябра Рады Случчыны, старшыня вайсковага суда 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР.

**Кабычкін Аляксей** — сябра Рады Случчыны.

**Грынько Рыгор** — сябра Рады Случчыны.

**Бань Павел** — сябра Рады Случчыны.

У склад Рады Случчыны ўваходзіла 17 абраных на з'ездзе Случчыны сяброў (15 лістапада 1920 г. ).

## ВАЙСКОЎЦЫ

**Анцыповіч,** капітан — сябра Рады Случчыны, камандзір 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР. Вызвалены ад пасады 3 снежня 1920 г. з-за здрады капітана Чайкі. Выданы польскімі ўладамі бальшавікам, расстраляны.

**Сокал-Кутылоўскі Антон,** штабс-капітан, камандзір 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР (прызначаны Радай Случчыны 3 снежня 1920 г)., у 40—60-х гг. у ГУЛАГу.

**Семянюк,** капітан — камандзір 2-га Грозаўскага палка 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР.

**Якубецкі Андрэй,** маёр, афіцэр брыгады.

**Борык,** капітан — начальнік штаба 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР.

**Міpановіч,** паручнік — начальнік контрразведкі 1-й Слуцкай брыгады (да 3 снежня 1920 г.).

**Гаўрыловіч,** падпалкоўнік — камандзір 1-га батальёна 1-га Слуцкага палка 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР (з 3 снежня 1920 г. — камандзір 1-га Слуцкага палка). Загінуў у ГУЛАГу.

**Якушэнка,** паручнік — начальнік контрразведкі 1-й Слуцкай брыгады (з 3 снежня 1920 г.). У 1939 г. высланы ў Сібір.

**Лагіновіч Іосіф (Язэп),** шэраговец. У Заходняй Беларусі — сябра партыі беларускіх эсэраў. У 1926—1936 гг. узначальваў КПЗБ (нацыянальны сакратар КПЗБ). Расстраляны ў БССР.

**Арцішэўскі,** паручнік — ад'ютант камандзіра 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР.

**Гнароўскі,** капітан — намеснік камандзіра 2-га Грозаўскага палка 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР.

**Хвясеня,** паручнік — афіцэр брыгады.

**Капец,** паручнік — афіцэр брыгады.

**Янкоўскі,** паручнік — афіцэр брыгады.

**Кітовіч,** паручнік — афіцэр брыгады.

**Казека,** паручнік — афіцэр брыгады.

**Дудка,** паручнік — афіцэр брыгады.

**Рудзік,** прапаршчык — афіцэр брыгады. Расстраляны НКВД у 1940 г.

**Сегідзевіч,** падпаручнік — афіцэр брыгады.

**Данілюк Фёдар** — паручнік, афіцэр брыгады, начальнік вайсковай афіцэрскай школы брыгады. У 1921 г. святар, потым святар Беларускай Аўтакефальнай Царквы ў Амерыцы. Памёр у 1960 г.

**Клюка,** капітан — афіцэр брыгады.

**Бабарэка Пётр,** прапаршчык — афіцэр брыгады.

**Самусевіч,** капітан — камандзір 1-га батальёна 2-га Грозаўскага палка. Выданы польскімі ўладамі бальшавікам, расстраляны.

**Кернатыцкі,** паручнік — камандзір кавалерыйскага аддзела 1-й Слуцкай брыгады. У 1939 г. высланы ў Сібір.

**Мацэля,** штабс-капітан — камандзір 2-га батальёна 2-га Грозаўскага палка 1-й Слуцкай брыгады.

**Багушэвіч,** паручнік — афіцэр брыгады, загінуў у ГУЛАГу.

**Бранявіцкі,** паручнік — афіцэр брыгады, забіты агентам НКВД у Заходняй Беларусі.

**Дзмітраў,** шэраговец — (1904 г. нар.), апошні Слуцкі паўстанец. Жыве ў Лондане.

Падрыхтаваў
**А. ГРЫЦКЕВІЧ.**

**ВЫСТАВЫ**

## Дзецям Чарнобыля



У адной з залаў выстаўкі-продажу.
Фота Уладзіміра ШУБЫ, БЕЛІНФАРМ.

Дабрачынная выстаўка-продаж пад назвай «Навагодні кругаварот» адкрыта ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры ў Траецкім прадмесці. Па ініцыятыве навукова-тэхнічнага цэнтра мастацтваў «Тэмак», арганізатара выстаўкі, частка сродкаў, выручаных ад продажу вырабаў, будзе перададзена ў Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля».

У экспазіцыі прадстаўлены работы з саломкі, косці, керамікі — ледзь не ўсе віды народнай творчасці Беларусі. Новы падыход да фларыстыкі дэманструе Наталля Гарабурда. Вытанчанасцю вылучаюцца карункі Ірыны Вавілавай, вырабы з саломкі Алены Налівайка. З мяккім гумарам выкананы лялькі розных эпох Уладзіміра і Лілії Серабраннікавых.

**ПЛЕНУМЫ**

## Барацьба за выжыванне?

Праблемам Саюза музычных дзеячаў Беларусі ў сучасных умовах быў прысвечаны даклад старшыні яго праўлення М. Дрынеўскага, які праслухалі ды абмеркавалі ўдзельнікі чарговага пленума СМД. Адзначыўшы плён дзейнасці маладога саюза (у тым ліку і правядзенне гістарычнага I фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы»), прамоўца канстатаваў, што ў сённяшніх так званых рынкавых умовах творчая суполка беларускіх музыкантаў вымушаная змагацца за выжыванне, прытым не адчуваючы ў гэтай барацьбе ніякай падтрымкі, нават спачування з боку тых, каму наканавана дбаць не толькі пра захаванне нашай культурнай спадчыны, але і нашай культурнай будучыні. Улічваючы не проста карысць — неабходнасць існавання Саюза музычных дзеячаў у хаўрусе грамадскіх творчых арганізацый суверэннай Беларусі, пленум вырашыў звярнуць увагу грамадскасці ды афіцыйных структур рэспублікі на катастрафічнае становішча СМД, па чыёйсьці злой волі ці непаразумеласці пазбаўленага (адзінага з усіх творчых саюзаў і фондаў!) дзяржаўнай датацыі. Зварот удзельнікаў пленума друкуецца ў гэтым нумары «ЛіМа».

Н. К.

**ДРУК**

## Газета не для ўсіх...

Па чым мы можам дагнаць, а то і перагнаць высокаразвітыя краіны свету, дык па колькасці назваў перыядычных выданняў на душу насельніцтва. Не паспелі разам з газетай «К широкой оппозиции» пайсці шырокім крокам у апазіцыю, як у кіёсках з'явілася яшчэ адна — «Нацыянальная эканамічная газета». Праўда, рэдакцыя загадзя агаворваецца, што гэта «газета не для всех». І тут жа ў невялікім праграмным уступе «А для кого?» расказвае пра мэты і задачы выдання. Тыя, хто чакае «легкого чтива», дешевых сенсаций и скандалов», на старонках «НЭГ» іх не сустрэне, «зато на ее страницах вы найдете все важнейшие документы, которые регулируют экономические отношения в Беларуси и Беларуси с другими странами, компетентный комментарий этих документов официальными лицами» и г. д.

Мяркуецца, што «Нацыянальная эканамічная газета» будзе штотыднёвікам, аб'ём ад 8 да 16 «лімаўскіх» палос, выдавацца на беларускай і рускай мовах.

Першы ж нумар выйшаў рускамоўным, што рэдакцыя вытлумачвае «техническими причинами». Ці ж знікнуць тэхнічныя прычыны ў будучым?

## Голас Залатавуста з Турава

Гэты прыгожа аформлены, кішэннага фармату томік ужо прынёс нямала радасных хвілін усім, хто не проста ведае цану каштоўным выданням, а і цікавіцца гісторыяй беларускага прыгожага пісьменства. Знакаміты даследчык з Масквы Юрый Лабынцаў у зборніку «Напой росою благодати...», які пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура», падрабязна разглядае асаблівасці малітоўнай паэзіі Кірылы Тураўскага. Выданне адметнае і тым, што падаюцца ў арыгінале тэксты найбольш значных твораў вядомага асветніка, якога празвалі Залатавустам з Турава.

Раней у той жа «Мастацкай літаратуры» выйшаў аналагічнага фармату томік, у якім Ю. Лабынцаў разважаў пра творчасць першадрукара Францішка Скарыны.

## Калі ўзнікае сумненне...

Не толькі школьнікам прыйдзецца даспадобы «Слоўнік націску ў беларускай мове» М. Бірылы (а ім ён у першую чаргу адрасуецца), выпушчаны выдавецтвам «Народная асвета». Знакаміты моваЗнаўца, які, на жаль, нядаўна памёр, сабраў каля 5 500 найбольш распаўсюджаных слоў, адносна націску ў якіх узнікаюць часам сумненні.

## Адразу — дзве!

І раней французскія аўтары былі ў пашане ў нашых выдавецтвах. Але каб адразу дзве кнігі выйшлі! Такога, здаецца, не было. Тым не менш, факт застаецца фактам, і зрабіла гэта выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Першая кніга — зборнік «Французская навела XX стагоддзя» (укладанне, прадмова, звесткі пра аўтараў Л. Казыры) аб'яднаў творы Л. Арагона, Э. Базэна, А. Барбюса, П. Гамара, М. Друона, А. Маруа і іншых знакамітых пісьменнікаў, перакладзеныя З. Коласам, А. Марозам, А. Асташонкам, Л. Казырам...

Другая — кніга Ж. Сімянона «Пад страхам смерці» (укладанне і прадмова Л. Казыры) папоўніла серыю «Бібліятэка замежнай прозы». А. Асташонак пераклаў раман «Порт у тумане», аповесці «Чалавек на лаўцы», «Пад страхам смерці», «Дзяўчына і бясхвостыя парсючкі» і лекцыю «Раманіст».

## «Часопіс», № 12

Прыйшоў апошні ў гэтым годзе нумар беластоцкага «Часопіса». У ім Юры Хмялеўскі аналізуе сітуацыю ў радыёэфіры Польшчы і, у прыватнасці, на Беласточчыне (там існуюць планы стварэння нацыянальнай беларускай ды праваслаўнай радыёстанцый). Аднак ажыццяўленне гэтай мары стрымліваецца бракам адпаведных сродкаў. Тэма беларускамоўнага эфіру прадоўжана ў артыкуле «Радыё «Беласток» і беларусы», у карыкатуры Лёніка Тарасэвіча. «Жывем у цікавы час», — канстатуе ў аднайменным інтэрв'ю Вячаславу Харужаму галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Мірановіч. Ён дае глыбокі сістэмны разгляд палітычнага й нацыянальна-культурнага жыцця беларусаў Беласточчыны ў мінулым і сучаснасці.

«Часопіс» змяшчае гістарычныя матэрыялы пад традыцыйнымі рубрыкамі знойдзена ў архіве» і «Выпраўленне гісторыі». Пра адзін з момантаў тэрору супраць беларусаў у паваеннай Польшчы апавядае Ян Максімюк (пераклад з «Нівы»).

На падставе матэрыялаў шэрагу эміграцыйных выданняў Антон Мірановіч піша пра беларускія цэрквы ў замежжы. Побач ідзе гаворка пра рэлігійныя абшчыны Беларусі. Як заўсёды, у часопісе чытаем пра «Нашы прыходы», «Календарыюм святаў» і «Нараджаецца праваслаўны чалавек»

Паралелі ў жыцці беларусаў і нарвежцаў праводзіць Алег Дзярновіч. «Часопіс» задаецца пытаннем «Хто нас пачуе?» з нагоды пратэстаў беларускай грамадкасці перад пасольствам РБ у Варшаве. Дарота Кузьміч завяршае свой матэрыял з мінулага нумара — «Найгоршае — старасць, самотнасць і зіма...» Пісьменнік Сакрат Яновіч працягвае свае ўспаміны «Даліна, поўная лёсу». «Наша хроніка» падае навіны з Польшчы (найперш з Беластоцкага краю), Беларусі і іншых краін.

Юрась СЦЯПАНАЎ.

**СПАДЧЫНА**

## «Ой, калядачкі...»

Сярод шматлікіх экспанатаў Музея беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах — калядныя маскі, зробленыя з саломы майстрыхай Таісай Агафоненка.

...У ноч пад каляды выпраўлялася моладзь калядаваць — з песнямі, жартамі і, вядома, з пераапранутымі. Суправаджалі калядоўшчыкаў каза — сімвал дастатку, бусел — сімвал кахання і шчасця, і чорт, якому адводзілася роля свавольніка і насмешніка над няўмелымі гаспадарамі. Ох, і даставалася такім ад чорта! А таму стараліся задобрыць калядоўшчыкаў і моцным напіткам, і ўсялякай смачнай стравай, прыгатаванай да святочнага стала...



І як было б цудоўна, калі б традыцыі калядавання адрадзіліся паўсюдна. Каб не толькі ў музеі можна было б сустрэцца з каляднымі персанажамі.

Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ.

**ЛІТКУР'ЕР**

## У Сачкаўцы, на Шклоўшчыне

У вёсцы Сачкаўка Шклоўскага раёна Яўген Крупенька нарадзіўся, там закончыў сярэднюю школу. Часта наведваўся да землякоў, калі шляхі-дарогі прывялі ў Мінск. Памятаюць і яго на Шклоўшчыне. Пацвярджэнне таму і адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме, у якім нарадзіўся Я. Крупенька. Слова пра земляка сказалі старшыня Шклоўскага райвыканкома А. Думар, рэдактар шклоўскай раённай газеты Л. Анціпенка, паэт Р. Яўсееў і іншыя. У мясцовай школе прайшоў літаратурны вечар.

## Школьнікам — пра Адраджэнне

Паэт, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алег Салтук любіць бываць ва Ушацкім раёне — у вёсцы Якаўкі Глыбачанскага сельсавета жыве яго бацька. У райгазеце Алег Уладзіміравіч раней працаваў — засталіся сябры, знаёмыя. На гэты ж раз па запрашэнні педагогаў, раённай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны А. Салтук наведаў Ушацкую сярэднюю школу. Гаворка ішла аб паэзіі, аб перспектывах развіцця роднай мовы, далейшага нацыянальнага Адраджэння. І, канечне ж, гучалі вершы.

Г. ВАРАТЫНСКАЯ, старшыня Ушацкай раённай рады ТБМ.



Алег САЛТУК выступае перад вучнямі.

**ВІНШУЕМ!**

## Тэлеграма юбілярцы

У сувязі з юбілеем Алена Васілевіч атрымала тэлеграму ад Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. У ёй гаворыцца: «Сардэчна віншуем Вас з Вашым прыгожым высокім юбілеем. Радасна ўсведамляць, якая адметная Ваша прысутнасць у беларускай літаратуры, у духоўным жыцці нашага народа. Дзесяткі Вашых яркіх, таленавітых кніг — гэта важкі ўклад не толькі ў нацыянальную мастацкую скарбніцу, але і ў нацыянальную педагогіку. На іх добрых, светлых, мудрых асновах выхоўваецца ўжо не адно пакаленне грамадзян нашай краіны. З пачуццём шчырай удзячнасці і глыбокай павагі зычым Вам добрага здароўя, шчасця і новых багатых плёнаў у творчай працы дзеля славы Бацькаўшчыны».

## Лаўрэаты «Маладосці»

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» разгледзела публікацыі 1992 года і прысудзіла прэміі за лепшыя творы. Лаўрэатамі «Маладосці» сталі І. Снарская (верш № 6). Б. Пятровіч (кніга апавяданняў «Ловы» «Бібліятэка часопіса «Маладосць»). М. Чарняўскі (публікацыя «Гісторыя Беларусі ў ілюстрацыях», №№ 1—12). Я. Конеў (артыкул «Зірніце: мы прыйшлі». № 12), А. Назаранка (мастацкае афармленне шэрагу нумароў).

## Руплівец з Ліды

Удзельнікі чарговага пленума Саюза музычных дзеячаў Беларусі ўрачыста павіншавалі з 60-годдзем свайго калегу, дырэктара Лідскага музычнага вучылішча Мар'яна Баяровіча. Музыканты ведаюць, якая творчая абстаноўка сфарміравалася ў вучылішчы за гады кіравання М. Баяровіча. Выхаванцы Лідскага музычнага часцяком вылучаюцца на рэспубліканскіх выканаўчых конкурсах, паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Намаганнямі дырэктара многае робіцца для ўмацавання матэрыяльнай базы вучылішча, стабілізацыі педагагічнага калектыву. І — дзеля беларусізацыі як навучальнага працэсу, так і пазакласнага жыцця. Актыўны руплівец Лідскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны, М. Баяровіч многа робіць для таго, каб роднае слова прысутнічала ў вучылішчы не толькі фармальна, у т. зв. нагляднай агітацыі, а і ў жывых чалавечых стасунках: тут адзначаюцца Каляды і Гуканне вясны, Купалле і Дзень незалежнасці Беларусі. Мае руплівец з Ліды і нямала афіцыйных узнагарод, грамат, але галоўнае не гэта: на працягу многіх гадоў збіраў ён музычную спадчыну роднага краю, і зборнік са 150 народнымі песнямі Гарадзеншчыны, складзены М. Баяровічам, знаходзіцца зараз у абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці. Ёсць у яго і свае метадычныя распрацоўкі, і арыгінальная музыка — як, напрыклад, «Фантазія на беларускую тэму» для баяна...

**МІЛАСЭРНАСЦЬ**

## Пад знакам дабрачыннасці

Спектакль «Чарадзейная гісторыя пра цара джынаў, удачлівага Аладзіна і прынцэсу Будур», што нядаўна прайшоў у Тэатры юнага гледача, быў незвычайны: на яго запрасілі дзетак-інвалідаў. Што ж, у наш трывожны час, калі столькі няпэўнасці, і гэтая, няхай і не такая вялікая, дабрачынная акцыя радуе.

**НЕ ДА КУЛЬТУРЫ**

## Грошы — на вецер



Невясёлыя думкі адольваюць Г. Макеева ў пустой халоднай зале Дома культуры.
Фота аўтара.

Больш за два мільёны абышоўся дзяржаве рамонт Дома культуры ў Горках. Але, як лічыць загадчык аддзела культуры мясцовага райвыканкама Г. Макееў, задумаў ён яго на сваю галаву. Не прайшло і года, а ў будынку ўжо адвальваецца тынкоўка, іржавее дарагое абсталяванне. Прычынай усяму — холад. Пасля капітальнага рамонту сістэма ацяплення ў Доме культуры не працуе. Калі здаваўся аб'ект, кіраўніцтва створанага пры гарвыканкаме аб'яднання цеплаэнергетыкі абяцала выправіць непаладкі. Але, на жаль, з сакавіка 1991 года рукі да культуры так і не дайшлі.

Аляксандр ТАЛОЧКА, БЕЛІНФАРМ.

**РЭПЛІКА**

## Не без хібаў...

Упершыню Беларускае картографа-геадэзічнае прадпрыемства выпусціла тапаграфічную карту Рэспублікі Беларусь, якая ўключае даволі падрабязныя дадзеныя радыяцыйнага забруджвання шэрагу нашых тэрыторый. Але ў гэтай добрай карце не абышлося і без хібаў: тапонімы ўсіх сумежных дзяржаў пададзены на... рускай мове. Можа, складальнікі мяркуюць, што беларуская «не дарасла» яшчэ да «цывілізаваных» моў?

ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ

# «...ПАЖАДАНА НАДРУКАВАЦЬ ДАДАТКОВЫЯ ТЛУМАЧЭННІ»

**У ГЭТАЙ публікацыі ўвазе чытача ўпершыню прапануецца тэкст ліста трох членаў літаратурнага аб'яднання «Маладняк» (М. Зарэцкі, А. Ажгірэй, А. Александровіч), які яны накіравалі 12 кастрычніка 1925 г. у бюро ЦК КП(б)Б. Аўтары ліста звярталіся да вышэйшага партыйнага органа са сваімі меркаваннямі і прапановамі з нагоды даклада сакратара ЦК КП(б)Б А. Крыніцкага на сходзе Мінскага гарадскога партыйнага актыву. Аналізуючы асаблівасці ўнутрыпартыйнага становішча ў Кампартыі Беларусі, дакладчык прыцягваў увагу не толькі мінскіх актывістаў, а і ўсёй рэспубліканскай арганізацыі да небяспекі дробна - буржуазных уплываў, якая, па яго думцы, павялічылася ў апошні час у абставінах «разгорнутага нэпа» і выкліканай ім «вялікай актыўнасці сялянства, т, значыць; дробнабуржуазнай інтэлігенцыі». «Ціск іх на партыю далей, — гаварыў дакладчык, — будзе ўзрастаць, калі не станем відушчымі, будзем бачыць ворага, не пусцім яго ўплыву ў нашы рады».**

**А. Крыніцкага асабліва непакоіў «уплыў дробнабуржуазнай інтэлігенцыі», гэты ўплыў, лічыў дакладчык, «ва ўмовах Беларусі трэба прызнаць найбольш небяспечным»: «Пераважная частка інтэлігенцыі, з якою мы цяпер працуем, выйшла з сялянства, з местачковых працоўных слаёў, горада і прыгарада, у меншай меры з буржуазных слаёў. Частка гэтай інтэлігенцыі цвёрда стала на пазіцыю рабочага класа —яны ў Камуністычнай партыі ці ў камсамоле. Частка на паўдарозе—яшчэ не парвала канчаткова з дробнабуржуазным асяроддзем, але хоча ісці з намі, усё больш набліжаецца да нас. Нарэшце, трэцяя частка «лаяльна» працуе з Савецкай уладаю, але мяжы, якая аддзяляе яе ад дыктатуры пралетарыята, яна не перайшла, бо не пераадолела сваёй дробнабуржуазнай прыроды». Менавіта трэцяй частцы інтэлігенцыі, сканцэнтраванай у Інбелкульце, Наркамасветы, савецкім апараце, асабліва цэнтральным, школе, перш за ўсё вышэйшай, аўтар і ўдзяляў галоўную ўвагу ў сваім дакладзе, з яе ўплывам звязаў многія небяспекі для партыі.**

**Першае праяўленне ўплыву дробнабуржуазнай інтэлігенцыі сакратар ЦК убачыў у «культурніцкім» ухіле ў нацыянальнай палітыцы—калі гавораць аб мове, беларусізацыі апарату, забываючы «задачы ўздыму эканомікі адсталага краю». Другое—«калі беспартыйны апарат, надта поўны кваліфікаванай інтэлігенцыяй, вырываецца ў нас з рук, ціснe на тых кіраўнікоў, якіх партыя паставіла кіраваць». Парушэнні ва ўнутрыпартыйных адносінах, рознага роду «дыпламатнічанне» пры вырашэнні спрэчак і пераадоленні рознагалоссяў, праявы «правадырства», нават абывацельшчына,—усё гэта, па Крыніцкаму, ідзе ад шкодных уплываў дробнабуржуазнай інтэлігенцыі. «Калі мы будзем губляць кіраўніцтва над гэтай часткай інтэлігенцыі,—перасцерагаў ён,—дык у некаторых частках нашай арганізацыі будзем падвяргацца нацыянал-дэмакратычнаму перараджэнню».**

**У сувязі з усім гэтым, а таксама шэрагам іншых палажэнняў даклада ў аўтараў ліста ў ЦК КП(б)Б узніклі пытанні, дадатковага растлумачэння якіх яны і чакалі ад яго бюро.**

### У БЮРО ЦК КП(б) БЕЛАРУСІ

Дарагія таварышы!

У звязку з прамоваю тав. Крыніцкага[1], надрукаванай у газеце «Звязда», а затым і асобным выданнем («А. Криницкий. Особенности внутри-партийного положения КП(б)Б. 18 сентября 1925 г. Издание газеты «Звезда»), у нас паўстала некалькі запытанняў. Запытанні гэтыя грунтуюцца,—па нашым шчырым перакананні,—на недакладнасцях, якія дапушчаны тав. Крыніцкім у гэтай прамове.

Спасылаючыся на словы тав. Гессена[2], які на фракцыі ЦБ Маладняка прапанаваў нам (у звязку з артыкулам «Можам пагаманіць») аб усіх спрэчных пытаннях пісаць у ЦК партыі, мы просім разгледзець наш ліст.

З прычыны таго, што даклад тав. Крыніцкага распаўсюджаны па Беларусі ў тысячах экземпляраў, вельмі пажадана надрукаванне ў нашай прэсе дадатковых тлумачэнняў.

1. На стар. 6 брашуры, на якую мы будзем увесь час спасылацца, тав. Крыніцкі падзяляе ўсю інтэлігенцыю на тры катэгорыі.

Трэцяя катэгорыя—«Наконец, третья часть» «лояльна» работает с советской властью, но грани, отделяющей ее от диктатуры пролетариата, она не перешла, ибо не переработала своей мелкобуржуазной природы»—па заяве тав. Крыніцкага, падкрэсленай і надрукаванай чорным шрыфтам, з'яўляецца той самай, аб якой ён галоўным чынам і гаворыць у далейшым.

Сказанае падмацоўваецца прыкладамі: «гэтая беларуская дробнабуржуазная інтэлігенцыя працуе цяпераказ над развіццём беларускае культуры. Найбольш ясна відаць гэта ў НКАсветы і ў Інбелкульце...»

Кажучы пра гэта, тав. Крыніцкі спусціў з вока тое, што ў НКАасветы, у яго апараце ёсць шмат камуністаў і камсамольцаў беларусаў па нацыянальнасці, а таксама тое, што Маладняк, арганізацыя маладых паэтаў і пісьменнікаў беларусаў, на 50—60 % камсамольцы і партыйцы, **уваходзіць у поўным складзе ў Інбелькульт як секцыя.**

Тав. з НКАсветы могуць сказаць за сябе самі, а мы, як члены Маладняка і Інбелкульту, павінны звярнуць Вашу ўвагу на тое, што гэта не растлумачанае сцвярджэнне нясе ў сабе тормаз для далейшай працы Маладняка, а, выходзячы за яго рамкі, і для працоўнай інтэлігенцыі наогул.

Прыклад. Тав. Валынскі, член ЦК КП(б)Б, загадчык аддзела друку, рэдактар «Звязды», член літкамісіі ЦК КП(б)Б, выступіў на пасяджэнні літкамісіі ЦК і заявіў, што Маладняк—«аб'яднанне дробнабуржуазнае і кулацка-шавіністычнае». Праўда, на фракцыі ЦБ Маладняка мы прасілі тав. Гессена загадаць тав. Валынскаму зрабіць на чарговым сходзе літкамісіі даклад на гэту тэму і тав. Гессен абяцаў зрабіць гэта.

**Але справа не ў гэтым.** На камісіі былі прысутнымі беспартыйныя і маладыя камсамольцы. На другі дзень амаль не ўвесь Менск з іх слоў ведаў, што ў ЦК Партыі маладнякоўцаў вінавацяць у «дробнабуржуазнасці і кулацка-шавіністычнасці».

**Які вывад для абываталяў,** з аднаго боку, і рэшты беларускай інтэлігенцыі, з другога боку?

**А вывад такі.** Калі маладнякоўцы дробная буржуазія, тыя маладнякоўцы, якія з'яўляюцца рэвалюцыйным аб'яднаннем рабоча-сялянскіх паэтаў і пісьменнікаў, **то рэшта інтэлігенцыі,** мабыць, буржуазія буйная, «контррэвалюцыя» самая сапраўдная.

**Мы лічым гэта першай памылкай.**

2. 30 снежня 1923 г. прынята дэкларацыя аб утварэнні Саюза ССР. Роўна праз паўгода зацверджаны тэкст Канстытуцыі Саюза ССР. Успамінаем гэта для таго. каб сказаць, што тэкст Саюзнай канстытуцыі пэўна не адзін раз уважна разглядаўся ў адпаведных органах. Калі так, дык, значыцца, ён добра прадуманы.

У тэксце Саюзнай Канстытуцыі ёсць артыкулы, у іх гаворыцца. што Саюз ССР утвараецца УССР, БССР, РСФСР і ЗСФСР. Гэтыя чатыры рэспублікі як раўнапраўныя дзяржавы ўтварылі Саюз. Там жа ёсць цэлы раздзел «Аб суверэннасці Саюзных Рэспублік».

Такім парадкам для Саюза ССР і для ўсяго свету і апублікавана.

Тав. Крыніцкі на стар. 8 тлумачыць, што БССР з'яўляецца не самастойнай дзяржавай, як РСФСР, а самастойнай дзяржавай у косках (в кавычках).

Раней чым пісаць аб гэтым. варта паставіць пытанне аб скасаванні адпаведных артыкулаў і раздзелаў у Саюзнай Канстытуцыі.

**Мы лічым гэта другой памылкай.**

3. Ужо на стар. 22 тав. Крыніцкі кажа, што ў нас ёсць «культурнический уклон», што **занадта многа** гаворыцца аб мове і беларусізацыі апарату і **занадта мала** аб эканамічным адраджэнні Краіны.

**Можна адкрыта сказаць,** што аб мове і беларусізацыі гаворыцца многа затым, што зроблена вельмі мала.

Беларуская культура развіваецца самапасам, гэта значыць, «на подножном корму». Каб не быць галаслоўнымі, прыводзім факты з розных галін.

а) Літаратура. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі ў агульнай прадукцыі (100 %) на літаратуру дае 17 % сваёй прадукцыі (тут жа і падручнікі), на газеты 20 %. Рэшта — этыкеты на дрожджы, на піва, ведамасці і г. д.

Наколькі нам вядома, на мастацкую літаратуру на 1925/26 аперацыйных год было вылучана 150 друкаваных аркушаў, цяпер зменшаных да 130 друкаваных аркушаў. Гэта значыць — 130 нумароў у 4 старонкі. А калі перавесці на кнігі — 10—15 шчупленькіх кніжачак у год.

Ганарар за іх. Ганарар за творы даецца такі, які ні ў якім разе не дазволіць існаваць літаратару без пабочнай працы.

Дапамога арганізацыі. Калі Варонскі піша, што адной расейскай літарацкай групе далі субсідыю ў 40.000, ён называе яе, субсідыю, жабрацкай («нищенской»).

Толькі ў 1925 годзе, дзякуючы падтрыманню члена ЦК КП(б)Б тав. Адамовіча, мы атрымалі 3.000 да новага бюджэтнага года і 9.000 на новы бюджэтны г.

б) Беларусізацыя. Мы мелі выпадак паказваць т. Адамовічу афішы і лозунгі, выдрукаваныя ў Віцебску са страшэннымі і недарэчнымі памылкамі ў адносінах да мовы. **Гэткія выданні можна назваць дыскрэдытацыяй мовы і самой беларусізацыі.** Бібліятэкі — навуковыя і вучэбныя ўстановы, якія падлягаюць беларусізацыі, не папаўняюцца нармальна беларускай літаратурай.

Прыклад — бібліятэка Горацкай С. Г. Акадэміі, якая павінна абслугоўваць не менш чым 1.500 чытачоў, мае ў сваім складзе штук 50—60 кніжак на беларускай мове. Невядома, ці будзе закуплена літаратура і ў гэтым годзе, бо на гэта патрабуецца не менш 250 руб. на месяц.

Таксама стаіць справа і ў іншых установах. А якая будзе беларусізацыя, калі чалавек не пачытае мастацкай літаратуры?

в) Пераклады. Ува ўсіх Саюзных рэспубліках друкуюцца пераклады з чужаземных моў, што дазваляе азнаямляць краіну з дасягненнямі сусветнай культуры.

У «Савецкай Беларусі» ад 11 кастрычніка г. г. прыведзены спіс перакладаў, зробленых з грэцкай і англійскай мовы на беларускую. Ён можа быць значна пашыраным. Але наша выдавецтва не мае магчымасці выдрукаваць і гэта, бо няма ў плане адпаведнага ліку «аркушаў».

г) Навука. Падрыхтаваныя да друку матэрыялы па беларускай навуцы не друкуюцца. Не друкуюцца таму, што іх мала будуць купляць. Вядома, каб выдавецтва пачало друкаваць «сышчыкаў», «Нат Пінкертонаў» на беларускай мове, іх куплялі б нарасхват, але гэта не было б будаваннем беларускай культуры. Мы не прыводзім спісу гэтых твораў, можам даць яго на першым Вашым загадзе.

Пададзеныя факты сведчаць, што ў галіне сапраўднай беларусізацыі і сапраўднага будавання беларускай культуры зроблена малавата. **Мы не скардзімся на гэта, мы разумеем становішча нашае дзяржавы,** але гэта не з'яўляецца падставаю заяўляць, што ў нас занадта многа гавораць на гэтыя тэмы. Чаму? Бо калі не гаварыць аб гэтым, то зусім нічога не будзе рабіцца.

**У гэтым мы бачым трэцюю памылку.**

4. Тав. Крыніцкі лагічна разважае. Сказаўшы аб толькі што намі зазначаным, ён кажа на старонцы 27 літаральна вось што:

«также, например, в вопросе о русской школе — разве тут мало «мазни»? Решили проводить белоруссизацию — проводим ее. Правильно, нужно проводить. Но нельзя же ребят, родители которых никогда не говорили по-белорусски, напр., старообрядцев, тоже белоруссизировать. Такие ошибки в отношении к нашим национальным меньшинствам срывают национальную политику партии и ее основную линию».

**Мы не ведаем дакладна**, колькі ў гэты час на Віцебшчыне жыве старавераў (бо яны ў кампактнай масе і былі ў нас на Віцебшчыне і на Гомельшчыне). Калі раней, у межах старой Віцебшчыны, там было старавераў сто тысяч, дык частка іх адышла да Латвіі, частка да РСФСР (у Пскоўскую г.). Гэткім чынам, на Віцебшчыне і ў межах БССР наогул стараве раў ёсць тысяч 35—40. **Але мы ведаем дакладна,** што ў РСФСР жыве больш аднаго мільёна беларусаў. У Прыморскай краіне, напр., у Сібіры, беларусы складаюць 30 % усяго жыхарства Краіны. Захавалі мову, і звычаі, быт, нават назвы вёсак: Магілёўка, Сінда, Роскаш і г. д. Мы не звярталі ўвагу на тое, што гэты мільён беларусаў вучыць сваіх дзяцей у расейскіх школах. Дарэчы кажучы, варта было б запытацца, што адказалі губернскаму аддзелу асветы Прыморскай Краіны (Хабараўск), які звяртаўся да НКА РСФСР у пачатку 1923 г. з просьбай аб прысылцы літаратуры на беларускай мове і г. д.

**Але справа не ў гэтым.** Замест сказанага, а затым надрукаванага «например — старообрядцев», можна паставіць «вообще великоруссов», «евреев», «поляков» і г. д. і г. д.

Што ж будзе? А будзе тое, што на падставе гэтага скажуць: Белоруссизация — вообще не нужна. Разве можно обучать детей не белорусов белорусскому языку?

**Наколькі нам вядома,** Камуністычная партыя Беларусі і адпаведныя савецкія інстанцыі не аднойчы выносілі пастановы аб беларусізацыі. Гэта значыць, што ўсе нацыянальнасці, якія вывучаюць свае родныя мовы, павінны ведаць і мову большасці жыхарства БССР — беларускую.

Нам здаецца, што тав. Крыніцкі несвядома гэтаму запярэчыць і ў сілу далейшага тэксту, бачыць у гэтым «срыв основной линии партии».

**Мы бачым у гэтым чацвёртую памылку.**

5. Тав. Крыніцкі вельмі часта ўжывае ў сваіх артыкулах цытату з прамовы тав. Сталіна аб форме і змесце нацыянальнай культуры. Ёсць яна і тут — на старонцы 26. Успомнім яе і мы:

«Пралетарская па зместу, нацыянальная па форме — вось якая тая агульна людская культура, **да якой ідзе сацыялізм».**

Мы ведаем вельмі аб многа чым прыгожым, што нясе нам канчатковая перамога пралетарыята на ўсім свеце і дасягнення сацыялізму. Нягледзячы на сваю маладосць, мы многа папрацавалі для гэтага і ў часе грамадзянскай вайны і цяпер. Мы і жыццё сваё ахвяруем на гэта. Безумоўна, далучаемся да думкі тав. Сталіна, аднаго з самых аўтарытэтных правадыроў Камуністычнай партыі.

Але, на наш погляд, думкі тав. Сталіна трэба тлумачыць лепш. Тав. Сталін кажа: «Вось якая тая агульна людская культура, **да якой ідзе сацыялізм».** А са слоў тав. Крыніцкага, сказаных і тут, і ў папярэдніх артыкулах, прыходзіцца разумець: «вось тая культура, якая павінна быць і ў нас на Беларусі ў гэты час». Вывад трэба зрабіць такі — усё тое, што пад гэту мерку ў гэты час не падыходзіць, павінна разглядацца як уклон, вывіх і г. д.

Пачнём жа разбірацца.

Перш-наперш — прыклады. Не думаем, каб у Цэнтральным органе партыі, у «Правде», сядзелі «расейскія патрыёты». Аб гэтым не можна і падумаць. Возьмем жа цяпер і глянем на творы тых паэтаў, якія змешчаны ў апошнім нумары часопіса «Прожектор» (№ 18) 64, ад 30/IX-25, дадатак да «Правды»). Ёсць там і Ясенін і М. Ціханаў.

Ясенін напісаў «Страну Советскую», але Ясенін напісаў і «Москву кабацкую». У Ясеніна ёсць радкі і савецкія, але ў Ясеніна, як ні ў кога больш, з пункту погляду аб'ектыўнага, расейскага нацыяналізму. Напр.:

Я буду воспевать всем существом
в поэте
Шестую часть земли,
Названьем кратким Русь...

Вось і ў «Прожекторе» Ясенін піша верш пра Персію, «Персидский мотив», а пачынае яго так:

Отчего луна так светит тускло,
На сады и стены Харасана.
Словно я хожу равниной русской
Под шуршащим пологом тумана...

Абываталь скажа: «і ў Персіі рускія раўніны». А вось «Прожектор» друкуе.

**Ціханаў** напісаў шмат рэвалюцыйных вершаў — «Самі», «Балада пра сіні пакет» і г. д. і г. д. Але ў Ціханава ёсць такі верш (зборнік «Брага», 1922 г., ст. 67):

Разве жить без русского простора
Небу с позолоченной резьбой?
Надо мной, как над студеным борам,
Птичий трепет — облаков прибой...

Абываталь скажа — «які расейскі вялікадзяржаўны шавінізм! Аж на неба лезе!»

А «Правда» не лічыць Ціханава шавіністам і друкуе яго другія вершы ў сваім часопісе «Прожектор».

У чым жа справа?

А справа вось у чым.

Як для таго, каб прыйсці да сацыялізму, трэба прайсці праз вядомыя этапы, таксама і для таго, каб прыйсці да той агульналюдскай культуры, аб якой кажа тав. Сталін, трэба прайсці праз вядомыя этапы.

Акадэмік Аўсянікаў-Кулікоўскі ў сваёй працы «Психология национальностей» выводзіць, што кожная нацыянальнасць мае свае ўласцівыя рысы ў псіхалогіі. Паэт, які піша рэвалюцыйныя вершы, які ўсёй сваёй істотай адданы Камуністычнай партыі, у **даны пераходны момант** мае права час ад часу напісаць не толькі на агульна-пралетарскія матывы, а і аб сваёй краіне, аб спецыфічным у Беларускай псіхалогіі і г. д.

У гэтым няма нічога страшнага. У таго, хто пачытае гэткі верш, будзе больш ахвоты працаваць у гэтай краіне. Гэта добра ведаюць тав. з цэнтральных партыйных органаў, трэба, каб і ў нас гэта ведалі нашы часопісы і газеты.

У іншым выпадку гэта будзе не культура, або голая агітацыя, або этнаграфія.

Каб тав. Крыніцкі трымаў гэта ўсё на ўвазе, калі ён расшыфроўвае думкі тав. Сталіна, тады б ён не запісаў, што нібыта ў нас хто кажа: «Беларуссия крестьянский край, значит, «наша культура — крестьянская культура». Ні ад кога мы такіх слоў не чулі. А варта было б напісаць так:

«Як пераходная форма да агульналюдскай культуры, аб якой кажа і тав. Сталін, у нас, на Беларусі, існуе беларуская культура як у Расіі — руская і г. д. Паасобныя культурныя працаўнікі, пападаючыя пад уплыў не нашай ідэалогіі, могуць адбіваць яе (ідэалогію) у сваіх творах. Наша задача, шчыра дапамагаючы развіццю беларускае культуры, дапамагаць гэтым паасобным таварышам вызваліцца ад варожай ідэалогіі».

Паколькі так не было сказана, **мы бачым у гэтым пятую памылку.**

6. Тав. Крыніцкі на стар. 28—29, дзе ён гаворыць аб «уплывах» «абывацельшчыны», чамусьці ўспамінае аб правадырах. Гаворыць, што папулярызацыя правадыроў даходзіць у нас да абсурду.

Каб рабоча-сялянскія масы ведалі, чые загады яны выконваюць, яны павінны верыць у гэтых людзей, глядзець на іх, як на правадыроў. **Гэта, на наш погляд, трэба рабіць у імя ўзмацнення аўтарытэту цэнтральных савецкіх органаў БССР,** як гэта робіцца і на Украіне і ў РСФСР.

У прамове тав. Крыніцкага гэта не ясна, а няяснасць часамі праводзіцца ў жыццё. Каб не застацца галаслоўнымі, правядзем адзін характэрны факт. Думаем, што не робім дрэннага ўчынку, агалашаючы яго, і думаем, што тав., на якога будзем спасылацца, не адмовіцца пацвердзіць гэты факт.

Па справах дапамогі другой дывізіі ў выданні літаратуры на беларускай мове прыйшлося быць у тав. Арабея[3]. Арабей прасіў тэрмінова пералажыць на беларускую мову «Памятку отпускнику красноармейцу». Адзін з ніжэйпадпісаных перагледзеў рукапіс і заўважыў, што там няма нічога аб Беларусі. Ён сказаў аб гэтым тав. Арабею: «Чаму б гэта не ўключыць у кніжку пару артыкулаў аб Беларусі, аб беларускай школе, культуры, чаму б адначасна з жыццяпісам тав. Калініна і Рыкава не даць жыццяпісаў тав. Чарвякова і Адамовіча. Першы — Старшыня Саюзнага ЦВК, а другі — старшыня СНК БССР і член РВС СССР, які мае самыя блізкія адносіны да арміі.

Тав. Арабей ад непасрэднага адказу ўхіляўся, але пасля прызнаўся, што якраз падобнае пытанне ён узнімаў у ЦК партыі і там яму не дазволілі змясціць матэрыялы аб т. т. Чарвякову і Адамовічу.

Кніжка выдрукавана і можна бачыць у яе дадатковай частцы партрэты т.т. Адамовіча і Чарвякова без адпаведнага тэксту.

**Мы бачым у гэтым шостую памылку.**

Урэшце, яшчэ раз зазначаем, што паданыя факты і, на наш погляд, памылкі, падаюцца на ВАШ аўтарытэтны разгляд з думкаю, што высвятленне іх дадасць больш яснасці той лініі, якая праводзіцца на Беларусі КП(б) Беларусі.

12 кастрычніка 1925 г.

З камуністычным прывітаннем:

**М. ЗАРЭЦКІ, Анатоль АЖГІРЭЙ, Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

Такім чынам, аўтары ліста разлічвалі на яго «аўтарытэтны разгляд» з тым, каб «дадаць больш яснасці» лініі КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы. Былі акрэслены і тыя праблемы, разглядаючы якія сакратар ЦК, па іх думцы, дапусціў шэраг недакладнасцей. Для выпраўлення іх прапанавалася выявіць:

— больш уважлівыя адносіны да інтэлігенцыі, разуменне яе ролі ў нацыянальным аднаўленні Беларусі;

— недапушчэнне любой зняваргі да месца і правоў рэспублікі ў саюзнай дзяржаве, што вызначана Дэкларацыяй аб утварэнні Саюза ССР;

— правільнае разуменне культуры ў яе агульначалавечым і нацыянальным вымярэнні;

— правядзенне на справе, а не на словах беларусізацыі;

— уважлівасць да нацыянальных лідэраў, не дапускаючы іх прыніжэння у параўнанні з саюзнымі.

Выказаныя пажаданні, якія намячалі шляхі да грамадскай згоды, пачуты аднак не былі. Ужо на трэці дзень пасля атрымання ліста Крыніцкі значную частку сваёй прамовы на пленуме ЦК КП(б)Б (12—15 кастрычніка), дзе, побач з іншымі, абмяркоўвалася і нацыянальнае пытанне, прысвяціў лісту маладнякоўцаў. Перш-наперш ён падкрэсліў, што даклад на мінскім партактыве рабіў не ад сябе, а па даручэнні бюро, канспект і стэнаграму выступлення таксама зацвердзіла бюро і яно ж дало згоду на апублікаванне. Бюро, заявіў Крыніцкі, аднагалосна вырашыла прапанаваць пленуму пацвердзіць аналіз, які зроблены ў гэтым дакладзе. Сакратар ЦК пярэчыў аўтарам ліста па ўсіх пытаннях, якія яны ўзнімалі, сцвярджаючы, што яго альбо не так зразумелі, альбо аўтары самі дапускаюць недакладнасці.

Галоўным быў, аднак, той вывад, да якога сакратар ЦК імкнуўся падвесці пленум: «назрело такое положение, что интеллигенцию дифференцировать нужно поосновательнее, нужно выделить часть, действительно близкую нам, больше чем выделить, демонстрировав доверие ей, вызвать демонстрацию доверия к нам с ее стороны.., и выяснить действительно враждебную нам линию части (мы думаем, меньшей части) интеллигенции. Значительная часть интеллигенции, очевидно, будет только пассивно неопределенна».

Што тычылася маладнякоўцаў, то «мы признали необходимым разговор с «Молодняком», вернее с частью тт. (может быть, более широкой группой, человек 5—7), подписавших письмо, выделить для этих переговоров из бюро ЦК 5 человек»; «молодняковцы должны будут ответить или заявить кое-что в газете, например, так, что они понимают эти опасности, видят их.., что опасности этого мелкобуржуазного влияния пробираются в их среду и они считают нужным с ними бороться и поэтому согласны в основном с анализом, данным в докладе...»

Крыніцкі ў дадзеным выпадку перадаваў размову на закрытым пасяджэнні бюро ЦК, якое адбылося 13 кастрычніка, на другі дзень пасля паступлення ліста. Па пытанні, сфармуляваным як «Заява тт. з групы Маладняк у бюро ЦК», была прынята пастанова з шасці пунктаў. У першым з іх гаварылася: «использовать реакцию интеллигенции на доклад «Особенности внутрипартийного положения КП(б)Б в целях расслоения ее, приближения к партии тех из интеллигентов, которые на деле готовы с партией работать». Далей пералічваліся канкрэтныя мерапрыемствы, якія намячалася ажыццявіць у адносінах да «Маладняка»: правесці агульны сход, сустрэцца з яго партыйнай фракцыяй пры ўдзеле Крыніцкага, Чарвякова, Адамовіча, Гессена, паставіць даклад Крыніцкага аб пленуме ЦК, дзе «асвяціць, паміж іншым, высунутыя гэтай заявай пытанні» і інш.

Праз некалькі дзён, 22 кастрычніка, бюро ЦК прымае рашэнне «Аб газеце «Савецкая Беларусь», цесна звязанае і з пастановай па лісце маладнякоўцаў, і нядаўнім пленумам ЦК КП(б)Б. Першым пунктам бюро канстатавала, што «политическая линия газеты, выразившаяся в ряде помещенных в последнее время статеек и фельетонов, ведет к превращению газеты не в орган, проводящий влияние партии, а в орган, говорящий от имени беспартийной интеллигенции, делающей выпады против партийных газет и допускающий прямое проявление национализма». У другім пункце гаварылася аб недапусцімасці «помещения без согласования с партийными органами и без малейшей оговорки от редакции статьи Трамповича, полемизирующей против постановки вопросов, данной ЦК КП(б)Б»[4]. Бюро вырашыла «тов. Шипило немедленно снять с работы редактора «Савецкая Беларусь», ад імя рэдакцыі неадкладна даць адказ на артыкул Трамповіча, узгадніўшы яго з аддзелам друку ЦК, перагледзець склад работнікаў газеты і ўзмацніць яго членамі партыі і камсамольцамі. Агітацыйна-прапагандысцкаму аддзелу было даручана арганізаваць у «Савецкай Беларусі» выступленне «ў духу лініі партыі» буйнейшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі — маладнякоўцаў.

3-га лістапада 1925 г. А. Крыніцкі выступіў з дакладам на канферэнцыі камстудэнцтва і настаўніцтва ВНУ і рабфакаў. З даклада больш падрабязна высвятлілася падаплёка расправы з «Савецкай Беларуссю»: дыскусія з устаноўкамі ЦК, якія друкаваліся ў «Звяздзе», уключаючы і даклад «Асаблівасці ўнутрыпартыйнага становішча КП(б)Б», дыскусія аб «Маладняку», не ўзгодненая з партыйнымі органамі, скажоныя артыкулы аб працы Белдзяржвыдавецтва, нарэшце, публікацыя артыкула Трамповіча, «прасякнутага думкамі аб выключнай ролі і гістарычнай місіі беларускай інтэлігенцыі».

Стала таксама ясна, што выступленне Крыніцкага на сходзе мінскага гарадскога партыйнага актыву папярэднічала пастанова аргбюро ЦК УсеКП(б), якая папярэджвала партыйныя арганізацыі аб небяспецы дробнабуржуазных уплываў, перараджэння і тых сацыяльных сілах, якія іх нясуць. Даклад Крыніцкага, які выклікаў у рэспубліцы далёка не адназначныя водгукі і адносіны, паказваў на наступленне змен у палітычным курсе, згортванне нэпа, вяртанне пад ціскам Сталіна да левакамуністычнай ідэалогіі і ваенна-камуністычных метадаў кіравання, што патрабавалі абвастрэння класавай барацьбы і стварэння «вобраза ворага».

**Р. ПЛАТОНАЎ, доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік БелНДЦ дакументазнаўства і рэтраінфармацыі.**

---

1. Даклад прачытаны 18 верасня 1925 г. на сходзе членаў бюро ячэек Мінскай гарадской арганізацыі КП(б)Б.

2. Гессен С. М.—у 1925—1926 гг. член бюро і загадчык АПА ЦК КП(б)Б.

3. Арабей М. Л.—у 1925 г. супрацоўнік апарату ЦК КП(б)Б.

4. П. В. Трамповіч у артыкуле «Шляхі беларускай інтэлігенцыі» змешчаным у «Савецкай Беларусі» 21 кастрычніка 1925 г., пісаў аб беларускай інтэлігенцыі як адзінай цэлай групе, неадрыўнай ад рабочых і сялян, якая мае ўсе правы і падставы, каб наладзіць сувязь з партыяй і сумесна працаваць у партыйных і дзяржаўных установах. Аб дыферэнцыяцыі ў асяроддзі інтэлігенцыі, у процівагу А. Крыніцкаму, у артыкуле не гаварылася.

# Аляксандр МІРОНАЎ

15 снежня пасля працяглай хваробы памёр вядомы пісьменнік, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Міронаў.

Нарадзіўся Аляксандр Яўгенавіч Міронаў 23 лістапада 1910 года ў горадзе Орша ў сям'і чыгуначнага служачага. Скончыў агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску. Працоўны шлях пачаў рабочым. Быў рэпарцёрам газеты «Звязда». У 1930 годзе выехаў з Мінска ў Архангельск. Працаваў журналістам. Плаваў на суднах гандлёвага флоту матросам. Удзельнічаў у гістарычнай чалюскінскай эпапеі 1933—1934 гадоў. У час Вялікай Айчыннай вайны служыў на Паўночным Флоце. Прымаў удзел у баях. Актыўна супрацоўнічаў у флоцкім друку. Пасля вяртання ў Беларусь працаваў уласным карэспандэнтам газеты «Звязда», адказным сакратаром рэдакцыі альманаха «Советская Отчизна», начальнікам сцэнарнага аддзела кінастудыі «Беларусьфільм».



Сваю літаратурную дзейнасць Аляксандр Міронаў пачаў у трыццатыя гады. Першыя яго кнігі прозы выйшлі ў Архангельску. Шматгадовая плённая творчая праца прынесла аўтару шырокую вядомасць. Убачылі свет дзесяткі яго кніг: «Морские будни», «Поход «Челюскина», «Чукотские новеллы», «Большое сердце», «Мужество», «Крепость во льдах», «Остров розовых скал», «Конец легенды», «Флаг корабля», «По морям, по океанам», «Корабли выходят в океан», «Только море вокруг», «Ледовая Одиссея», «Коса на камень», «Через тысячу смертей», «Не поле перейти» і іншыя. У гэтыя яго кнігі, авеяныя хвалюючай марской рамантыкай, прасякнутыя палымянай любоўю да Радзімы, увайшлі шматлікія нарысы і апавяданні, аповесці і раманы — шчырыя і па-мастацку праўдзівыя творы, прысвечаныя людзям працы, героям вайны, маракам,— іх нялёгкаму, поўнаму выпрабаванняў, мужнаму жыццю.

Шмат зроблена пісьменнікам для дзяцей. Без перабольшання можна сцвярджаць: на кнігах пісьменніка выхоўвалася не адно пакаленне. Аляксандр Міронаў адрасаваў юным чытачам аповесць «Далеко на севере», зборнікі апавяданняў «В стране голубых просторов», «Честное пионерское», «В краю полуночного солнца», «В чужих широтах», «На океанских дорогах», «Сын докера», «Это твои друзья», аповесць-успаміны «Дзед Маўр» і іншыя.

У жыцці Аляксандр Міронаў быў гэткім жа сумленным, прынцыповым і звычлівым чалавекам, як і героі яго твораў. Заўсёды памагаў маладым аўтарам. Неацэнны ўклад пісьменніка ў летапіс Вялікай Айчыннай вайны. Менавіта ў яго літаратурнай апрацоўцы ўбачылі свет больш дзесятка кніг удзельнікаў вайны: дакументальныя аповесці В. Сабліна «Батька Минай», В. Паўлава «Идущие впереди», Я. Акушэвіча «Огни в родных лесах» і іншыя.

Значныя заслугі пісьменніка ў літаратуры і грамадскім жыцці адзначаны высокімі ўрадавымі ўзнагародамі. Аляксандр Міронаў быў узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, ордэнамі «Знак Пашаны», Дружбы народаў, Айчыннай вайны II ст., медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, нагруднымі знакамі «Выдатнік міліцыі СССР» і «Выдатнік пагранвойск» II ступені.

Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку, чалавеку добрай душы і чыстага сумлення назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**С. С. ШУШКЕВІЧ, В. Ф. КЕБІЧ, М. І. ДЗЯМЧУК, А. І. БУТЭВІЧ, Я. К. ВАЙТОВІЧ, П. К. КРАЎЧАНКА, У. Д. ЯГОРАЎ, І. А. БРЫЛЬ, В. У. БЫКАЎ, Р. І. БАРАДУЛІН, Н. С. ГІЛЕВІЧ. П. Е. ПАНЧАНКА, Я. І. СКУРКО (Максім Танк), І. П. ШАМЯКІН, В. У. АДАМЧЫК, С. А. АНДРАЮК, А. С. ВАСІЛЕВІЧ, Г. А. ВАСІЛЕЎСКАЯ, А. І. ВЯРЦІНСКІ, М. С. ГІЛЬ (ГІЛЕВІЧ), Г. В. ДАЛІДОВІЧ, А. П. ЖАЛЯЗОЎСКІ, С. І. ЗАКОННІКАЎ, В. В. ЗУЕНАК, Ц. В. КРЫСЬКО (ВАСІЛЬ ВІТКА), А. П. КУДРАВЕЦ, А. А. КАРАТАЙ (Максім ЛУЖАНІН), В. А. ЛУКША, І. Я. НАВУМЕНКА, У. А. ПАЎЛАЎ, Н. Е. ПАШКЕВІЧ, А. У. ПІСЬМЯНКОЎ, І. М. ПТАШНІКАЎ, Б. І. САЧАНКА, І. Д. СІПАКОЎ, В. П. СУПРУНЧУК, В. Я. ТАРАС, В. Ф. ТРЫХМАНЕНКА, М. І. ЧАРГІНЕЦ, І. Г. ЧЫГРЫНАЎ.**

# ДАРУЙ І БЫВАЙ, ДЗЯДЗЬКА МІХАЛ

Адышоў ад нас дзядзька Міхал. Так яго звалі многія літаратары, мастакі, музыкі, сябры. Няўрымслівы і ветлівы, безабаронны і мужны быў гэты чалавек. Памёр Міхал Сымонавіч Ляпеха.

Прачытаўшы гэтае прозвішча, многія прыпомняць Кушляны, хату Францішка Багушэвіча, і зашчымяць сэрцы ад цяжкай страты ахоўніка славутай сядзібы. Калі б дайшла справа да выдання багушэвічаўскай энцыклапедыі, то, несумненна, Міхал Ляпеха ў ёй быў бы змешчаны. Пачакаем да тых дзён і часу. Яго называлі кушлянскім Гейчанкам. Тут нешта ёсць агульнае. Гейчанка пасля вайны прыехаў у Міхайлаўскае, а Ляпеха — у Кушляны. Адзін і другі адраджалі сядзібы паэтаў. Аднаму спрыялі, дапамагалі, а другому больш перашкаджалі.

Вось як сам апісваў дзядзька Міхал свой прыезд у Кушляны. «Загадам Смаргонскага райпрамкамбіната, дзе я працаваў, быў накіраваны ў 1945 годзе на пошукі пакладаў вапны ў Стрыпунскі сельсавет. Доўга хадзіў па гарах гэтага краю, пакуль адшукаў залежы вапнавага каменю. Гэта была Лысая Гара каля вёскі Трыколі (цяпер яе няма)». Пасля чаго М. Ляпеху прызначылі майстрам па выкапцы вапны і загадчыкам вапельні. Шукаў тут сабе жытло. Хат пустых было шмат, бо некаторыя мясцовыя людзі, залічыўшы сябе да палякаў, паехалі ў Польшчу. Ён звярнуў увагу, што і хата Ф. Багушэвіча таксама без гаспадара. У райфа ён даведаўся, што цана яе высокая, а таму і купца не знаходзілася. Міхал Ляпеха пераконваў улады, што гэта хата беларускага паэта і яе трэба захаваць. Яе падладзілі і размясцілі ў ёй бібліятэку, а дзядзька Міхал стаў вартаўніком. Ён стаў рупіцца за ўсё, што звязана з імем Ф. Багушэвіча. На доўгія гады ўся ўвага гэтага шчырага беларуса пераключылася на паэта-дэмакрата. Пачаў хадзіць па ўсім наваколлі і збіраць мэблю, усё, што належала да яго імя.

Дзядзька Міхал збіраў спадчыну, перапісваўся з літаратуразнаўцамі, прымаў іх у Багушэвічавай хаце. Пачаў вадзіць экскурсіі, па-майстэрску дэкламаваць вершы паэта. Яго непакоіла, што часта мяняюцца бібліятэкары. Напужала яго і тая акалічнасць, што недзе ў канцы 40 — пачатку 50-х гадоў раптам пачалі гарэць адна за другой сядзібы суседніх маёнткаў: у Асіпанах, Стрыпунах, Сцілюнах. Падпаўзала «чарга» да Кушлянаў. Пільней стаў прыглядацца бывалы вартаўнік. І ўсё ж пажар выбухнуў на суседняй сядзібе Маркоўскага. Дзядзька Міхал у імгненне вока па драбіне заскочыў на страху і атушыў. Агонь мог перакінуцца і на хату Ф. Багушэвіча. Руплівец апярэдзіў яго. І ўсё ж дом Маркоўскага ўлады разабралі і пабудавалі з яго ў нейкай вёсцы школу-сямігодку.

Больш сарака гадоў даглядаў Міхал Ляпеха сядзібу нашага паэта. Колькі ён правёў экскурсій. Колькі пачуў пра «мужыцкага адваката». Ён быў і вартаўніком, і садоўнікам, і наглядчыкам, і экскурсаводам, і сталяром, і яшчэ шмат чым. Рамантаваў альтанку, рабіў падсадку дрэў, паставіў абгародку каля запаветнага каменя Багушэвіча, маляваў, садзіў кветкі... У старэчым узросце дачакаўся той шчаслівай хвіліны, калі даваў парады распрацоўшчыкам першай экспазіцыі мемарыяльнага музея любімага паэта. І хоць сам пераехаў ужо жыць да дачкі ў Маладэчна, але пастаянна думаў пра Кушляны. Акрылены прыязджаў на адкрыццё музея і нават разразаў запаветную стужачку. Прымаў падзяку і кветкі. Гэта была яго найвышэйшая радасць. Толькі цяпер ён перакanaўся, што збылася яго мара і ён выканаў свой святы абавязак беларуса і грамадзяніна.

Жаліўся дзядзька Міхал на сваё нягеглае здароўе:

Не хочацца казаць,  
Але сэрца часта кажа,  
Што Міхале скора  
У зямельку ляжа.

Так ён пісаў недзе год назад. І вось гэты развітальны час прабіў. У свае 89 гадоў ён лёг у зямлю. Няхай яна яму будзе пухам.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, вядучаму навуковаму супрацоўніку Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі Мікалаю Мікалаевічу Арочку і яго жонцы, былому намесніку дырэктара Дома літаратара Марыі Іванаўне Арочка з прычыны напаткаўшага іх гора — трагічнай смерці сына ВІТАЛЯ.**

ЧАС І МЫ

# ФРОНТ НЯНАВІСЦІ І ХЛУСНІ

## Народны рух Беларусі — што гэта такое?

МІНУЛА НЯМАЛА ЧАСУ, калі ў Беларусі частка «вечна ўчарашніх», адмовіўшыся ад ранейшага наймення, утварыла чарговае грамадска-палітычнае аб'яднанне — Народны рух Беларусі. Даўняя бальшавіцкая традыцыя пераўтварэння грамадскага жыцця ў барацьбу класаў і ідэалогій, якая ідзе з часоў франтоў грамадзянскай вайны супраць усяго народа, фронту барацьбы за калектывізацыю супраць сялянства, фронту барацьбы з «нацыяналізмам» супраць беларускай — і не толькі — інтэлігенцыі і інш., прыпыніла, як вядома, эканамічнае, сацыяльна-палітычнае і культурнае развіццё народаў былога СССР на дзесяткі год, але знайшла ўвасабленне і ў сённяшняй рэальнасці рэспублікі. Гаворка ідзе пра ўтварэнне своеасаблівага фронту нянавісці і хлусні, найбольш прыдатнага ва ўмовах, калі не існуе больш СССР і КПСС-КПБ, для барацьбы за ўвасабленне ідэалаў сталінска-брэжнеўскага сацыялізму, аднаўленне таталітарнага рэжыму і выкрыцця іншадумцаў дэмакратаў.

Гэты фронт не зарэгістраваны ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам рэспублікі, але ён існуе і дзейнічае, не лічачыся з ідэаламі незалежнай дэмакратычнай прававой дзяржавы, ігнаруючы пісаныя і няпісаныя законы грамадска-палітычнага жыцця і традыцыі грамадскай маралі, яго смуродна-пячорнае дыханне адчуваюць грамадзяне Беларусі, перагортваючы старонкі некаторых перыядычных выданняў рэспублікі або трапляючы на нешматлюдныя, але добра арганізаваныя мітынгі «вечна ўчарашніх».

Чаму фронт нянавісці? Бо такая прырода «вечна ўчарашніх»: ненавідзець усіх, хто дазваляе сабе думаць і дзейнічаць іначай, чым прыхільнікі «адзіна правільнага вучэння». Нянавісць гэта «адрасавана» тым, хто імкнецца да ўсталявання новага канстытуцыйнага ладу ў рэспубліцы і пабудовы незалежнай дэмакратычнай беларускай дзяржавы, да эканамічнага разняволення працаўніка і стварэння ўмоў, каб ён стаў заможным, а таму і вольным, да адраджэння нацыянальнай культуры і беларускай мовы.

Чаму фронт хлусні? Бо не могуць тыя, хто крывавіў народы і хлусіў дзесяцігоддзі, гаварыць праўду. Жыць па праўдзе ўласціва тым, хто ведае цану людскасці і маральнасці. Хіба не грунтуецца на хлусні дзейнасць тых, хто сцвярджае, што беларускага народа няма, а ёсць насельніцтва паўднёва-заходняга краю? Хто не здольны «прачытаць» праўдзівую гісторыю Беларусі, абмяжоўваючыся інтэлектуальным набыткам сталінскага «кароткага курса» або «адкрыццямі» ўчарашніх і сённяшніх аракулаў імперскай расійскай мінуўшчыны? Хто, аднойчы выракшыся свайго народа, называе сябе яго абаронцам? Хто, гаворачы пра сацыяльную абароненасць працоўных, стварае «ценявую» эканоміку, заснаваную на карупцыі, раскраданні агульнанароднай маёмасці і бяспрыкладным падмане грамадзян Беларусі?

Дык хто ж яны, «айцы» фронту нянавісці і хлусні? Былыя наменклатурныя работнікі КПБ і выпешчанага ёй дзяржаўнага апарату, сённяшнія ўласнікі «грашовых мяшкоў», няправедна нажытых з выкарыстаннем карумпаваных наменклатурных сувязей і сумніцельных па паходжанні пачатковых капіталаў. Да іх прымкнулі прыхільнікі здзічэлага расійскага шавінізму і гвалтоўнай «панславянізацыі» беларусаў, безумоўна ж, пад сцягам «старэйшага» брата. Увайшлі ў склад фронту як інтэлектуальная эліта і няўдачлівыя аматары прыгожага пісьменства ў асобе т. зв. баталістаў і марыністаў. Не маглі пакінуць фронт без падтрымкі некаторыя ветэраны карных сталінскіх органаў і—вось дзіва! — камерсанты з кааператываў паважаных ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сіл былога СССР.

Што і казаць, знаёмыя ўсё твары, як і знаёмыя ідэі. Фронт нянавісці і хлусні дробра вядомы грамадзянам Беларусі. Гэта тыя, хто называе сябе абаронцам сацыяльных правоў працоўных, а імкнецца пазбавіць рабочых права на атрыманне ўласнасці ў выніку прыватызацыі, сялян — права на зямлю, інтэлігенцыю — права зарабіць на дастойнае чалавека жыццё.

Хто, набраўшыся камерцыйнага «свербу», гандлюе не толькі талентам і працай народа, але нярэдка і радзімай, ствараючы біржы, выдавецтвы, пасрэдніцка-грабежніцкія фірмы, якія разбэшчваюць грамадскую мараль, распаўсюджваючы парнаграфію, кітч-культуру ды паціху фінансуюць дзейнасць палітычных структур, вядомых сваім варожым стаўленнем да дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі.

Хто, выкарыстоўваючы сваё службовае становішча дзяржаўнага чыноўніка, за «ўзнагароды» дазваляе прыхватызаваць тое з дзяржаўнай маёмасці, што патрапляе прагным дзялкам пад спрытныя рукі. Хто — відаць, не без асабістай карысці — змарнаваў плён працы мільёнаў людзей і бязвыплатна «паставіў» прадукцыю прадпрыемстваў рэспублікі краінам былога СССР на суму звыш ста мільярдаў рублёў.

Хто спяшаецца аднавіць дзейнасць злачыннай КПСС-КПБ і адрадзіць СССР, імкнучыся ўсталяваць «камуністычны рай» для сябе і пекла для народа.

Хто, з'яўляючыся народным дэпутатам з нязручным, як аглобля, найменнем аграрый, злосна пляжыць святое для кожнага грамадзяніна: дзяржаўнасць Беларусі, матчына слова, а мімаходзь і ўвогуле культуру, лічачы яе менш патрэбнай, чым культыватар. Хто, носячы генеральскія пагоны, выкарыстоўвае парламенцкую трыбуну, каб зганьбіць Дзяржаўны сцяг Рэспублікі, называючы яго фашысцкім.

Хто, воляю лёсу распараджаючыся большай часткай інфармацыйнай прасторы Беларусі, дзейнасць якой аплачана з бюджэтных сродкаў, імкнецца ўсяляк выцесніць з яе дзяржаўную мову. Гэта тыя, для каго гаварыць і пісаць па-беларуску горш, як есці хрэн без сала. Хто выкрадае шыльды Таварыства беларускай мовы: адзін раз у час правядзення рэферэндуму за захаванне СССР і другі—падчас святкавання «вечна ўчарашнімі» 72-й гадавіны Кастрычніцкага перавароту. Хто вінаваты ў тым, што дзеткі-першакласнікі атрымоўваюць беларускія «Буквары» не 1 верасня, а напрыканцы лістапада. Хто паціху пераўтварае шэраг устаноў культуры і некаторыя творчыя саюзы Беларусі ў дамы гандлю і паслуг. Хто слова Божае нясе да людзей на чужой ім мове, выконваючы гэтым палітычны заказ той ці іншай структуры суседніх дзяржаў. Якая вера, калі святар служыць не Богу, а замежным палітыкам!?

Гэты пералік можна працягваць. Аднак важней удакладніць: якія сацыяльныя групы насельніцтва Беларусі могуць падпасці пад уплыў азначанага фронту. Гэта значная частка кіруючага складу дзяржаўных прадпрыемстваў і калектыўных гаспадарак; тыя групы рабочых і служачых, якія прывыклі мала працаваць, але атрымоўваць гарантаваную мінімальна-дастатковую для задавальнення жыццёвых патрэб зарплату; пэўныя колы ветэранаў-пенсіянераў і афіцэраў-адстаўнікоў; невялікая частка сялян, якіх магчымасць напаўпрацы-напаўгультайства ў калгасах-саўгасах задавальняе. Да іх ахвотна далучаюцца, незалежна ад сацыяльнага паходжання і палітычных перакананняў, людзі, якія не могуць прыняць самую ідэю дзяржаўнасці Беларусі і звыкнуцца з новай сацыяльнай з'явай: нацыянальна-культурным адраджэннем Бацькаўшчыны.

У адным з апошніх нумароў газеты «Мы и время» ў форме «патрабаванняў выбаршчыкаў» да дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета выкладзены ў сістэматызаваным выглядзе ідэі, вельмі прывабныя для прыхільнікаў фронту нянавісці і хлусні:

— Асудзіць пагадненне ў Віскулях. Падтрымаць ініцыятывы аб аднаўленні адзінства савецкіх народаў... (г. зн. аднавіць таталітарны рэжым улады і рэанімаваць СССР).

— Замарозіць цэны, зняць з парадку дня сесіі прыняцце Закона аб прыватызацыі... (г. зн. працягваць «прыхватызацыю» пры адсутнасці Закона на карысць выключна былой кампартыйнай наменклатуры, якая «асела» ў органах дзяржаўнага кіравання).

— Не прымаць Закон аб увядзенні прыватнай уласнасці на зямлю... (г. зн. працягваць утрымліваць у кабале значную частку сялян і пакінуць на паўгалодным «пайку» гараджан, стрымліваючы сацыяльна-эканамічныя рэформы ў сельскай гаспадарцы).

—Выключыць скупку нацыянальных багаццяў замежнымі капіталістамі.. (г. зн. не дапусціць замежныя інвестыцыі ў эканоміку Беларусі, што выгадна толькі «прыхватызатарам» і той частцы дырэктарска-старшынёўскага гаспадарчага корпусу, якая сумуе па адміністрацыйна-каманднай эканоміцы).

— Адмовіцца ад абодвух праектаў Канстытуцыі Беларусі, падрыхтаваных камісіяй Вярхоўнага Савета і БНФ... (г. зн. захаваць дзеянне Канстытуцыі былой БССР, што дае карт-бланш на яе аднаўленне ў складзе СССР).

— Узаконіць беларускую і рускую мовы ў якасці афіцыйных... (г. зн. пазбавіць народ Беларусі перспектыў нацыянальна-культурнага адраджэння).

— Адмяніць дзяржаўную сімволіку... (г. зн. занядбаць лепшыя старонкі айчыннай гісторыі, звязаныя з яе выкарыстаннем).

— Захаваць адзіную вайсковую прысягу... (г. зн. пазбавіць маладую дзяржаву ўзброеных сіл і сіл аховы грамадскага парадку).

І напрыканцы класічнае: адмяніць неканстытуцыйнае антыдэмакратычнае прыпыненне дзейнасці КПБ.

Азначаны фронт актыўна дзейнічае над увасабленнем сваіх ідэй, спадзеючыся, што настане час для захопу ўлады і аднаўлення антыдэмакратычнага рэжыму ў рэспубліцы. Пажадаем яму няўдачы, як і ў жніўні 1991 года.

Разам з тым, як да магчымага варыянту барацьбы за ўладу, фронт нянавісці і хлусні рыхтуецца і да ўдзелу ў будучых выбарах у Саветы народных дэпутатаў, спадзеючыся на набыты за дзесяцігоддзі багаты вопыт сацыяльнай дэмагогіі, на грашовыя мяшкі схаваных партыйных фінансавых сродкаў, укладзеных да пары да часу ў камерцыйныя структуры, а таксама на падтрымку наменклатуры ў цяперашніх структурах улады.

Рэальна процістаяць фронту аб'яднанай рэакцыі можа згуртаванне дэмакратычных палітычных партый і рухаў, якім, аднак, не шкодзіла б паскорыць перыяд самаарганізацыі і самасцвярджэння. Палітычнай асновай для такога аб'яднання павінна быць праграма ўмацавання дэмакратычнай незалежнай беларускай дзяржавы, развіцця шматукладнай эканомікі на грунце суіснавання розных формаў уласнасці, шырокага забеспячэння асабовых і сацыяльных правоў чалавека. Менавіта з такой ініцыятывай выступіла Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада яшчэ на пачатку гэтага года, прапануючы стварыць шырокі дэмакратычны блок Новая Беларусь. Гэтая ідэя цяпер блізкая да ўвасаблення, пацвярджэннем таму служыць дзейнасць Каардынацыйнай нарады дэмакратычных патрыятычных арганізацый рэспублікі, якая аб'ядноўвае большасць партый і шэраг непалітычных арганізацый, заклапочаных лёсам народаўладдзя, дзяржаўнасці і нацыянальнай культуры Беларусі. Больш за ўсё фронт нянавісці і хлусні баіцца праўды і салідарнасці людзей, якім дарагія ідэалы свабоды, народаўладдзя, эканамічнага і нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Бацькаўшчыны, бо з увасабленнем гэтых ідэалаў ён немінуча адыдзе ў бясслаўнае забыццё.

**Яўген ЦУМАРАЎ,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусь,**
**сябра апазіцыі і фракцыі БСДГ**
**у Вярхоўным Савеце.**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# ПРАЗ 60 ГАДОЎ

**12—13 снежня 1992 г. у г. Мінску ў памяшканні Дома дружбы з замежнымі краінамі адбылася канферэнцыя Беларускага цэнтра нямецкай культуры.**

Урачыстасць, якая праходзіла ў год 200-годдзя пасялення немцаў-каланістаў у цэнтральных раёнах Беларусі (былым Мінскім павеце Мінскай губерні) і 60-годдзя 1-га з'езда працоўных немцаў Беларусі, сабрала 130 прадстаўнікоў нямецкай этнічнай супольнасці з самых розных раёнаў краіны. Акрамя членаў БЦНК-мінчан тут былі і прадстаўнікі Гродзенскага і Бабруйскага аддзяленняў аб'яднання. Адгукнуўшыся на покліч душы, для яднання з суайчыннікамі ў Мінск паасобку прыехалі немцы — жыхары Салігорска, Пінска, Маладзечна, Віцебска...

Пасля прывітання госця — 1-га сакратара пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў Рэспубліцы Беларусь сп. Йаханэса Рэгенбрэхта і намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных узаемаадносінах сп. Міхаіла Жэбрака, выступлення старшыні Праўлення аб'яднання сп. Аляксандра Майснэра і яго паплечнікаў, а таксама акадэмічнай інфармацыі па гісторыі немцаў Беларусі абмяркоўваліся самыя гарачыя, пякучыя праблемы этнакультурнага адраджэння сучасных беларускіх немцаў. (Сучасных, бо даваеннае нямецкае насельніцтва рэспублікі было амаль у поўным складзе вывезена на ўсход у 1941-м, перад вайной. У пасляваенны час аднаўленне ліку немцаў Беларусі ішло за кошт перасялення з розных рэгіёнаў былога СССР). Асабліва актуальна гучала ў вуснах прамоўцаў патрабаванне вяртання да роднай мовы, нацыянальных традыцый. Бо многія з цяперашніх грамадзян Рэспублікі Беларусь нямецкай нацыянальнасці доўгія дзесяцігоддзі былі пазбаўлены магчымасці размаўляць на роднай мове. Прымусовая высылка, лагеры, працармія... Пра гэта згадвалі многія з прысутных. Найвызначальнай жа здалася выразная перакананасць, што прагучала ў многіх прамовах: ва ўмовах выбару паміж магчымасцю выезду на прарадзіму і жыццём, працай у Беларускай дзяржаве немцы краіны ў сваёй большасці вызначаюцца наступным чынам — пачынаючы ўласнае этнакультурнае адраджэнне і падтрымліваючы адраджэнне беларускага народа, увішна працаваць для таго, каб быць шчаслівымі тут — у новай, незалежнай Беларусі.

**Ігар КАРАШЧАНКА,**
**малодшы навуковы**
**супрацоўнік ІМЭФ АН**
**Беларусі.**



Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі:Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры; Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 23.12.92 у 18.10.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12